# ЖЫТА — ЖЫЦЦЁ...

**У ПАРТЫІ І НАРОДЗЕ ВЕТЭРАНЫ ЗАЎСЁДЫ КАРЫСТАЛІСЯ ГЛЫБОКАЙ ПАВАГАЙ. ПЕРШАПАЧАТКОВА ГЭТА СЛОВА, ЯК ВЫ ВЕДАЕЦЕ, АЗНАЧАЛА «СТАРЫ САЛДАТ». ЦЯПЕР ЖА ПАНЯЦЦЕ «ВЕТЭРАН» НАПОЎНІЛАСЯ Ў НАС НОВЫМ, ГУМАНІСТЫЧНЫМ СЭНСАМ. НЕ ТОЛЬКІ ЗАГАРТАВАНЫ ВОІН, АЛЕ І КАДРАВЫ РАБОЧЫ, СЕЛЬСКІ ПРАЦАЎНІК, ЗАСЛУЖАНЫ ВУЧОНЫ, АРТЫСТ, НАСТАЎНІК, УРАЧ — УСІХ ІХ З ПАДЗЯКАЙ І ЎДЗЯЧНАСЦЮ НАЗЫВАЮЦЬ ВЕТЭРАНАМІ. ГЭТА ЛЮДЗІ НЕВЫЧАРПАЛЬНАЙ ЭНЕРГІІ, ВЫСОКІХ МАРАЛЬНЫХ ЯКАСЦЕЙ, ЛЮДЗІ ВЕРНАГА СЛУЖЭННЯ РАДЗІМЕ, ПАРТЫІ.**

**Ю. У. Андропаў.**

На ўрачыстасці ў дзень сямідзесяціпяцігоддзя загадчыка аддзела селекцыі збожжавых культур Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства, Героя Сацыялістычнай Працы, заслужанага дзеяча навукі БССР, прафесара Мікалая Дзмітравіча Мухіна адзін з прамоўцаў сказаў, што юбіляр піша радкі сваёй біяграфіі жытам. І нягледзячы на ўсю алегарычнасць гэтых слоў усе пагадзіліся.

Прафесар Мухін з супрацоўнікамі вывеў новы сорт — беларускае тэтраплоіднае жыта. «Белта» прынцыпова адрознівалася ад звычайнага дыплоіднага, бо мела падвоеную колькасць набораў храмасом. Гэта забяспечыла сорту больш высокія ўраджайнасць, утрыманне бялку і пратэіну ў зярнятах, хутчэйшае паспяванне. Сёння «белта» раяніравана ў Нечарназёмнай зоне, Малдавіі, Стаўрапольскім краі, на Украіне... На Беларусі яно займае значную частку ўсяго жытняга палетка.

Здавалася б, пасля такой перамогі М. Д. Мухіну можна было б, як гавораць, спакойна спачываць на лаўрах. Але прафесар-селекцыянер дбае ўжо аб новых сартах, яшчэ больш ураджайных, кароткасцябловых, якія не баяцца хвароб. Ён прыкідвае: што яны змогуць даць на полі заўтра, паслязаўтра?

Скончыўшы сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках, стаў працаваць на дзяржаўнай станцыі па селекцыі сельгаскультур у Заазер'і. Там і выявіліся арганізатарскія здольнасці маладога вучонага — ён быў прызначаны намеснікам дырэктара. Працаваў напружана, да самазабыцця. Дбаў пра «сваё» жыта. Але... вайна.

Ён будаваў франтавыя аэрадромы, пералапачваў сапёрнаю рыдлёўкаю засеяную свінцовымі зярнятамі зямлю. І здавалася іншы раз яму, што гэта проста такі лапік зямлі трапіўся, што вось перакапае ён яго зараз і пасее жыта — густое, умалотнае...

Але здзейсніць сваю мару Мухін змог толькі амаль праз трыццаць гадоў пошукаў, сумненняў і адкрыццяў.

Пошукі, сумненні, адкрыцці... На гэтым доўгім шляху Мікалай Дзмітравіч займеў шмат паслядоўнікаў, сяброў, аднадумцаў. Многія з тых, хто пад яго кіраўніцтвам пачынаў працаваць яшчэ ў Заазер'і, сталі потым вядомымі вучонымі. Сёння «школа Мухіна» — гэта цэлы атрад вучоных-селекцыянераў. Сярод іх 27 кандыдатаў навук. В. А. Лаўруковіч, І. Я. Шчаглоў, Г. Л. Лапатка, У. А. Сямёнаў — усе чацвёра разам са сваім настаўнікам стваралі «белту». А сёння яны самі — вядомыя селекцыянеры, маюць ужо сваіх вучняў. Але не-не, дый зазірне нехта з тае чацвёркі ў кабінет да Мухіна: «Давайце параімся, Мікалай Дзмітравіч. Падкажыце, калі ласка...»

Нікога са сваіх былых вучняў не забывае Мухін, нікому не адмаўляе ў парадзе.

Прафесар Мухін сябруе з многімі кіраўнікамі і спецыялістамі гаспадарак рэспублікі. А старшынь калгасаў «Светлы шлях» Маладзечанскага і «Маяк камунізму» Барысаўскага раёнаў Герояў Сацыялістычнай Працы Уладзіміра Міхайлавіча Калачыка і Хвядоса Вавілавіча Юданава, старшыню калгаса «Зара камунізму» Іванаўскага раёна Івана Іванавіча Савенку вучоны лічыць сваімі сааўтарамі, людзьмі, якія далі новаму жыту пуцёўку ў жыццё. Шкада, што далёка не ўсюды і не гэтак хутка, як хацелася б, новыя сарты жыта трапляюць на калгасныя і саўгасныя палеткі.

Менавіта пра гэта і гаварыў М. Д. Мухін, выступаючы 15 жніўня ў часе сустрэчы ветэранаў партыі і працы з кіраўнікамі КПСС: «Вучоныя нашай краіны ўзбагацілі навуку новымі адкрыццямі і вынаходствамі. Але ці ад усіх навуковых распрацовак мы атрымліваем адпаведную аддачу? На жаль, не. Многія з іх захоўваюцца ў шафах і старэюць, а на іх жа выдаткаваны час, сілы і сродкі. На мой погляд, не адпрацаваны сістэма і дакладны механізм укаранення дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу».

Выказаўся смела, востра, па-партыйнаму прынцыпова!

І не толькі выказаўся. Нягледзячы на паважны ўзрост і занятасць, Мікалай Дзмітравіч наведваецца то ў адзін, то ў другі раён рэспублікі — тлумачыць, дапамагае, вучыць, агітуе... У першую чаргу імкнецца перадаць свой вопыт, свой імпэт маладым, энергічным спецыялістам. Мухін-вучоны, Мухін-камуніст клапоціцца, каб кожны з іх стаў настойлівым у пошуку, бо без гэтых якасцяў нават вопытны хлебароб — ці то вучоны, ці то калгаснік — не дасягне поспеху.

Ветэрану партыі Мікалаю Дзмітравічу Мухіну вельмі важна ведаць, быць упэўненым, што на змену яму, яго пакаленню ідуць людзі, якія дасканала ведаюць сваю справу і ніколі не здрадзяць тым мэтам, дзеля якіх жыве і напружана працуе сёння ён сам, вучоны, што адрадзіў славу беларускага жыта.

**Віктар ПАНЯВІН.**
**Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.**


Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

**БЕЛАРУСЬ** № 11 (539)

ЛІСТАПАД 1983 г.

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1930 г.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.


## У НУМАРЫ:






Журнал «Беларусь» на белорусском языке.

Здадзена ў набор 14.09.83. Падпісана да друку 15.10.83. АТ 08309. Фармат 70×108 1/8. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 13 096 экз. Зак. 481.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** 220005, Мінск-5, вуліца Захарава, 19.
**ТЭЛЕФОНЫ:** намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, камуністычнай маралі, нарысаў, культуры — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

220041, Мінск-41, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

*ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ*

# ГАВОРЫЦЬ... РОБАТ

У кватэры раздаецца тэлефонны званок. З трубкі чуецца мужчынскі барытон з машынным акцэнтам: «Добры дзень! Гаворыць аўтаматычная служба міжгародняй тэлефоннай станцыі...» Робат нагадвае абаненту, колькі ён запазычыў за міжгароднія тэлефонныя размовы, папярэджвае аб тэрмінах аплаты. Пстрычка — і аўтамат адключаецца, набірае наступны нумар. Калі ж днём размова не адбылася, робат сам уключаецца ў патрэбны час у гарадскую сетку ўвечары і зноў робіць напамінанне тым абанентам, якіх не заспеў дома ўдзень.

Укараненнем сістэмы «Фанемафон» займаецца лабараторыя аналізу і сінтэзу мовы мінскага навуковага аддзела Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута сувязі, якую ўзначальвае кандыдат тэхнічных навук Б. М. Лобанаў. Эксперымент вядзе кіраўнік сектара ўкаранення Л. М. Первой.

Каменціруе начальнік рэспубліканскай міжгародняй тэлефоннай станцыі Р. С. Раманоўская:

— Эксперымент пачаўся ў ліпені. Але яго карысць мы бачым ужо сёння. Бо «папяровая» тэхналогія даволі складаная. Спачатку аўтамат назапашвае перфакарты з тэлефонамі абанентаў, якія звanілі ў іншыя гарады, адзначае час і кошт размовы. Затым перфакарты перадаюцца ў вылічальны цэнтр, дзе яны апрацоўваюцца і друкуюцца на квітанцыі. Рулоны з дакументамі адпраўляюцца на міжгароднюю тэлефонную станцыю. Спецыяльная служба рэжа і складвае квітанцыі ў пачкі, а паштовыя аддзяленні дастаўляюць іх па адрасах. Як бачыце, працэс доўгі, займае шмат людзей, машын, часу. Пры дапамозе сістэмы «Фанемафон» мы зможам за 5 дзён правесці работу, на якую затрачваем цэлы месяц.

*НАВУКА*

# ТАЯМНІЦЫ АДКРЫВАЕ... ІОН



У 1971 годзе ў Беларусі быў створаны навукова-даследчы Інстытут прыкладных фізічных праблем імя А. Н. Сеўчанкі. У ім пачала дзейнічаць новая лабараторыя эліонікі (ад слоў электрон і іон). Гэта галоўны цэнтр у краіне па распрацоўцы фундаментальных тэарэтычных пытанняў і праблем праходжання паскораных іонаў у цвёрдых целах.

Апрацоўка матэрыялаў пучкамі іонаў надае ім новыя якасці, дазваляе атрымліваць сплавы з павышанай трываласцю, тэрмаўстойлівасцю, антыкаразійнасцю.

Пучкі іонаў сталі «працаваць» на многіх заводах паўправадніковых прыбораў. Скажам, пры вырабе інтэгральных схем для ЭВМ. Абпраменьванне аднаго крышталіка крэмнію дазваляе атрымаць інтэгральную схему з памяццю, якая раней запатрабавала б 19.000 транзістараў! Вынікі даследаванняў шырока прымяняюцца ў вытворчых аб'яднаннях «Інтэграл» і іншых прадпрыемствах.

На здымку: старшы інжынер Г. І. Плашчынскі, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Ф. Ф. Камароў, старшы навуковы супрацоўнік А. Ф. Буранкоў, інжынер Я. В. Котаў у лабараторыі эліонікі.

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

*ФОТАПАРТРЭТ*

# ГАСПАДЫНЯ ЛЁСУ СВАЙГО



Пяць гадоў Тамара Шутко працавала на Мінскім гадзіннікавым заводзе. З абавязкамі спраўлялася. Ды толькі адчувала, што не тут яе месца. Выйшла замуж за вясковага хлопца і пераехала на Случчыну. Праўленне калгаса імя Арджанікідзе выдзеліла маладым кватэру.

Пайшла працаваць Тамара на малочнатаварную ферму, прыняла на догляд 25 кароў. Ферма старая, з механізмаў — толькі даільныя апараты, кармы прыходзіцца разносіць уручную. Але ўсе адразу заўважылі, што маладую даярку не палохае цяжкая праца.

Неўзабаве Тамара пачала апераджаць бывалых, вопытных даярак. Прыйшло жаданне вучыцца, і яна паступае на завочнае аддзяленне Смілавіцкага сельскагаспадарчага тэхнікума.

На раённым конкурсе аператараў машыннага даення нядаўна Тамары Шутко было аднадушна прысуджана першае месца.

Па 5 112 кілаграмаў малака надаіла яна ад кожнай фуражнай каровы за мінулы год — паказчык для маладой даяркі выдатны. Сёлета камсамолка абавязалася ўзяць яшчэ вышэйшы рубеж.

Тамара Іванаўна — агітатар, член камітэта камсамола калгаса. Спраўляецца і дома, выхоўвае дваіх дзяцей.

Увесь яе сакрэт у тым, што адчувае яна сябе на сваім месцы.

На здымку: аператар машыннага даення калгаса імя Арджанікідзе Т. І. Шутко.

**Фота У. МАРЦЫЁНКІ.**

*У САМАДЗЕЙНЫХ КАЛЕКТЫВАХ*



Народны хор калгаса «Нёман» Стаўбцоўскага раёна, якім кіруе В. Бабачкін, да 66-й гадавіны Вялікага Кастрычніка падрыхтаваў новую святочную праграму.

Фота У. МАРЦЫЁНКІ.

*НА БУДАЎНІЧЫХ ПЛЯЦОЎКАХ*

# НОВЫЯ ШКОЛЫ

Шэсць новых школ пабудавана сёлета ў Мінску, з іх дзве — у мікраараёне Захад-3. Абедзве школы здадзены датэрмінова. Калектыў будаўнічага ўпраўлення № 13 будтрэста № 4 не толькі ўзвёў школьны будынак, упрыгожыў яго, але і дапамог зрабіць мантаж абсталявання ў сталовай, у лабараторыях і майстэрнях.

На здымку: новая, 158-я мінская школа ў мікраараёне Захад-3.

Фота Л. ПАПКОВІЧА.



*ДАШКОЛЬНАЕ ВЫХАВАННЕ*

Выдавецтва «Народная асвета» выпусціла кнігу «Дашкольнае выхаванне ў БССР». На яе старонках нямала добрых слоў чытач знойдзе аб дзіцячым садзе-яслях калгаса «Новы быт» Мінскага раёна. Вопытныя педагогі вялікую ўвагу надаюць эстэтычнаму выхаванню дзяцей. Традыцыйнымі сталі калектыўныя праслухоўванні музычных твораў.

На здымку: музычны кіраўнік Зоя Мікалаеўна Гром рыхтуе з юнымі выхаванцамі канцэрт для бацькоў.

Фота У. МАРЦЫЁНКІ.



*КЛОПАТЫ ВЁСКІ*

## ЗА БАГАТЫ ЎРАДЖАЙ

Працаўнікі калгаса «Прагрэс» Уздзенскага раёна распачалі барацьбу за новы ўраджай: хуткімі тэмпамі нарыхтоўваюць арганічныя ўгнаенні, рамантуюць сельскагаспадарчую тэхніку. У калгасе набыты каштоўны вопыт па вырошчванню багатых ураджаяў. Сёлета, напрыклад, намалочана з кожнага гектара ў сярэднім каля 49 цэнтнераў збожжа пры абавязацельстве 45. У наступным годзе хлебаробы мяркуюць сабраць з гектара не менш як па 50 цэнтнераў збожжа.

## У АДРАС НЕЧАРНАЗЕМ'Я

На 159 адрасоў нашай краіны ідзе прадукцыя аб'яднання «Бабруйскфермамаша». Сёлета бабруйскія машынабудаўнікі датэрмінова выканалі гадавы план па выпуску тэхнікі для прадпрыемстваў «Сельгастэхнікі» Магілёўскай вобласці. Новую партыю раскідвальнікаў арганічных угнаенняў аб'яднанне накіравала гаспадаркам Нечарназем'я.

## ВАЖКАЯ ЭКАНОМІЯ

Калектыў Віцебскага міжкалгаснага будаўнічага камбіната сумесна са спецыялістамі інстытута «Сельгаспраект» нястомна шукае шляхі эканоміі. Цэлы пасёлак прысядзібнага тыпу можна пабудаваць з цэглы, якую сэканоміў з пачатку года камбінат на збудаванні вытворчых аб'ектаў. Перагледжана цалкам праектна-каштарысная дакументацыя будаўніцтва жывёлагадоўчых комплексаў. Усе фермы цяпер амаль поўнасцю ўзводзяцца ў цэхах камбіната, а на будаўнічых пляцоўках толькі манціруюцца.

Выкарыстанне дасягненняў навукі і передавой практыкі дало магчымасць скараціць тэрміны будаўніцтва жывёлагадоўчых комплексаў на 3—4 месяцы. Выдаткі на кожны аб'ект у сярэднім зніжаны на 30 тысяч рублёў. За дзесяць месяцаў бягучага года сэканомлена столькі матэрыялаў, што з іх магчыма было б пабудаваць цэлы жылы пасёлак.

# ХАДА ПАДЗЕЙ

ВЕРАСЕНЬ

**САМЫ ГАЛОЎНЫ УРОК**

адбыўся ва ўсіх школах рэспублікі — «Урок міру». Вучні Зачальскай сярэдняй школы Любанскага раёна ў першы дзень навучальнага года наведалі «лясную школу», арганізаваную ў 1942 годзе для дзяцей партызанаў Мінскім падпольным абкомам партыі. Жывыя кветкі да падножжа манумента вызваліцелям горада ўсклалі вучні сярэдняй школы № 1 імя абаронцаў Брэсцкай крэпасці.



**ВЫСТАЎКА**

«Беларуская кніга і кніжная графіка» экспанавалася ў пражскім Доме савецкай навукі і культуры. На ёй былі прадстаўлены лепшыя ўзоры выдавецкай прадукцыі нашай рэспублікі за апошняе дзесяцігоддзе, а таксама графічныя работы беларускіх майстроў выяўленчага мастацтва, створаныя імі для ілюстрацыі кніг савецкіх і замежных аўтараў.



**АЖЫЦЦЯЎЛЯЮЧЫ РАШЭННІ**

XXVI з'езда партыі, Пленумаў ЦК КПСС і заданні Харчовай праграмы, працаўнікі сельскай гаспадаркі Беларускай ССР выканалі сацыялістычныя абавязацельствы па продажу збожжа дзяржаве. У засекі Радзімы ад калгасаў і саўгасаў рэспублікі паступіла 1 мільён 950 тысяч тон збожжа, у тым ліку харчовых культур — 1 мільён 166 тысяч тон, або на 326 тысяч тон больш плана.



**МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС**

па біясферных запаведніках адбыўся ў сталіцы Беларусі — Мінску. Прадстаўнікі 46 краін свету разгледзелі актуальныя пытанні комплекснага вывучэння біясферы, наведалі выстаўку «Біясферныя запаведнікі-83», прымеркаваную да гэтага міжнароднага форуму, азнаёміліся з работай і навуковымі даследаваннямі ў Бярэзінскім дзяржаўным біясферным запаведніку.



**У ПРАЦОЎНЫХ КАЛЕКТЫВАХ**

рэспублікі ўсё шырэй пачало разгортвацца сацыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу 40-годдзя з дня вызвалення Савецкай Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У часе ўдарных вахт у гонар гэтай даты рабочыя, працаўнікі палёў і ферм, будаўнікі, чыгуначнікі, інжынерна-тэхнічныя работнікі паказваюць прыклады высокапрадукцыйнай і якаснай працы.



**ФЛАГ БЕЛАРУСКАЙ ССР**

адлюстраваны на марцы, што выпушчана ў абарот паштовай службай ААН. У камюніке дырэкцыі паштовай службы ААН з нагоды выхаду новых марак «флагавай серыі» адзначаецца, што Беларуская ССР была сярод заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

# СВЯТА-НАПЕРАДЗЕ



Меней чым праз год — да 3 ліпеня 1984 года — напярэдадні 40-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў будзе пушчана першая чарга метрапалітэна нашай сталіцы.

Сорак гадоў назад, разам з беларусамі, з нашымі бацькамі і старэйшымі братамі, Мінск вызвалялі рускія, украінцы, татары, узбекі, грузіны, армяне, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей Краіны Саветаў. І сёння прадстаўнікі розных нацыянальнасцей нашай Радзімы ствараюць цудоўныя казачныя палацы і прамыя дарогі пад зямлёй — Мінскі метрапалітэн.

У гэтай гістарычнай паралелі — свая сімволіка, зразумелая сэрцу кожнага беларуса, кожнага мінчаніна. Яна азначае нашу непарушную інтэрнацыянальную савецкую еднасць.

Старажылы і тыя, хто прыехаў у Мінск на ўдарную будоўлю метрапалітэна з братніх рэспублік,— праходчыкі, мантажнікі, муляры, цесляры, гранітчыкі, гідраізаляцыйнікі, аддзелачнікі станцый, пуцеўкладчыкі — працуюць з апярэджаннем графіка. На сённяшні дзень ужо апрануты ў граніт і мармур станцыі «Парк Чалюскінцаў», «Маскоўская», «Інстытут культуры», «Акадэмія навук». Заканчваюцца работы па збудаванні асноўных канструкцый на такіх буйных вузлавых аб'ектах, як станцыі «Плошча Перамогі», «Кастрычніцкая», «Плошча У. І. Леніна», вагоннае дэпо. Неўзабаве будзе завершана праходка на самым складаным участку трасы — пад ракой Свіслач. Карацей, пералічваць усё зробленае складана. Скажам адно: на ўсіх участках будаўніцтва ідзе паскоранымі тэмпамі.

З чаго складаецца гэтае метрабудаўскае паскарэнне? Не памылюся, калі ў першую чаргу адзначу высокую працоўную дысцыпліну. Дапамагае і работа па тыднёва-сутачных графіках, па ўкараненні злобінскага метаду і арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва сумежнікаў. А самае галоўнае, што садзейнічае тут поспеху,— вялікая дружба будаўнікоў, іх адзіны, агульны клопат.

Пасля заканчэння прафтэхвучылішча прыйшлі будаваць метрапалітэн маладыя мінчане

1. Звеннявы ўчастка № 12 А. Кірасіраў — адзін з лепшых рабочых на будаўніцтве станцыі «Плошча Перамогі».

2. Геаметрыя будоўлі (мантаж і зварка арматуры на падземным пераходзе станцыі «Плошча У. І. Леніна»).



3. Праходчыкі.



Аркадзь Яўсейчык, Алег Кондрусь, Уладзімір Савянок і Вячаслаў Рэлікоўскі. На чацвёртым участку іх, як і іншых выпускнікоў ПТВ, з вялікай увагай сустрэлі ветэраны — пасланцы будаўніцтва Харкаўскай падземкі Юрый Канстанцінавіч Палупанаў, Пётр Іовіч Бабічэўскі, Васіль Пятровіч Пасіка. Гэтыя людзі навучылі маладых мінчан не толькі сакрэтам майстэрства праходчай справы, але і дапамаглі ім набыць сумежныя прафесіі арматуршчыкаў, газаэлектразваршчыкаў. І ў тым, што сёння станцыя «Кастрычніцкая» датэрмінова заканчвае ўзвядзенне асноўных канструкцый, ёсць і заслуга рабочых настаўнікаў участка. А колькі добрых слоў можна пачуць на лініі будаўніцтва пра вопытных праходчыкаў, ардэнаносных брыгадзіраў Віктара Кісялёва, Пятра Ціхамірава, Барыса Фадзеева, Анатоля Прасалава, Бурганутдзіна Гаязава! Не шкадуючы асабістага часу, яны ўвесь свой запал і энергію аддаюць вучобе, станаўленню маладых кадраў у новых для нашага горада прафесіях.

Вясной 1984 года пройдзе пробны цягнік па лініі першай чаргі Мінскай падземнай транспартнай артэрыі. Чакаць гэтага свята ўжо нядоўга.

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА**



4. Гэты магутны механізм — праходчы шчыт. З яго дапамогай праходчыкі пад зямлёй «праціваюць» перагонныя тунелі.

5. Перагонны тунель між станцыямі «Інстытут культуры» і «Плошча У. І. Леніна».



6. Брыгадзір комплекснай брыгады ўчастка № 9. П. Ціхаміраў (справа) з праходчыкам П. Панкевічам.

Фота П. КАСТРАМЫ.



Георгій ШЫЛОВІЧ

# НА РАСХРЫСТАНАЙ

Там, дзе насустрач Дняпру нясе свае плынныя воды рака Сож, спакваля дагарала восень 1919-га... Невыносна цяжкага і суровага для маладой Савецкай рэспублікі года: па неабсяжных прасторах Расіі шугала полымя грамадзянскай вайны. Тэрміновыя, часцей трывожныя весткі-тэлеграмы, дэпешы, пісьмы ішлі са шматлікіх франтоў на адзін адрас: «Масква, Крэмль, Ільічу». Пасланцы партыі, радавыя байцы рэвалюцыі, гуртуючы сілы народа на барацьбу з ворагам, паведамлялі Уладзіміру Ільічу:

**«Калчак лютуе ў Сібіры...»**
**«Белагвардзейцы і інтэрвенты пагражаюць Піцеру...»**
**«Белыя займаюць Крым; каля Севастопаля стаіць французская эскадра...»**

Неспакойна было і на Гомельшчыне... І сюды далятаў цокат капытоў белапольскіх уланаў, што пагражалі Савецкай уладзе з захаду, вастрылі зубы на абшары Украіны і Беларусі. І тут, у глыбінцы, не сціхалі кулямётныя чэргі недабіткаў белай арміі, чуліся бандыцкія стрэлы, а па начах неба часта падвышалі дрыготкія пошугі крывавых пажараў. І тут, убаку ад бальшакоў, яшчэ не здавалася, ашчэрвалася штыкамі стоеная контррэвалюцыя, спрабуючы перашкодзіць новай уладзе Саветаў, неяк пратрымацца і адцягнуць дзень сваёй немінучай пагібелі. І тут, куды ні кінь вокам, гаспадарылі разруха, голад, шмат каго падпільноўвала бандыцкая куля. І тут як вымерлі, абязлюдзелі дарогі і прыціхлі адзінокія хутары, сям-там параскіданыя на голай, учарнелай ужо зямлі, паныла і самотна стуліўшы долу замшэлыя гарбы сваіх саламяных, даўно збуцвелых стрэх. Наросхрыст вятрам, наросхрыст магчымай бядзе...

Дзіўным здаваўся ў такую трывожную і журботную пару невялічкі абоз, што паволі, але настойліва валокся па гразкім шляху, трымаючы кірунак у бок Кармы. Далёка чутно было, як аднастайна парыпвалі атосы. На выбоінах, здаралася, падводы, цяжка перавальваючыся на хісткіх колах, праваньваліся ажно па самыя восі, пагражальна хіліліся, ледзь не перакульваючыся. І тады людзі, што трымаліся побач, не зважаючы на стомленасць, таропка кідаліся на падмогу коням, ратуючы і засцерагаючы свой каштоўны груз. Ніхто з іх не наракаў, не скардзіўся на непагадзь, хоць кожнаму даўно ўжо хацелася толькі аднаго: хутчэй дацягнуць да запаветнай мэты, каб затуліцца ад гэтай макрэчы, схавацца пад дахам, абсушыцца і нарэшце адпачыць у цяпле.

Надакучлівая імжа напаткала падарожнікаў яшчэ ў Рослаўлі, куды яны даехалі з Масквы поездам, і вось ужо другі дзень запар вісела над іх галовамі, нібыта цяжкае старое прасцірадла. Сонца не паказвалася з-за хмар. Было зябка, няўтульна, асабліва—у адкрытым полі, дзе калючая сцюжа працінала да дрыжыкаў: і дарослых, і маленькую Волечку, дачку Лепяшынскага, якую маці захутала вязанай хусткай па самыя вачаняты. Яна, седзячы на калёсах сярод клункаў, ціхмяна пазірала наўкола: ці хутка будуць тыя Літвінавічы, пра якія неаднойчы гаварыў тата і куды яны цяпер кіравалі?

Зрэдку абоз прыпыняўся. Для прывалу, каб адпачыць і падсілкавацца, падарожнікі выбіралі зацішную мясцінку, дзе-небудзь на ўскраіне ляска, звычайна бліжэй да рачулкі ці азярца. Адразу распрагалі коней, паілі, пускалі пахадзіць па траве. І самі адпачывалі, дастаючы свой небагаты, як вераб'іны, харч: акраец хлеба, салёны агурок, вобліну... А тым часам Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі, старэйшына абозу, раскладваў цяпельца. Без мітусні, упэўнена знаходзіў бярэмца сушняку, прыхопліваў якога галля, і вось ужо на вачах мацнелі і весела патрэсквалі трапяткія язычкі полымя. Для дачкі — сапраўдны жывы цуд!

**— Ты ў нас як чарадзей,—падахвочвала яго жонка,—як з-пад зямлі агонь здабываеш...**
**— Ды не, мамка,—пярэчыла ёй Волечка,—у нашага таткі запальнічка. Вуньдзека... З яе агонь высякае.—І азірнуўшыся, раптам папыталася:—А чаму да нас шэры зайчык пагрэцца не ідзе?**
**— Напэўна, на кірмаш пабег.**
**— Навошта?**
**— Белую шубку да зімы прыдбаць.**
**— Каб цяплей было?**
**— І ад ваўкоў хавацца.**

Толькі на трэція суткі, мінуўшы Карму, знясілены цяжкай дарогай абоз Лепяшынскага дабраўся, нарэшце, да сяла Літвінавічы. Быў якраз надвячорак, і шмат хто з мясцовых жыхароў паспяшаўся на талаку, каб дапамагчы свайму земляку хутчэй разгрузіцца, пачуць, якія навіны прывёз Панцеляймон Мікапаевіч з далёкай Масквы. Паклажа на калёсах здзіўляла сялян. Ніколі раней не бачылі яны такіх дзівосных рэчаў: прыбораў для фізічных доследаў, дынамамашыны, праекцыйнага ліхтара, станка для пераплётнай майстэрні... З асаблівай перасцярогай і нават страхам, папярэджаныя жонкай Лепяшынскага, пераносілі вялізную чорную скрыню. Вольга Барысаўна ішла поруч і ўсё прасіла, каб, барані ад ліха, не ўпусцілі тую цяжкую скрыню, якую называла дарагім, далікатным інструментам — піяніна. Прасцей было з пакункамі падручнікаў і кніжак, са швейнай машынай «Зінгер», з розным сталярным і слясарным інструментам... Тут ужо нехта не вытрымаў і спытаўся, нібы з падколачкай:

**— Ці не краму ты намысліў адкрыць у сяле, Панцеляймон? Прагарыш з такім таварам. Соль нам патрэбна, сярнічкі, газа.— І паскардзіўся:— Які пуд мукі змалоць і то няма дзе, крупы — у ступе таўчом. А ты з гэтай, як яе — музыкай? Сам прыкінь: навошта яна мужыку? Мы і пад дудку паскакаць можам...**

**— Як раней? За царом? — дапытваўся Лепяшынскі і тут жа адказваў: — Не, таварышы, пад дудку багацеяў вам ужо ніколі не давядзецца скакаць. А мы не гандляваць прыехалі сюды. Будзем адкрываць школу. Новую. Якой яшчэ не было. Каб вашых дзяцей вучыць грамаце ды рамяству рознаму. Такі наказ даў нам Ленін, правадыр рэвалюцыі. Без святла навукі загінем, не набудзем заможнага жыцця, не пакончым з беднасцю і галечай.— І тлумачыў, якой павінна быць гэтая школа, першая працоўная школа-камуна ў краіне.**

Яго слухалі і дзівіліся: дык вось яно што! Выходзіць, і пра іх вёску, і пра іх дзяцей клапоціцца Ільіч. Нягледзячы на такія цяжкасці ў краіне ды варожую блакаду, у такую глухамань ажно з Масквы прыслаў свайго паплечніка. Выходзіць, не дарэмна ўсё гэта, важная справа задумана, адказная І на іх дапамогу разлічвае Панцеляймон Мікалаевіч. Ведае, што ў вёсцы цяпер няпроста, кожны цвік, калі на тое, з ліхтаром шукаць трэба. Ды ці знойдзеш? А тут—школа!..

Доўга не разыходзіліся ў той вечар. Заклапочана гаманілі, трымалі раду: з чаго пачынаць? Найперш, разумелі сяляне, трэба памяшканне. І тады ж, параіўшыся, вырашылі звярнуцца ў валвыканком: прасіць перадаць пад школу дом папа, а ў былой карчме — абсталяваць вучнёўскія майстэрні. Ніхто не пярэчыў супраць таго, што і ў іх дзяцей павінна быць пара юнацтва. І як жа радаваўся Панцеляймон Мікалаевіч, калі неўзабаве да яго звярнуўся хударлявы, не па гадах цыбаты хлапчук у несамавітай світцы, падпяразанай аборкай, у закарэлых лапцях на нагах:

**— Дзе мне тут дзядзьку Лепяшынскага знайсці?—сумеўшыся, спытаў, папраўляючы торбу за плячамі. І, нерашуча пераступіўшы з нагі на нагу, быццам нечага саромеўся, растлумачыў:—Бацькі прыслалі...**
**— Вучыцца?**
**— Ага!—загарэліся сінню вочы хлапчука.**
**— А хто будзеш? Адкуль?**
**— Ларка я, тутэйшы.—І ўжо, крыху пасмялеўшы, дадаў:—Ігнаценкі сын. Можа, чулі?**
**— Не, не чуў,—адказаў Панцеляймон Мікалаевіч і падбадзёрыў хлопчыка:—Галаву, Ларка, трымай вышэй! Не лыкам шытая ў цябе. Цяпер будзеш не проста Ігнаценка, а першы ў школе камунар. Чуеш? Першы!.. Запомні гэта слова і дзень, з якога пачынаеш свой крок у новае жыццё.—І паклікаў:—Хадзем за мной...**

Непрыкметна праляцеў год. Турботна, неспакойна. Першы памятны год вучобы і працы юных камунараў у школе Лепяшынскага. Шмат чаго незабыўнага было ў іх звязана з дзівосным словам — першы. Гэта і першае слова — Ленін, якое яны навучыліся чытаць і пісаць крэйдай на дошцы, і першая баразна ў сваім школьным агародзе, і першы ўрок па прыродазнаўству, які праводзілі ў садзе, і першы вечар музыкі, на якім упершыню пачулі, як незвычайна і хараша гучала піяніна... Тут яны ставілі і першыя свае доследы па фізіцы і хіміі, вучыліся шыць на швейнай машыне, сталярнічаць, пераплятаць старыя кніжкі. Дэвізам школы-камуны быў заклік: ва ўсім і заўсёды паказваць прыклад сялянам, як трэба будаваць жыццё па-новаму, па-ленінску.

Але далёка не ўсім спадабалася гэта. Ворагі Савецкай улады — кулакі ды розныя белагвардзейскія падпявалы — неаднойчы пагражалі спаліць школу, а настаўнікаў перавешаць. Іх памагатыя спадцішка цікавалі за бальшавіком Лепяшынскім, чакаючы зручнага моманту, каб здзейсніць сваю чорную задуму.

І вось аднойчы да Літвінавічаў дакацілася трывожная чутка: горад Сноў захапілі белаказакі. Не сёння-заўтра будуць тут, прабіваюцца на поўдзень. А за Сажом, перадалі Панцеляймону Мікалаевічу, навастрыліся мясцовыя бандыты. Наважваюцца фарсіраваць раку недзе паміж Зяцькавічамі і Вашчанкай, каб нанесці ўдар па школе-камуне. Над Літвінавічамі навісала смяротная пагроза. Трэба было прымаць неадкладныя меры перасцярогі, каб у выпадку чаго апярэдзіць ворага, выратаваць дзяцей ад бяды. І тады, паставіўшы пасты аховы, Лепяшынскі тэрмінова звязаўся з Рагачовам. Ён пазваніў старшыні павятовага ЧК Івану Міхайлавічу Антоненку, якога ведаў як былога чырвонагвардзейца, выпрабаванага ў баях з контррэвалюцыяй бальшавіка.

— Вас зразумеў! — данеслося ў адказ.— Зараз жа вышлем падмогу... Чакайце!..

Па трывозе Іван Міхайлавіч падняў сваіх таварышаў: камісара Гашко, следчага Бардухая, аператыўнага супрацоўніка Сакалова. Нікога больш не аказалася ў яго пад рукой. Выступаць, прыхапіўшы зброю, загадаў неадкладна, на веласіпедах. Растлумачыў, што іншага выйсця ў іх няма: да падыходу рэгулярных часцей Чырвонай Арміі ім неабходна будзе ўдакладніць абстаноўку, разведаць сілы ворага. Ведаў і не ўтойваў, хоць звычайна быў негаваркі, якая небяспека магла падпільноўваць кожнага. Але ж, падкрэсліў, пад іх крыло горнецца дзятва сялян, юныя камунары. Пасланец Леніна звярнуўся ў ЧК за дапамогай. І папярэдзіў:

— Дарога да Літвінавічаў няблізкая. Трэба спяшацца. Давядзецца націскаць на педалі, каб паспець туды як мага хутчэй, да раніцы.

# ВЯРСЦЕ

Апраметная восеньская ноч — хоць выкалі вока — заспела чэкістаў ужо за Кармой. Бойкага шляху тут не было: віраваў, прападаючы ў цемрадзі, звычайны прасёлак, спярэшчаны глыбокімі выбоінамі. Нечаканыя аб'езды ныралі то ўправа, то ўлева. Коўзка было пад коламі — не разгонішся. Адной дужасцю ў нагах якую-небудзь здрадлівую каляіну-шчыліну не возьмеш. Часта вымушаны былі пакідаць сёдлы, увішна саскокваць на зямлю і весці веласіпеды ў руках, вырульваючы на сухое, абмінаючы перашкоды. Карабіны трымалі на рамянях, за плячамі. І не заўважылі, як стома паступова брала сваё, цягнула на сон. Асабліва Сакалова, самага маладзейшага з іх, які нават і не галіўся яшчэ,— зусім нядаўна быў залічаны на службу ў ЧК і пакуль праходзіў выпрабавальны тэрмін. Гэта яго, клопатна падстрахоўваючы, падварушваў нязлоснымі кепікамі Антоненка:

— Ты, браце, пра цёшчыны бліны не мрой. Ступай цвярдзей, каб носам не кляваць. Не да вяселля — сам бачыш — цяпер, калі злыдні змусілі нас спярша са зброяй парадніцца.

— А як контру перадушым?

— Вось тады — адно дзяржыся! Пасаг збяром і ног не пашкадуем у карагодзе... Да сёмага поту тупнем на тваім вяселлі... Ажно гай шумець будзе!

Дарогу Іван Міхайлавіч ведаў. Тут былі ягоныя мясціны, родны кут яго маленства. Навакольныя сцяжынкі выхадзіў пехатою ўдоўж і ўпоперак яшчэ хлапчанём. Неадноўчы вадзіў па тутэйшых лясах і сваіх баявых таварышаў-партызанаў і чырвонагвардзейцаў. Але тады ў яго быў цэлы атрад, а цяпер... Чатыры карабіны, два наганы, тры гранаты на ўсіх... Было над чым задумацца: а ці не паспяшаўся ён? Ці не пагарачыўся, загадаўшы выступаць неадкладна? Мажліва, усё ж трэба было дачакацца падмогі і тады ўжо дзейнічаць?.. Пра ўсё гэта, што вярэдзіла і трывожыла яго, ён стараўся не думаць. Супакойваў сябе той простай ісцінай, што чэкіст — заўсёды на фронце, кожную хвіліну можа апынуцца сам-насам з ворагам. І нічога тут не папішаш: такі закон іх нялёгкай службы. А там ужо — хто каго... Іншага табе не дадзена... Баязлівасць у залік не падрахуеш, не твой яна спадарожнік...

Пад раніцу, як і разлічвалі, чэкісты былі ў Літвінавічах. Каля школы іх сустрэў Панцеляймон Мікалаевіч, з бярданкай напагатове, падпяразаны паляўнічым патранташам. Ён быў узрушаны і стомлены, з пачырванелымі ад бессані вачамі: разам з настаўнікамі ўсю ноч навылёт стаяў на варце. Закінуўшы прывычным рухам бярданку за плячо, ён з палёгкай уздыхнуў:

— Нарэшце! Як добра, што не спазніліся, не падвялі. Цяпер няхай толькі асмеляцца...

Іван Міхайлавіч адразу ж паспрабаваў ацаніць становішча, запытаўся, ці вядома, дзе знаходзіцца банда, якую мае сілу: колькі ў ёй штыкоў, ці ёсць кулямёты, коннікі, хто верхаводзіць. Усё гэта трэба было высветліць і ўдакладніць да падыходу асноўнага чырвонаармейскага атрада, у штаб якога ён перадаў тэлефанаграму яшчэ з Рагачова. Адказы не задаволілі яго. Шмат у чым няпэўныя, прыблізныя. Больш-менш дакладным было толькі адно: гэтай ноччу бандыты збіраліся фарсіраваць Сож, каб напасці на Вашчанку. З поўдня да іх далучылася падмацаванне — каля эскадрона белаказакаў з тачанкай на хаду.

— Адкуль гэта вядома?

— Наш чалавек з-за ракі быў,— расказваў Лепяшынскі.— Якраз перад вашым прыходам.

— Надзейны?

— Яго дачка ў нас вучыцца. Сам ледзь вырваўся адтуль. Хату яго спалілі, гаспадарку разграбілі. Так што ёсць усе падставы і нам асцерагацца тых ягамосцяў.

— Вядома,— заўважыў Антоненка,— тым злыдням законы не пісаны. Ім усё роўна, што дзяцей, што скаціну пад нож. Давайце прыкінем, што будзем рабіць далей.— І ўпотай падумаў, што сваіх сіл у іх сапраўды малавата, калі бандыты паспрабуюць зрабіць наскок на школу.— Склаўшы рукі,— сказаў ён,— сядзець не будзем. Трэба сельскі актыў падымаць, а як сцямнее, самі выступім насустрач ворагу. Спатрэбіцца — і мы зубы паказаць, пачастуначкам сустрэнем...

Кароткі восеньскі дзень, наструнены трывогай і розным клопатам, праляцеў непрыкметна. Калі ж зямлю ахуталі густыя прыцемкі, чэкісты пакінулі Літвінавічы. Паціху, незаўважна, каб не дужа каму кідалася ў вочы, цераз агарод школы-камуны выйшлі на прасёлак, што ледзь святлеў у змроку, і ўзялі накірунак на Вашчанку. Ішлі моўчкі, насцярожана ўслухоўваючыся ў аднастайныя гукі блізкай ночы. Пад нагамі тумкаў прыбіты дажджом жвір. Зрэдку парыў ветру даносіў адкуль-небудзь з далёкага хутара прыглушаны брэх сабакі. Ліпкая вільгаць асядала на твары; зябка было рукам — дубелі пальцы. «Туман бярэцца,— пацепваючы, прыкінуў Іван Міхайлавіч і тут жа падумаў, што ім, разведчыкам, гэта якраз паспрыяе: дапаможа праскочыць незаўважанымі.— Галоўнае — не ўпустую вёрсты адмерацъ...»

Ён, не паслабляючы кроку, трымаўся крышку ўзбоч дарогі, дзе было цвярдзей і сушэй. І, як спрактыкаваны важак, не азіраючыся, здавалася, патыліцай адчуваў кожны рух, кожны ўздых сваіх сяброў.

Чамусьці, як брата, шкадаваў Сакалова, свайго земляка, якому яшчэ зусім нядаўна, гэтак жа, як і яму, давялося батрачыць, гнуць спіну на багацеяў. Сваёй зямлі, каб неяк пракарміцца, не хапала — вось і мусілі ісці ў заробкі: пасвілі свіней у кулакоў, аралі, сеялі, працавалі да сёмага поту, а хлеба ўсё роўна не хапала. Якую лустачку і тую кроілі ўжадобку. Пра школу маглі толькі марыць. Не да святла навукі было простаму селяніну, не да кніжак, да якіх, здаралася, праз усё жыццё нават не дакрануўся. І тут жа памяць, нібы маланка ўначы, выкрасала агністыя словы: Ленін і рэвалюцыя!.. Залп «Аўроры» і штурм Зімняга!.. Буржуяў па шыі!.. Вайне — канец! Заводы — рабочым, зямлю — сялянам!..

Вялікі Кастрычнік заклікаў да новага жыцця. Іван Міхайлавіч, дачуўшыся пра падзеі ў Піцеры, не разважаў, на чым баку яму быць. Адразу ж кінуўся да страхі хлеўчука, дзе была схавана трохлінейка, якую бацька прыхапіў з сабой, вяртаючыся яшчэ з германскага фронту. А да яго падворка ўжо спяшаліся людзі: хто зняўшы са сцяны бярданку, хто мацуючы касу пад піку, а хто і са звычайнай сякерай у руках. Павятовая Кармяншчына гуртавала першыя партызанскія атрады, рашуча выступаючы за ўладу Саветаў, за зямлю, за волю. Мабілізаваны рэвалюцыяй, ён і сёння ў тым паходзе, пакуль віжуе наўкола вораг, важыцца зноў сесці мужыку на карак. І ён, чэкіст Антоненка, толькі мроіць можа пра адпачынак, пра цяпло роднай хаты, што засталася ўбаку. Гэтак жа, як, напэўна, і Гашко, і Бардухай, што ідуць следам, і якія — ведаў Іван Міхайлавіч — у выпадку небяспекі не падвядуць. Давяраў і верыў ім, як сабе...

Было ўжо недзе за поўнач, калі чэкісты збочылі з дарогі, перабраліся цераз канаву, залітую вадой, і пайшлі напрасцяк полем. Пад нагамі зашоргаў пажухлы ржэўнік. Боты, праваліваючыся, загразалі, цяжэлі. Крок міжволі запавольваўся. Але Іван Міхайлавіч не прыспешваў. Недзе зусім побач патыхала сонным жытлом вёска, і ён стараўся разгледзець яе першыя прысады. І сапраўды, праз колькі крокаў на іх шляху зацямнелі абрысы несамавітай пабудоўкі: ні то ёўні, ні то лазні. Адтуль цягнула застаялай гаркотаю дыму. Прыпыніўшыся, Антоненка яшчэ раз услухаўся ў цішыню, што звыкла валадарыла наўкола. Нішто не парушала яе. Здавалася, нібыта ўся зямля была спавіта глыбокім сном. І калі пераканаўся, што інтуіцыя не падвяла яго, што накірунак яны трымаюць дакладны і ноч не збіла з дарогі, паціху сказаў, скідаючы з пляча рамень карабіна:

— Зяцькавічы.— І папярэдзіў:— Вуха, хлопцы, трымай востра. Вораг, мабыць, таксама ў шапку не спіць. Рознае можа быць...

Чэкісты прыпыніліся, чуйна ўслухоўваючыся і азіраючыся па баках, даючы сабе некалькі хвілін на перадышку. Сакалоў прытоена выцер рукавом паддзёўкі спатнелы лоб. Звыкла расслабіліся Бардухай і Гашко, пакрысе астываючы ад стомы.

— Здаецца, ціха,— заўважыў нарэшце Бардухай.— Шантрапы не чуваць. Мабыць, на падыходзе дзесь.

— Ці Вашчанку трасуць,— падаў голас Гашко.— Ім не ў навіну клеці вытрасаць.

— Гадаць не будзем,— сказаў Іван Міхайлавіч.— Трэба праверыць. Рушылі, хлопцы.

Несамавітая пабудоўка аказалася лазняй. Адсюль сцяжынка вывела іх да хаткі, што стаяла крыху наводшыбе. Падворак быў засмечаны розным друзам, пасярод якога чарнеў не прыбраны з вечара цэбар. Учуўшы староннiх, цяжка задыхала ў хляве карова, віскліва рохнуў парсючок. Сакалова і Гашко Іван Міхайлавіч пакінуў на варце. Сам жа з Бардухаем падышоў да акна. Пашастаў пальцамі па раме, затым асцярожна пастукаў у шыбу. Доўга ніхто не падаваў знаку ў адказ: ці то моцна спалі, ці то затаіліся, цягнулі час, трымаючы кволую надзею, што, можа, іх яшчэ абмінуць, не стануць турбаваць. Антоненка крышку счакаў, потым зноў крануў шкло, на гэты раз больш настойліва. І толькі тады ў акне забялела прыгнутая постаць старога з споднім.

— Хто?— прахрыпеў ён прастуджаным голасам, як у бочку, і тыцнуўся барадой у шыбку, падслепавата спрабуючы разгледзець з-пад рукі незнаёмцаў.— Га-а?— І, нібыта папярхнуўся, закашляўся.

— Свае,— азваўся Іван Міхайлавіч, затуляючы рот далонню.— Чуеш там? Свае, кажу.

— А адкуль будзеце?

— З дарогі збіліся.

— Днём гасцяваць трэба,— бурчаў стары, шлёпаючы босымі нагамі па масніцах, нібыта штосьць шукаючы.

— Ды ты адчыні, не чужыя мы. Святла не палі, не трэба.

У хаце спалохана загаласіла, завойкала жанчына, пачуўся плач дзіцяці. Потым загрымела вядро, якое, мабыць, трапіла пад ногі старому, бразнула клямка, і дзверы, рыпнуўшы ржавымі завесамі, паволі прачыніліся. З сярэдзіны патыхнула цяплом і рэзкім пахам квашанай капусты. На запашэнне барадача хутчэй заходзіць, каб не студзіць хату, як толькі той паспеў зразумець, што перад ім узброеныя, Іван Міхайлавіч рашуча адмовіўся і паспяшаўся супакоіць яго:

— Не пужайся, дзед. Мы не з тых. Шкоды табе не зробім. Свае мы, хіба не бачыш?— І назваўся, каб не гуляць у жмуркі, не траціць марна час на дарэмную размову.

У Зяцькавічах, як і сказаў стары, бандытаў сапраўды не аказалася. Разведчыкі, рухаючыся парамі, на адлегласці адна ад другой, прачасалі ўсю вёску, але нікога не напаткалі, нічога падазронага не прыкмецілі. Мінуўшы крайнюю ад выгана хату з гумном паблізу і асеўшым пад дажджом стажком сена, зноў выйшлі на бойкую дарогу. Гэта быў насыпны бальшак, які адкрытым полем цягнуўся напрасцяк у бок Вашчанкі. Тут было больш ветрана і сцюдзёна. Пад нагамі глуха перакочвалася буйная галька. Неба, хаця і пасвятлела прыкметна, нічога добрага не прадвяшчала: нізка да зямлі цісніліся шматкі паразджмаваных хмар — нібыта чароды чорных птушак, стомлена махаючы крыламі, бязгучна праносіліся над імі. Тут не было дзе ні схавацца, ні затуліцца.

— Штосьці мне не падабаецца гэты ветрагон,— заўважыў Антоненка,— зноў нарве на дождж.

— Не павінна,— падаў голас Бардухай.— Вятрыска, здаецца, дужэе, разгоніць каламуць.

— Пачакай-тка!— раптам насцярожыўся Іван Міхайлавіч і прыпыніўся, прытрымліваючы рукой Бардухая.— Падалося ці сапраўды... Нічога не пачуў?

— А што?

— Здалося, быццам коннік недалёка праскакаў. Акурат па курсу, у бок Вашчанкі.

Чэкісты абступілі камандзіра, стаіліся ў нерухомасці. Трошкі пастаялі, чуйна ўслухоўваючыся, спрабуючы вылучыць у аднастайным пошуме ветру стук капытоў альбо далёкае конскае ржанне. Апасаліся, што

гэта мог быць варожы лазутчык, які — чаго добрага — абагнаў іх з боку дарогі, каб папярэдзіць бандытаў.

— Відаць памроілася,—уголас разважыў Гашко.—Другую ноч навылёт без сну—вось і стукае ў скронях, рознае здаецца. Адпачыць бы з гадзінку якую, абагрэцца...

— І ты пра бліны намасліваешся?—з падколачкай абарваў яго Антоненка, не даючы расслабіцца астатнім. І ўжо мякчэй дадаў:—Давядзецца пачакаць. Дома адпачываць будзем, калі вернемся. А на поўную катушку—як контру прыстукнем і зажывём чын-чынарам і без трывог.

— Кум-каралямі?

— Там будзе відаць, каралямі ці тузамі,—адказаў таксама жартаўліва Іван Міхайлавіч.—Галоўнае—без міраедаў, самі сабе гаспадарамі.—І надоўга змоўк, прыкідваючы, колькі яшчэ давядзецца быць у дарозе. Нельга, каб світанак заспеў іх у адкрытым полі. Небяспечна. Таму і прыспешваў хаду, прывалаў, нягледзячы на стому, рабіць не дазваляў. Як добры важак, цягнуў пападрадзе, падахвочваў сяброў.

Да Вашчанкі, зноў разбіўшыся на пары, яны падыходзілі дзесьці з трэцімі пеўнямі. Імжэў халодны, дробны, як праз сіта, дождж. Сінявата імгла нерухомай сцяной стаяла ў лагчыне, дзе пачыналася вёска, кінуўшы адно сваё крыло ажно да ракі. Ні хаты, ні сядзібы, што цьмяна шарэлі ўдалечыні, яшчэ не прачыналіся, былі скуты глыбокім сном. Ціха было і на пераправе цераз Сож.

Антоненка, запавольваючы крок, дачакаўся Гашко і Сакалова, якія з невялікім інтэрвалам трымаліся следам. Прыкінулі, што так будзе надзейней. А там ім даволі кінуць вокам, каб зразумець і ўзважыць парог небяспекі. Разведка для Антоненкі была звыклай справай: неаднойчы даводзілася яму высочваць ворага. Неаднойчы трапляў, здаваласа, у самае пекла. Але ніколі не губляў галавы, не пароў гарачку. «Куля, хлопцы, дурніца,— часта паўтараў ён,— на відавоку лахі пад пахі не біры, абавязкова пацалуе, а то і пародніць з зямлёй...»

Ноч адыходзіла неахвотна. Нібыта навобмацак, крадком, брауся шэры світанак. Прыспешным шырокім крокам чэкісты адолелі гразкую палоску ворыва, ступілі на выбіты скаціны выган. Адсюль узялі крышку наўскасяк, трымаючы напрамак на калодзежны жураўель. Імжа наперадзе пакрысе святлела, скупа раскрываючы надворныя пабудовы, загарадзі, парослыя мохам саламяныя стрэхі хат. Вёска, здавалася, яшчэ дасыпала, ахутаная перадранішняй зацятай цішынёй. Але гэты спакой, гэтая непарушнасць найбольш і насцярожвалі, турбавалі Івана Міхайлавіча. Такая цішыня магла быць змушанай, і ён не даваў ёй.

Моўчкі, цяпер ужо не спяшаючыся, дапытліва вывучаючы наваколле, чэкісты наблізіліся да калодзежа. Тут разлічвалі затрымацца, каб паназіраць за вёскай, а заадно зачэрпнуць свежай вады і наталіць смагу, крышку расслабіцца і аддыхацца. Драўлянае вядро якраз нерухома вісела на почапцы, нібы даўно чакала іх. Паблізу калодзежа было і выдзеўбанае з таўшчэзнага бервяна карыта для скаціны. Заімшэлае па баках, мясцінамі патрэсканае, згрызенае, паспеў адзначыць, кінуўшы позіркам, Антоненка. І раптам замёр: на голай праплешыне зямлі, спярэшчанай слядамі хатняй жывёлы, акрэслена выступалі свежыя адбіткі армейскіх падкоў. Зблытаць ён не мог!

«Выходзіць,— востра варухнулася ў грудзях здагадка,— не мясцовая банда наскочыла на Вашчанку. А напэўна, які-небудзь белагвардзейскі эскадрон. Магчыма, белаказакі альбо тэкінцы з Дзікай дывізіі?»— І ён паспешліва прабег вачамі ўздоўж па слядах кавалерыйскіх капытоў, што беглі ад калодзежа ў напрамку вёскі.

— Ці бачыце? Здаецца, сюды віруе,—раптам зашаптаў Бардухай, прыпадаючы каля карыта на калена. На нейкае імгненне ён паспеў апярэдзіць камандзіра, першым заўважыў постаць кавалерыста, якая расплывучата акрэслівалася ў тумане. Прыглядзеўшыся, на ім ужо можна было распазнаць папаху, ссунутую набакір. З плячэй амаль да пят звісала чорная бурка. Прыкметна валюхаючыся, кавалерыст набліжаўся да іх, ведучы за аброці пару асядланых коней. Сумнення быць не магло: у Вашчанцы—белаказакі! Якраз горшае, на што разлічваў у дарозе Антоненка.

— Лажыся! — глуха падаў ён каманду. Прыхіляючыся да калодзежнага зруба плячом і баючыся паверыць у магчымы шанц: «язык» сам ішоў у рукі чэкістаў. Побач з камандзірам, адкінуўшы затвор карабіна, быў ужо Сакалоў, трошкі правей ад яго залёг Гашко, нерухава, як падалося Івану Міхайлавічу, плеснуўшыся без разбору на макроцце. «Міцусімся,— у роспачы паморшчыўся Антоненка,— чаго добрага спудзім птушку».— І ў тое ж імгненне зразумеў, што не памыліўся, глядзеў як у ваду: кавалерыст аказаўся страляным вераб'ём. Нечакана, спатыкнуўшыся, ён зласлівым крыкам «тп-ыр-р, шэльмы!» асадзіў коней. Спыніўся, як укапаны, рэзка нацягваючы аброці, і, прысядаючы, не адводзячы вачэй ад калодзежа, з усходнім акцэнтам у голасе патрабавальна загукаў:

— Гэй, хто будзеш там?

Ніхто з чэкістаў не зварухнуўся. Кожны адчуваў, якая немінучая небяспека навісла над імі, якой непапраўнай бядой магла павярнуцца нават драбнюткая разгубленасць, нерашучасць, зацяжка. Яны разумелі, што цяпер маглі разлічваць толькі на свае сілы, толькі на сваю знаходлівасць і кемнасць. Адыходзіць не было куды: за спінай — поле, праваруч — рака, ад вострых шабель белаказакаў не ўцячэш, не схаваешся, а наперадзе — самае пекла... «Конны раз'езд?.. Эскадрон?.. Кінуцца ў лабавую атаку — не праскочыш... Хіба падмога падаспее? — чапляўся за кволую надзею Антоненка.— Трэба пратрымацца, заняць кругавую абарону і ў выпадку атакі — паспрабаваць адбіцца...»

— Гэй, выходзь!—пачуўся ўсё той жа сіпаваты голас.—Чуеш? Бяру на мушку...

— Пачакай,—азваўся раптам Бардухай, пакідаючы карабін на зямлі і ўстаючы з калена на ўвесь рост.—Страляць паспееш. З начлегу мы. Дадому ідзём, у сяло вяртаемся, а тут двое... Здаецца, з вашых будуць,—хітраваў напрапалую ён.—Ляжаць параненыя, дапамогі просяць. Хутчэй сюды, сам пабачыш.—І зрабіў рашучы крок насустрач кавалерысту, спрабуючы адцягнуць яго ўвагу на сябе.—Бачыш, я не салдат, зброі пры сабе не маю,—гаварыў ён, шырока разводзячы рукі па баках і ўпэўнена ступаючы наперад.—Чуеш, не страляй, сваіх зачубіш!..

Хітрасць Бардухая напэўна магла праскочыць, магла б аказацца тым рэдкім цудам, якое неаднойчы выручала разведчыкаў. Магла б... І тады напэўна яны не ўпусцілі б свайго апошняга шанца, змаглі б узяць языка і вярнуцца на конях. Але... На гэты раз удача абмінула іх... Ужо развіднела і нават здаля было добра відаць, як кавалерыст, апусціўшы ствол вінтоўкі да ног, яўна завагаўся: паверыць Бардухаю, ці што? Ён, супакоіўшыся, ужо гатовы быў зноў крануць коней, каб павесці іх далей, да калодзежа, паспяшацца на дапамогу сваім. Толькі не паспеў. Якраз у гэты момант, нібы сарваўшыся з ланцуга, бязладна галёкаючы і прысвістваючы, яго дагнаў конны дазор тэкінцаў. Верхавыя з усяго наскоку асаджвалі коней, гарцавалі паблізу, нешта гучна і таропка гаварылі адзін аднаму, нібы сварыліся на незразумелай для чэкістаў мове. Трымаліся купкай, кідаючы позіркі ў бок калодзежа, відаць, насцярожаныя тым, што быў спешаны.

— Назад! — закрычаў Антоненка, прымаючы рашэнне і папярэджваючы Бардухая аб небяспецы, і тут жа скамандаваў:— Агонь, хлопцы! Па конніках — агонь! — І першым, амаль не цэлячыся, націснуў на спускавы кручок карабіна. У тое ж імгненне, разрываючы напружаную цішыню досвітку, грымнуў кароткі, як абарваны, стрэл. Рэха яго пракацілася далёка па наваколлі, балюча адгукнулася ў грудзях камандзіра: толькі б пратрымацца, не даць ворагу збіць іх з ходу... Ён разумеў, што гэта апошні, смяротны іх рубеж тут, на расхрыстанай вярсце, і жывымі адсюль ім не выйсці. Цуду не будзе... «Але мы — не адступім... Мы — не адступім,— стукала ў скронях.— Чуеш, камунія: мы — не адступім!..»

...Хуткаплынна праносіць гады нястрымная хада часу. Не адна восень з той далёкай пары, калі чэкісты вялі бой за школу-камуну Лепяшынскага, адшугала калючымі вятрамі і халоднымі дажджамі, усцілаючы азяблую зямлю Кармянскіх прытушанай пазалотай апалага лісця. Не адну чараду жураўлёў, якія з тужлівым крыкам пакідалі родныя мясціны, моўчкі праводзілі ў вырай Літвінавічы. Прырода замыкала свой спрадвечны круг, каб з надыходам вясны зноў абудзіцца сонечным цяплом, напоўніць гулкім гоманам талай вады кожны ручаёк. І тады зноўку вярталіся ў родныя мясціны парадзелыя чароды птушак, стомленыя, але нязменна заклапочаныя сваімі гнёздамі, каб новаму птаству даць жыццё.

Вось так і Антоненка. Неаднойчы яму было цяжка, вельмі цяжка. Але ён заўсёды быў з партыяй, быў яе верным сынам. Ён ніколі не цураўся свайго роднага кутка, ніколі не прамінаў тых нялёгкіх дарог, па якіх яму даводзілася прайсці ў цяжкія гады грамадзянскай вайны. Калі надаралася, ён заўжды, пры першай жа магчымасці, вяртаўся сюды, да Бардухая, Гашко, Сакалова, каб ціхім словам памянуць іх подзвіг, пакланіцца праху былых сяброў-чэкістаў, з якімі адмераў не адну вогненную вярсту. Вяртаўся, каб прыгадаць былыя паходы, пабыць сам-насам са сваёй баявой маладосцю.

І вось зноў, запальваючы свае барвяныя кастры, крочыла па зямлі восень. На гэты раз — пяцідзесятая восень Савецкай улады, якую сустракаў Іван Міхайлавіч з тае далёкае пары. Раскошны «Ікарус», мякка шастаючы па асфальце шашы, імкліва набліжаў нас да Кармы. Туды па запрашэнню дырэктара школы-інтэрната, Героя Сацыялістычнай Працы Міхася Апанасавіча Дзмітрыева мы спяшаліся на юбілейныя ўрачыстасці, на вечар-сустрэчу з героямі грамадзянскай вайны, якую задумалі і рыхтавалі выхаванцы школы да свята.

Я сядзеў побач з Іванам Міхайлавічам, уважліва ўслухоўваючыся ў голас ветэрана-камуніста, прыглушаны рокатам аўтобуснага дызеля. Ён нетаропка прыгадваў свае былыя паходы, сяброў і таварышаў. Сядзеў роўна, зняўшы шапку вайсковага ўзору яшчэ дзесьці перад Рагачовам. Яго каротка падстрыжаныя «пад вожык» валасы адлівалі срэбрам густой сівізны. Над левым вухам, амаль ля самай скроні, можна было разгледзець застарэлы шрам — след ад белаказачай кулі. Цяпер я ўжо ведаў, з якой далёкай пары вяла свой адлік гэтая метка.

Прыняўшы бой за школу-камуну Лепяшынскага каля Вашчанкі, чэкісты трымаліся да апошняга патрона, да апошняй гранаты, да апошняга ўдару сэрца... І калі паблізу грымнула раскацістае чырвонаармейскае «Ур-ра!», ні Бардухай, ні Гашко, ні Сакалоў не пачулі яго. Толькі Антоненка, трацячы прытомнасць, паспеў прашаптаць: «Браткі... Нашы... Падаспелі...» Але нікога ён ужо не бачыў — галава бездапаможна асунулася, налілася свінцовым цяжарам. Перад вачамі плылі, пузырыліся крывавыя кругі. Цела наскрозь праціналі нясцерпны боль пад ключыцай, нібы распалены да іскраў прут распорваў грудзі — дабіваючы параненага камандзіра, ашалелыя ад няўдачы белаказакі паспелі яшчэ пырнуць яго штыком.

— Пра ўсё гэта я пасля даведаўся,—прыгадваючы падрабязнасці таго паядынку з ворагам, насупліваў выцвілыя бровы Антоненка,—ужо ў Гомелі... Калі на папраўку пераваліў...

— Выходзіць, цудам вырваліся з кіпцюроў кашчавай,—асцярожна заўважыў я.

— Як тут сказаць,—задумаўся Іван Міхайлавіч і, памаўчаўшы хвілінку, раптам пераканана адказаў:—Хутчэй не цуд, а залатыя рукі Вольгі Барысаўны выратавалі. Жонкі Лепяшынскага. Калі б не аказалася яна тады паблізу—ніякі цуд не падняў бы...

Спаласаваных, знявечаных чэкістаў прывезлі ў Літвінавічы. Дапамагчы Бардухаю, Гашко і Сакалову ўжо нельга было нічым. А вось у Антоненкі, які быў на апошнім рубяжы ад смерці, яшчэ ледзь улоўна намацваўся пульс. Кволая надзея падштурхнула Вольгу Барысаўну да рашучых дзеянняў. Вопытны ўрач, яна дасканала ведала, што ёй трэба рабіць у такіх выпадках і як: не губляючы ні секунды, яна тут жа пачала ратаваць чэкіста...

...У Карму мы ўязджалі разам з густымі прыцемкамі. Зіхатлівымі, поўнымі яркага святла вокнамі сустракала нас школа-інтэрнат, пабудаваная на схіле пагорка, у вянку яблыневага саду. Маладыя дрэўцы, фасад цэнтральнага корпуса былі разгорнуты на поўдзень, у бок Вашчанкі, дзе загінулі і назаўсёды засталіся на зямлі трое баявых таварышаў Івана Міхайлавіча Антоненкі. Недзе там праходзіла някалі расхрыстаная вярста чэкістаў... І нейк спаквала ў грудзях варухнулася: не прамінуць, абавязкова наведацца туды самому, а яшчэ лепей — з Іванам Міхайлавічам, які змагаўся за справу Ільіча і быў жывым сведкам і ўдзельнікам незабыўнага 1919-га. Цяпер ужо такое выпадае не заўсёды, як шчасце, якое нельга абысці, каб потым не пашкадаваць як пра штосьці страчанае назаўсёды. Бо час не вяртае мінулага.

**НА СЛАЙДЗЕ:**

В. М. Гарошка і сакратар партыйнай арганізацыі калгаса імя Горкага Любоў Васільеўна Майшук.

**НА ЗДЫМКАХ:**

1. Ідзе чарговае пасяджэнне праўлення калгаса.

2. Сардэчная, шчырая размова старшыні калгаса з механізатарамі.

3. Васіль Маісеевіч з дачкой Алёнкай.

4. Дзень толькі пачынаецца.





*Генадзь* **ПАШКОЎ**

# ЖЫВАЯ ПОВЯЗЬ

Час ад часу атрымліваю сціплую паштоўку. Роўны, прыгожы почырк ад імя настаўнікаў і школьнай камсамоліі кліча на сустрэчу з выпускнікамі. Шчыра прызнацца, даўно не быў у роднай школе: такое ўжо яно жыццё з яго бясконцымі клопатамі і вечным дэфіцытам часу. А ўсё ж цікава — якія яны, мае школьныя паплечнікі? Ці пазнаў бы, каб сустрэліся?

Незабыўныя вераснёўскія кастры... Хутка яны адшугалі... Цяпер удзячна прыгадваеш імёны людзей, якія пакінулі след у тваёй душы, а значыць, і ў жыцці таксама. Зінаіда Якаўлеўна... Фаіна Вікенцьеўна... Нэлі Іванаўна... Вера Паўлаўна... Мікалай Іванавіч... Адны запомніліся памяркоўнай дабрынёй, іншыя патрабавальнасцю і строгасцю. Але цяпер, праз гады, упэўненасць адна — усе яны рабілі дабро, дзеля таго, каб і мы, цяпер, былі карыснымі людзям.

Высакароднае званне — настаўнік. Прафесія педагога — як бы тое звяно, якое трывалай повяззю злучае пакаленні зямлян, перадаючы кожнаму веды, таямніцы прафесіі, а яшчэ дае ўрокі жыцця.

На адказную місію настаўніка, педагагічнай навукі звярнуў увагу чэрвеньскі (1983) Пленум ЦК КПСС. «Трэба цвёрда праводзіць курс на тое,— гаварылася на Пленуме,— каб прывіць школьнікам прывычку і любоў да карыснай працы. Гэта можа быць праца фізічная або разумовая, але абавязкова сапраўдная праца — прадукцыйная, патрэбная грамадству».

Працоўнае выхаванне школьнікаў, напэўна, мае плён там, дзе школа сваю педагагічную работу вядзе ў цесным кантакце з вытворчасцю, з калгасамі. Прыгадваецца Коханаўская сярэдняя школа, адна з лепшых школ у Талачынскім раёне Віцебскай вобласці. Дзесяць гадоў там дырэктарам і настаўнікам гісторыі Таццяна Іванаўна Радзькова. Таццяна Іванаўна расказвае, што кожны год трэцяя частка іхніх выпускнікоў, маючы прафесію механізатара-хлебароба, звязвае лёс з калгасам, і ў тым, што іх імёны сярод імён калгасных перадавікоў,— немалая заслуга школы. Пра дзве такія школы я даведаўся ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці.

Цікавы вопыт работы назапашаны ў сярэдніх школах вёскі Моталь. 180 выпускнікоў гэтых школ вучацца цяпер у вышэйшых навучальных установах сельскагаспадарчага накірунку. Сто восемдзесят! Поўны штат высокакваліфікаваных спецыялістаў у цэлы раён. Няма на Іванаўшчыне такога калгаса, дзе не працавалі б спецыялістамі выпускнікі з Моталя. У калгасе «40 гадоў Кастрычніка», дзе праходзяць працоўную загартоўку будучыя хлебаробы, няма недахопу ў рабочай сіле. Наадварот, калі канчаецца гарачая пара сяўбы і ўборкі, узнікае праблема, чым заняць людзей. Таму тут створаны рыбалоўная брыгада, кілбасны цэх.

Па добраму здзівішся ў Моталі, бачачы ў калгасным Палацы культуры паўнюсенька моладзі. У выхадныя дні 500 мясцовых хлопцаў і дзяўчат збіраюцца на танцы. 5—6 вяселляў гуляе вёска кожную суботу.

Сам жа Моталь, з яго цаглянымі дамамі-катэджамі на беразе возера, хутчэй нагадвае раённы гарадок, а не вёску ў нашым традыцыйным уяўленні. І школы тут (ёсць жа яшчэ музычная школа і школа мастацтваў), само сабой, цагляныя, шматпавярховыя.

Усё тое, што сёння ёсць у Моталі, у многім прадвызначыла даўняя, традыцыйная сувязь калгаса са школай.

Старшыня калгаса «40 гадоў Кастрычніка» Уладзімір Іванавіч Балюк — чалавек тутэйшы з Моталя. Пасля дзесяцігодкі працаваў у калгасе трактарыстам, служыў у арміі, пасля вучыўся ў інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі. З дыпломам інжынера вярнуўся ў Моталь, быў механікам і, нарэшце,— старшынёўства, тут жа, у сваёй вёсцы.

Уладзімір Іванавіч пастаянна і традыцыйна заняты чалавек. Дзіва што — калгас вялікі, больш трох з паловай мільёнаў прыбытку мае на рахунку, і трэба, каб гэтыя лічбы раслі, поспехі множыліся. І ўсё ж, нягледзячы на ўсе клопаты, старшыня не праміне школьных вечароў, розных урачыстасцяў, шчырых гутарак з дзецьмі, ведаючы, што многія з іх праз нейкі час сядуць за руль калгасных трактароў, аўтамабіляў, пойдуць працаваць на фермы і ў рамонтныя майстэрні.

З думкаю пра будучых хлебаробаў Уладзімір Іванавіч Балюк будуе ўсю калгасную работу. Трэба пабываць на жывёлагадоўчых фермах у Моталі, каб пераканацца ў гэтым. Механізацыя, утульныя, змястоўна абсталяваныя пакоі адпачынку, лазні. Тое ж і ў рамонтных майстэрнях. У Моталі выдатныя магазіны з багатым выбарам тавараў (нават з горада прыязджаюць пакупнікі). А той жа Палац культуры — такі не ў кожным райцэнтры пабачыш. Ёсць у калгасе і музей свой, каб сённяшняя моладзь памятала, як тут было яшчэ нядаўна, да асушэння балота. Глянеш на фатаграфіі тагачасных ваколіц — парослае хмызамі багнішча, абапал палосак адваяванай зямлі сочацца да Ясельды крывыя раўчукі. Мінаеш некалькі такіх стэндаў — новыя фатаграфіі. На іх — калгасныя перадавікі. Гэта яны адвявалі ў балота ўрадлівую зямлю.

Спыняе ўвагу здымак Паўла Сямёнавіча Палто, Героя Сацыялістычнай Працы, брыгадзіра калгасных механізатараў. Павел Сямёнавіч вядомы ў Моталі і як аўтарытэтны педагог рабочай моладзі, бо, працуючы ў полі, ён адначасова стажыруе навучэнцаў калгаснага прафтэхвучылішча. Сёння лічыцца за гонар вучыцца ў славутага механізатара: васемнаццаць былых яго вучняў маюць высокія ўзнагароды Радзімы і цяпер самі перадаюць вопыт маладым хлебасеям.

Гаворачы пра рабочых настаўнікаў, пра іх нястомную дзейнасць, выхаванне маладога пакалення рабочага класа, будзе да месца прыгадаць адно з самых буйных у рэспубліцы прадпрыемстваў — «Гомсельмаш». Гомсельмашаўцы па сваёй ініцыятыве ўзялі шэфства над некалькімі гарадскімі сярэднімі школамі, а таксама над вучэбна-вытворчым камбінатам і прафесійна-тэхнічным вучылішчам. Што гэта за шэфства? Вытворчае аб'яднанне «Гомсельмаш» выдзяляе, напрыклад, сродкі і матэрыялы для рамонту падшэфных школ і прафтэхвучылішча, купляе ім вучэбныя дапаможнікі. У дваццаць пятай гомельскай школе пакажуць вам новенькі відэамагнітафон, акардэон, некалькі тэлевізараў, электрагітары, магнітафоны, цацкі для падрыхтоўчых класаў і пры гэтым абавязкова нагадаюць: «Падарунак шэфаў!» У вучэбна-вытворчым камбінаце гомсельмашаўцы ўстанавілі для школьнікаў дваццаць станкоў, перадалі падшэфным самы розны рабочы рыштунак. І ўсё гэта не старое, не спісанае, тэхніка, як кажуць, адпавядае ўсім патрабаванням часу. Электронна-вылічальныя машыны, якія таксама ўстаноўлены ў зале, якраз і сведчаць пра тое. І што абавязкова заўважыш, наведваючы падшэфныя школы «Гомсельмаша», дык гэта змястоўна афомленыя стэнды, прысвечаныя якіх — усё тая ж прафесіянальная арыентацыя школьнікаў. Стэнды расказваюць аб заводскай прадукцыі, аб рабочых прафесіях, аб лепшых традыцыях «Гомсельмаша», аб людзях, якія ўсталявалі гэтыя традыцыі, аб тых, хто дастойна прадаўжае іх сёння.

Але шэфства не носіць характару чыста матэрыяльнай дапамогі. Сэнс яго шырэйшы. З пачатку пяцігодкі заводскія цэхі і аддзелы ўстанавілі кантакты з асобнымі класамі школ. Лепшыя рабочыя сталі грамадскімі важатымі. На заводзе лічаць, што дружба рабочых з падшэфнымі даўно перарасла рамкі фармальнасці. Экскурсіі ў заводскія цэхі і аддзелы, у музей працоўнай славы, рэгулярныя сустрэчы з перадавікамі, з працоўнымі дынастыямі, сумесныя мерапрыемствы адпачынку сталі традыцыйнымі.

Роля завода — роля як бы калектыўнага педагога. Урокі грамадска карыснай працы, калектывізму, высокай адказнасці за справу, якая табе даручана,— усё гэта выхоўвае ў маладога пакалення пачуццё грамадзянскасці, дае добрую мажлівасць адчуць далучанасць кожнага да агульнадзяржаўнай справы.

Падшэфныя стараюцца быць таксама карыснымі заводу. Так група «Пошук» сорак пятай гомельскай школы папоўніла матэрыялы заводскага музея славы, адшукаўшы семнаццаць ветэранаў, якія пачыналі будаваць завод. Школьнікі знайшлі таксама месцы захавання сельмашаўцаў, якія загінулі ў барацьбе з фашызмам.

Выхаваўчая работа, якую ўдала з'ядналі рабочыя і школьныя педагогі, ужо сёння мае канкрэтныя вынікі. На «Гомсельмашы» можна ўбачыць у адным цэху бацьку і сына, маці і дачку. Тут багата рабочых дынастый. У Гомелі кожны ведае сем'і Леўчыкаў, Плісавых, Маркоўскіх, Бярковічаў, Скубілавых... Прыток моладзі на завод з яго падшэфных школ вельмі прыкметны. Толькі з адной сорак пятай рабочую сям'ю ў апошні час папоўніла каля пяцідзесяці выпускнікоў, больш ста набывае рабочыя прафесіі ў гарадскім прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы.

Гонар рабочага чалавека — асаблівае пачуццё. Яно прыходзіць са сталым усведамленнем важнасці твайго занятку, з адчуваннем адказнасці за тую справу, якой ты займаешся кожны дзень.

Пра ролю ветэранаў у развіцці настаўніцтва, фарміраванні ў маладога пакалення высокіх духоўных якасцяў, цвёрдай ідэйнай перакананасці, сумленных адносін да працы гаварыў Генеральны сакратар ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Ю. У. Андропаў на сустрэчы ў ЦК КПСС з ветэранамі партыі.

З пакалення ў пакаленне перадаюцца лепшыя традыцыі рабочага класа на старэйшых прадпрыемствах краіны. Стала ўжо звыклым чуць — традыцыі маскоўскіх аўтазаводцаў, традыцыі ленінградскіх кіраўцаў. Усё часцей мы гаворым і пра традыцыі старэйшых беларускіх прадпрыемстваў. У перадачы і ўсталяванні лепшых традыцый важкая роля ветэранаў працы, людзей, на чый лёс выпала багата выпрабаванняў.

На тым жа «Гомсельмашы» рэгулярна сустракаецца з маладымі рабочымі і іх падшэфнымі Герой Савецкага Саюза У. В. Гамзін, чалавек, які большую частку жыцця аддаў заводу.

На Мінскім трактарным заводзе сустрэчы з моладдзю рабочых старэйшага пакалення, якія адразу ж пасля вайны на ўскраіне разбуранай сталіцы распачалі будаўніцтва сёння шырока вядомага ў свеце прамысловага гіганта, даўно сталі традыцыйнымі. Рабочыя, чымі рукамі зроблены першыя трактары, што разворвалі пасляваенны дзірван на роднай зямлі, і тыя блакітныя «Беларусы», якія пайшлі палямі многіх краін свету, сеючы ўдзячнае зерне Дружбы, шчодра перадаюць свой вопыт маладым.

Быў я неяк на сустрэчы трактаразаводцаў з Паўлам Іосіфавічам Храпавіцкім, Вольгай Іосіфаўнай Дорахавай, Уладзімірам Сямёнавічам Валаховічам, на чыіх вачах, пры чыім удзеле рабілася гісторыя славутага трактарнага.

Паўнюсенькая зала, мноства пытанняў як вытворчага, так і жыццёвага плана, шчырыя апладысменты, кветкі — усё гэта лішні раз сведчыла пра ўзаемную карысць і цікавасць такой сустрэчы. І яшчэ, адчуваючы тады даверлівы кантакт паміж залай, дзе ажно стракацела ад моладзі, і сцэнай, з якой выступалі ўмудроныя гадамі людзі, я падумаў: «Вось яна, жывая сувязь пакаленняў, жыццёвая педагогіка». У гэтай непарыўнай сувязі наша адвечная сіла, непахісная моц.



**Найбольшы аб'ём жыллёвага будаўніцтва ў беларускай сталіцы выконвае Мінскае вытворчае аб'яднанне індустрыяльнага домабудавання імя 50-годдзя СССР. Гэтаму калектыву ўручаны пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства прамысловага будаўніцтва СССР і ЦК галіновага прафсаюза за першае месца ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве.**

**На здымку:** будаўнікі перадавой брыгады — электразваршчык Леанід **Шкель**, мантажнікі Вячаслаў **Масквіцін**, Валерый **Шарпэ**, Васіль **Вайценкоў**, Віктар **Піваварчык**, Яўген **Саўко**, Мікалай **Арлоўскі**, Пётр **Каленічэнка**.

Фота **М. Амельчанкі.**

# Адразу ж па прыездзе

ПАЭЗІЯ



Ніл ГІЛЕВІЧ

**Урывак з рамана ў вершах «Родныя дзеці»**

Кампазітар Сцяпан Вячорка шмат гадоў не быў на бацькаўшчыне, там, дзе ён нарадзіўся і вырас і дзе дагэтуль жыве яго маці і меншы брат Тамаш з сям'ёю. У маці — юбілей, і на свята з'язджаюцца дзеці. Прыязджае і Сцяпан. Ва ўрыўку, які прапануецца ўвазе чытачоў, расказваецца пра першыя гадзіны яго пабыўкі ў родным кутку.

Сцяпан ішоў няспешным крокам
Уздоўж высокай збажыны.
Наўкол стаяў вясёлы строкат —
Купалле гралі цвыркуны.

А што ж замоўклі ўраз! Над полем
Нястрымны вецер шугануў.
Сцяпан спыніўся: неспакоем
Неспадзяваны шквал дыхнуў.

Раптоўна моцна пацямнела,
Патухла далеч перад ім.
Як азірнуўся — на паўнеба
Сцяной нясецца буры дым.

«Пажар! — кальнула зразу ў сэрца.—
Лясы! Ці хаты! Штосьць гарыць!..»
І — зразумеў: не дым нясецца —
Тарфяны пыл сцяной ляціць!

У твар ударыла, як прыскам,
І вочы засціла імглой.
Да неба сёмага вятрыска
Зямлю ўздыбіў над зямлёй.

Сцяпан стаяў, працяты болем,
Глядзеў, бяссільны, хоць заплач,
Як грозны дух нясе над полем
Сарваны з долаў плодны пласт.

Зямля ляціць у небе пылам,
Ляціць, імчыцца ў далячынь,
Дзесь ападзе за небасхілам —
І не вярнуць яе нічым!

За сотні год на гэтым месцы
Не нарасце яна цяпер,
І ўжо ніхто тут не наесца —
Ні чалавек, ні птах, ні звер!

Пясок аголіцца ды камень —
Бясплодны, мёртвы мінерал.
Зямля! Твой люд цябе вякамі
Тут ашчаджаў — не памірай!

Жыві, карміцелька-зямліца!
Радзі! Плядзі! Святкуй жніво!
І дзень і ноч гатоў маліцца
Я за здароўе за тваё.

Ды што малітва! Тут патрэбен
Разумны, рупны гаспадар,
Каб не ляцеў, не слаўся небам,
Як дым, жыцця прыродны дар.

Калі так весці асушэнне —
Пустыняй зробіцца разлог!..
Сцяпан ішоў — і суцяшэння
Для горкіх дум знайсці не мог.

Успомніў гутаркі і спрэчкі
З меліяратарам адным —
Не з тым, што сам раўняе рэчкі,
А — што загад дае другім.

«Таму ты працу нашу хаіш,—
Кіпеў вучоны-інжынер,—
Што па натуры сам архаік
І непапраўны старавер!

Твая бяда, што ты не здольны
Пераступіць якісь парог,
Каб навізну прыняць бязбольна,
І мне шкада цябе, дальбог!..»

Сцяпан на момант прыпыніўся,
Абвёў паглядам шыр-прастор.
«Эгей, мой кут, як ты змяніўся!
Стаў роўны й гладкі — нібы стол.

Дзе хмыз кусціўся нізкарослы,
Ляжаў-гібеў гадзючы рай,—
Там бульбы цягнуцца барозны
Амаль па самы небакрай.

Дзе буй гарбеў, капыццем збіты,
Як бубен, голы, — там наўсцяж,
Бы хвалі мора, ходзіць жыта
Напорнай сілаю жыцця.

Архаік! Я! Ды не, шаноўны!
І ты не вер яму, зямля!
Мне проста вельмі не ўсё роўна,
Што потым будзе тут — пасля!

Пасля мяне — праз трыццаць, сорак,
Праз сто і тысячу гадоў:
Ці не дагоніць ганьба-сорам
І там — пакладзенага ў дол!

Не вер, што марна ў спрэчку лезу,
І не спяшайся асудзіць:
Маўляў, таварыш ад прагрэсу
Рашыў цябе адгарадзіць.

Ты рвешся ў сонечнае заўтра,
Каб больш дрыгвою не драмаць,
А нейкі скептык-кансерватар
Разгон твой сіліцца стрымаць.

Ну, што ты, родная! Не рушу
Павек з жыццём наперакос.
Але каб жыць — я ведаць мушу:
Які далей твой будзе лёс!

Ніхто так, можа, не жадае,
Як я — каб гожай ты была,
Каб, як нявеста маладая,
Вясновай квеценню цвіла.

Таму й гляджу, амаль са страхам,
Тваіх улонняў кроўны сын,
Як ты нясешся пылам-прахам,
Да неба ўзнятая з нізін.

Яшчэ ж я думаю з трывогай:
А ці не выветрыцца так
З тваёй душы, як торф з аблогаў,
Уласнай долі вечны знак!

Няўжо! Няўжо, змяніўшы воблік,
Ты гэтак зменішся душой,
Што гэтых самых змен паводле
Мне станеш цёткаю чужой!

Не! Я ў тваёй шчаслівай долі
Знайшоў свой лёс — і для мяне
Чужой не будзеш ты ніколі:
І ў самай новай навізне!

Усё, за што табе пашану
Складаюць людзі пакрысе,—
Яшчэ мацней цаніць я стану,
На службе праўдзе і красе!..»

У гэтых думках, непаспешна,
Ён узышоў на верх гары,
Дзе колісь леглі ўпобач, цесна,
Магілы брата і сястры.

Дух паравёўшы, парасторкаў
Вяргіні ў слоікі з вадой
І, нібы сцень, замёр Вячорка —
Сам-насам з горкаю журбой.

Глядзеў на ўпраўленыя ў мармур
Авалы з воблікамі тых,
З кім столькі год — з калыскі, змалу —
Хадзіў па сцежачках адных.

З кім разам рос і гадаваўся,
З адной-агульнай міскі еў,
Адною коўдрай накрываўся,
Адны і тыя ж песні пеў.

Сястра Крыстына, Крыся, Крысця,
Была пяршаначка ў сям'і.
І ў горад першая калісьці
Пайшла — на хлеб не ад зямлі.

Пайшла — каб дома гурт паменшаў
Хоць на адзін галодны рот.
Быў недаяду час. Быў першы
Пасляваенны, мірны год.

Яшчэ ў двары іх — пуста й гола.
Зямлянка ў плеснях. Рызманы.
І — голад, голад, люты голад —
Як самы страшны след вайны.

Той год ва ўдовае Анэлі
Дзве двухгадовыя дачкі —
Блізняты — спухлі, пасінелі
І згаслі ўраз, як светлячкі.

Вячорка помніў тое ранне,
Як маці з ім за край сяла,
Аж за крыжацкае курганне
Крыстыну з дому правяла.

Цвірчэлі жаўраначкі ў высі,
Адталым дыхала ралля.
А маці ўсё ўнушала Крысі:
— Цярпі — і звыкнешся пасля.

Старайся быць у дружбе з цёткай
І не пярэч ні ў чым, глядзі.
Ну, мы ўжо вернемся са Сцёпкам,
А ты, дачушачка, ідзі!..

Крыстыну к сэрцу прыгарнула,
Абцалавала шчокі, лоб,
На добры час — паражагнула,
А слёзы — пырснулі, як боб.

І падалася ў людзі Крыся
З маленькім клункам у руцэ —
Як тая сучачка на крызе,
Што ўдаль панесла па рацэ...

Сцяпан успомніў, як ён крочыў
У дзень расстання за труной,
Як засцілала з жалю вочы
Гарачай ліпкаю імглой.

Мароз быў — вейкі ледзянелі.
Дзень стыў у срэбраным сяйве.
Адно лісточкі зеленелі
На плацці крэпавым яе.

Грузавічок на сцёртых колах
Пад горку браўся ледзьве-ледзь.
Хоць ёй не страшны ўжо быў холад —
Без слёз няўсцерп было глядзець.

Пасля Сцяпану тройчы запар
Адзін і той жа сніўся сон:
Пад гэтай вось сасной разгатай
Наўзрыд галосіць-плача ён.

Галосіць ён, а голас нейкі —
Як незнаёмы, як не свой:
— А мой лісточак ты драбненькі,
А зелянюсенькі ты мой!..

На гэтым голас абрываўся —
Як бы стрыманы пры людзях,
І ўсякі раз ён прачынаўся
З цяжарам страшным у грудзях.

І зноўку сон... І зноў — пакутны.
І зноў — не раз сасніў, не два...
Ставок за вёскай цёплы, мутны,
І ў ім — шчаслівая дзятва.

І Лёнік, брат, крыху старэйшы,
З усімі цешыцца ў вадзе.
А ён — каменьчыкамі, жэўжык,
Абстрэл іх з берага вядзе.

Вядома — толькі каб спалохаць.
Ды, на бяду, зрабіў пралік:
Каменьчык трапіў брату ў локаць,
І ён пачуў нямоцны ўскрык.

Магла б услед настаць адплата,
А брат не выйшаў і з вады,
Стаіць на водмелі і плача —
Як храпак, белы і худы.

Дагэтуль плача несціхана
У снах яговых па начах —
І гэта мучае Сцяпана,
І на душу наводзіць страх.

«Няўжо я мог так правініцца,
Так нечым скрыўдзіць у бядзе,
Што іншы мне ён не прысніцца,
А толькі — плачучы ў вадзе!»

Стаяў Вячорка пад сасною
І скрушна-горка шкадаваў,
Што рэдка бачыўся з сястрою,
Гадамі ў брата не бываў.

Не з роднай хаты адляцелі
Іх душы — з клетак гарадскіх,
Яны ж абое захацелі,
Каб тут у дол паклалі іх.

Сцяпан акінуў вокам далі —
Бары, палі, лугі, сады...
«А мелі розум, што абралі
На супачын свае клады!

Мясціна — слаўная на зайздрасць.
Сюды — не сорам з «кірмашу»...
Ну, што ж, вярнуся ў хату зараз —
Скажу таксама Тамашу:

Калі памру — абавязкова
Вязі мяне ў бацькоўскі край
І тут, на могілках вясковых,
У родным доле пахавай.

Скажу: уваж і не пакрыўдзі —
Не пахавай, браточак, там,
Куды на свежы насып прыйдзе
Украсці кветкі п'яны хам.

Тут не рабуюць марадзёры
Слязамі зрошаных магіл.
Паклон прынёсшы ў смутку-горы,
Тут не надломваюць вяргінь...»

— Ці не Стафан, каб не змыліцца,
Прыйшоў з памінкам на пагост!..
Вячорка ўздрыгнуў: на сцяжынцы —
Стары з кійком. Валента Дрозд!

Ну, так, той самы Дрозд Валента —
Сухенькі, згорблены дзядок,
Што кожны год, як прыйдзе лета,
Малечу кліча ў свой садок.

І надзяляе ўсіх удоваль
Духмяна-спелай смакатой.
Яго ў суровы час нядоля
Навек зрабіла сіратой.

Сыноў абодвух, лейтэнантаў,
Не дачакаўся дзед з вайны.
Ніхто сказаць не можа нават,
Дзе пахаваныя яны.

Старую ў час блакады ў лесе
Схапілі злыдні — і на здзек
За белы свет у рабства звезлі,—
Там ад пакут і згасла дзесь.

Дачку з грудным яшчэ дзіцяцяй
Тут расстралялі, у барку.
У тыя ж дні не стала й зяця —
Склаў галаву на Паліку...

Адзін застаўся дзед, каб скруху
Гадамі няньчыць пад страхой.
Сватоў і сваццяў — не паслухаў,
Сказаў: «Як-небудзь сам сабой...»

Сцяпан узрадваўся старому,
Як згадцы светлай у жыцці.
— Прыйшоў... Наведаўшыся дому,
Сюды няможна не прыйсці...

— Так, так, няможна! Род звядзецца,
Калі магіл не шанаваць...—
Стары падняў з травы вядзерца:
— А я во — з фарбай, маляваць.

Дачку ж маю ты знаў, Мальвіну!
З дзіцяткам тут іх вечны сон.
Вось і прыходжу на магілу.
Унь — агароджа між сасон.

Сцяпан зазначыў: так маліцца
Ідуць у храм дзяды ў гадах:
У чыстых чорных нагавіцах,
У чаравіках на шнурках,

Кашуля сіняя навыпуск,
І паясок на жываце...
Што ж, не карэнне драць на выспу...
— А як вы, дзядзька, жывяце!

— Пакуль што бога не турбую.
Жыву... Магілу во гляджу:
Прыйду — дзе трохі пахварбую,
Папраўлю, кветкі пасаджу.

Прасілі ў дом перастарэлых.
А што ў тым доме мне рабіць —
Сярод такіх, як сам, згрыбелых!
За што там вока зачапіць!

Я ж тут яшчэ пры дзеле нават:
Вяроўкі ўю, пляту кашы.
Які б ні быў для рук занятак —
Усё ж палёгка для душы.

От за адно перажываю,
Гнятуся думкаю адной:
Што калі дойдзе ўжо да краю —
Дам людзям клопату сабой...

Сцяпан з Валентам развітаўся
І, з пачуццём якойсь віны,
Зноў па сцяжынцы ўніз падаўся —
Ускрай той самай збажыны.

Зноў гралі конікі штосілы,
Ды ён не чуў — быў повен дум:
«Чаго мы ходзім на магілы!
Што нас вядзе пад сосен шум!

Ці жаль! Ці страх! Ці проста звычай!
Ці неўсвядомлены абрад!
Ці нейкай сілай таямнічай
Жыве ў нас памяць цяжкіх страт!

Чаго ідзём! Паплакаць горка!
Паспавядацца! Клятву даць!
Ці, можа, з гэтакіх пагоркаў
Сваё жыццё нам лепш відаць!



Свой шлях — у пошуках і ўдачах,
У заблуджэннях і грахах!
Ці ў гэткі час ясней мы бачым
Радзімы-Бацькаўшчыны шлях!

Ужо даўно і косці стлелі,
Зямлёй зрабіліся даўно,
А мы ідзём у прасвятленні
Аддаць пашану ўсё адно.

А мы ідзём і садзім кветкі,
І з болем думаем падчас:
Ці будуць так нашчадкі-дзеткі
Прыходзіць некалі да нас!

Чаму ж нам ведаць гэта важна!
Таму, што ў вечны супакой
Нам не з жыцця сыходзіць страшна,
А з добрай памяці людской!

Калі б ды так! Калі б ды кожны
З маленства думаў, з першых лет:
Які — ці светлы, ці прыгожы —
Пакіне ў памяці ён след!

Дык дзе там! Вучымся з пагардай
На сэнс жыцця глядзець — няўцям,
Што жыць адно тады і варта,
Калі рабіць дабро людзям.

Рабі дабро! Хоць нават коштам
Апошніх сіл, апошніх мук.
І не пытай: каму! завошта!
Рабі — без просьбаў і прынук!

І не турбуйся сам, ці глуха
Закончыш ты свой круг зямны,
Ці — па значэнню і заслугах —
З аб'явай: «Доступ да труны...»

Чаму ж, таварыш Прагавіты,
Так не па-людску ты жывеш!
За дзесяцёх таленавітых —
Адзін бярэш, грабеш, ірвеш!

Усё, чым грудзі ты азвончыў,
Што нахапаў ты за жыццё —
Усё абсыплецца аднойчы,
Як з дрэва восенню лісцё!

І толькі неба гляне сумна
На «плён» нікчэмнай мітусні,
Якой ты гэтак неразумна
Ахвяраваў гады і дні.

А застанецца што! Маўклівы
Граніт на нейкай там вярсце...
Чаго ж мы ходзім на магілы!
Чаго душа баліць няўсцерп!..»

Сцяпан, углыбіўшыся ў думкі,
Ішоў па сцежцы, нібы ў сне,
І не заўважыў, як ля пунькі
Зноў апынуўся на гумне.

Глядзіць — Тамаш насустрач раптам.
Відаць, ён толькі што з касьбы:
У пыле ўся яшчэ апратка
І твар ад поту — аж рабы.

— Ну, ашчаслівіў ты, брат, маці!
Здароў, Сцяпан! — Здароў, Тамаш!
— Са мной не вельмі абдымайся:
Глядзі, касцюм свой не замаж.

— А ліха з ім, маім касцюмам!
Ну, як ты тут, браток, кажы!
— Убачыш сам, як пагасцюеш.
Усяк: і хлеб ем, і каржы.

— Ты што — і сёння на рабоце!
Адгулу нават не прасіў!
— Грэх пры такой гуляць пагодзе:
Хоць да паўдня — а пакасіў.

Дырэктар з просьбай палічыўся б —
Я сам... Ты знаеш... не магу:
Сабе салгаць бы навучыўся,
Зімой каровам — не салгу.

— Ты бач яго! Не можа ўзімку
Салгаць каровіным вачам!
Прысядзем, можа, на хвілінку!
Ці ты патрэбен вельмі — там!

— Не я, а ты: там муліць многім
З табой пабачыцца. Хадзем!
А мы — паспеем, пагамонім:
Ты ж мо прыехаў не на дзень!..

Ніна МАЕЎСКАЯ

# арніка

АПАВЯДАННЕ

**ЦЯПЕР**, калі ты далёка, калі я з такім болем выпусціла цябе з-пад свайго матчынага крыла, мне часта думаецца: як ты там жывеш сярод людзей? На адзіноце ўспамінаю цябе маленькім, шкадую і непакоюся, што ў мітусні дзён не расказала табе тое, што хацелася расказаць, што цяпер табе добра было б ведаць пра людзей і свет. Не навучыла цябе жыць. Памятаеш, нават тады, калі мы ездзілі ў Ліпень і быў такі зручны момант...

Самалёт прызямліўся на зялёным, утравелым полі аэрадрома, і мы пайшлі пясчанаю пасялковаю вуліцаю. Ты з дзіцячай цікавасцю — дзіва што, табе ж толькі дванаццаць! — пазіраў наўкруг.

— Гэта і ёсць горад твайго дзяцінства, пра які ты столькі расказвала? Такі сумны і шэры,— сказаў расчаравана.

Так, сын мой, гэта горад майго дзяцінства. І ў маіх балачках, у прыцемку вечароў, здалёк ён табе, мусіць, здаваўся вялікім белым параходам, які прыплыў па гэтай жаўтадоннай, змяістай рэчцы і спыніўся, торкнуўшыся носам у пясчаную выспу берага, а паглядзець зблізку—ён, як вялікая гружаная лесам і цэглай працаўніца-баржа. Драўляны, шэры ад ветру, дажджоў і сонца гарадок здаецца прыпалым долу, прыціхлым. Ён не ўражвае хараством будынін, узнёслых золатагаловых цэркваў, хмурных, з даўняй таямніцай камяніц і муроў. У гэтым горадзе спрадвеку жылі працоўныя людзі, якіх кармілі і паілі зямля і рака. Яны шанавалі іх, не давалі ў крыўду. І гарадок любоўна звалі — мястэчка. Не раз яно знішчалася, выгарала, а пасля нібы прарастала з зямлі жаўтаватымі парасткамі зрубаў. Па лясах браліся мохам і папараццю высокія курганы. Хто толькі не прыходзіў сюды — туркі, французы, палякі, немцы,— усе параць косці ў гэтай зямлі. Што ж ты хочаш? Не было трывалага міру, каб так-сяк абжыцца тутэйшым людзям, не тое што думаць аб раскошы.

Пытаешся, чаму прывезла цябе сюды, у гэты стары, пыльны гарадок, у гэтую хату ў прысадах... Тут пачыналася тваё жыццё. Тут пачулі твой першы крык. Тут упершыню, нібы нешта разумеючы, ты здзіўлена сачыў за першым лістападам у жыцці, нібы адчуваючы мой смутак. Бо мы заставаліся ў гэтай халоднай, неапаленай і неагледжанай, даўно запусцелай хаце, удваіх насупраць зімы, цярпліва, без нараканняў і папрокаў, умеючы верыць і чакаць.

Запомні, як гэта трэба ў жыцці — умець верыць і чакаць. Верыць і чакаць...

І гэта хата, як компас, заўсёды ў маёй душы, у памяці майго зроку, бо толькі па ёй я вывяраю напрамкі свету: поўдзень, поўнач, усход і захад. Мне часта неспакойна думаецца: а што будзеш успамінаць ты, дзіця гарадскіх вуліц і кватэр? Ці будзе ў цябе той куточак радзімы, які, як талісман, ты будзеш насіць з сабою па свеце? Што будзе сніцца ў тваіх далёкіх снах? Успамінацца на адзіноце? Не веру я, што не будзе тугі і неадольнага жадання вярнуцца да родных крыніц, вытокаў, якія з цягам часу ўсё цяжэй і цяжэй будзе знайсці.

Брукаваная вуліца павяла нас да базару. Тут усё, як і раней. Час нібы запаволіў свой бег для нейкага роздуму, можа, не вельмі вясёлага, як у гэтых бабуль і жанчын, што сядзяць у цяні павеці за даўжэзнаю плахаю дашчанага стала перад пірамідкамі ружавабокіх яблыкаў. Сядзяць без надзеі на пакупніка. Сядзяць, як апошнія, запозненыя госці, якіх і не гоніць ніхто, і не запрашае частавацца. Я ўглядаюся ў іх твары: лаўлю іх, змененыя часам, рысы, намагаюся ўспомніць, дзе і калі магла іх бачыць, чуць, бо ў галасах, ад задуменнасці ціхіх, у журлівых размовах чую знаёмыя ноткі. Але дарэмна шукаць тое, што сцерлася ў памяці, як манета, кінутая ў мора. Мы таксама кідалі з табою дробязь у мора, каб вярнуцца зноў. Сюды ж я не думала вяртацца, не кідала манеты ў ціхую рэчку, у глыбокія бяздонныя студні, але, мусіць, сама таго не ведаючы, пакінула нешта больш істотнае, бо нейкая невераводная сіла цягнула сюды многа гадоў. І вярнуцца хацелася менавіта з табою. Нам пара пагаварыць, паразважаць, падумаць разам з табою.

— Вось і я ёй пішу: хоць бы прывезла ўнучка — паказала, ды ўжо і памерці спакойна можна б было.

Гэта бабулі вядуць сваю, мусіць, кожнадзённую размову, усё пра адно і тое ж — пра дзяцей, якія разляцеліся па свеце: такое жыццё пайшло, воля кожнаму стала, а можа, і няволя. І бавяць бабулі адзіноту, расказваюць адна другой кожны дзень адно і тое: мой напісаў..., мая пазваніла... Так лягчэй ім чакаць вестак, дажываць у адзіноце свой век. Мы ж прыйшлі на базар па кветкі, хоць кветкі тут не прадавалі ніколі. Я гэта ведала. Шмат чаго тут не прадавалі, але на ўсё была цана. І паспрабаваў бы ты спытацца ў каго-небудзь: колькі каштуюць кветкі? І вось цяпер...

— Кветкі ў нас не прадаюць,— гаворыць абражана і нават пагардліва, аж нос завастрыўся, бабуля.— А як вельмі трэба, заходзьце ў любы двор. Хіба хто пашкадуе, калі вельмі трэба...

Але неўзабаве яна ажывілася, не хаваючы цікавасці і жадання пагаварыць, стала распытваць, навошта ды дзеля чаго.

— Трэба схадзіць на клады, да блізкіх,— гавару я па-мясцоваму.

Дапытаўшыся пра ўсё чыста, бабуля паднялася, сілаю разагнула адзеравянелую сярэдзіну і рухава выйшла з-за стала. Толькі кінула суседцы:

— Мар'я, глянь мае яблыкі. А ты, мая дачухна, ідзі за мною.— Апошняе датычылася мяне.

Бабуля ішла крыху прыгорбіўшыся, пад ношаю сваіх нялёгкіх, відаць, гадоў, але нагамі тупала дробненька і спорна. Жыла яна недалёка ад базару, і хата яе, пад амаль усохлай ужо грушай, падалася мне знаёмай.

— Вот заходзь, маё дзіцятка, у гародчык і рві, якія на цябе пазіраюць. Не шкадуй. Сонейка ўзыдзе, дожджык пройдзе, яны зноў расцвітуць,— гаворыць гаспадыня і сама зрывае самыя буйныя і яркія вяргіні.

Малюнак Міколы СЕЛЕШЧУКА.



Я вымаю з сумачкі грошы, каб разлічыцца, хоць наперад ведаю, што яна іх не возьме. Але гэта боязь запазычыцца. Яна заўсёды прыгнятала мяне. Мусіць, вельмі замнога ў мяне ўжо даўгоў. А чалавечае жыццё кароткае і яго, я гэта пазней зразумела, не хапае на тое, каб браць і аддаваць.

Бабуля махае рукамі.

— Не-не! Сама туды збіраюся. Ня сёння-заўтра прыбуду. Прыйду, а Алена мне скажа: дык гэта ты мне красачкі продала (я ж тваю мацеру добра ведала), дык забяры ж ты іх назад. Не-не... Не вазьму грэх на душу.

Яна, канечне, не верыла ў тую сустрэчу, проста, мусіць, не магла сабе ўявіць, што некалі яе не будзе, як нельга ўявіць сабе бясконцасці сусвету. Начыніўшы галаву процьмай навук, чалавек застаецца трапятлівым лістком на галінастым дрэве жыцця ў прадчуванні магчымага лістападу.

Раптам нахлынула даўняе, горкае: «Хочаш, каб усе пазнавалі цябе, як ты расказвала свайму сыну, што там, у гарадку твайго дзяцінства, усе цябе ведалі, усе пазнавалі, спынялі, распытвалі пра жыццё. А можа, табе карціць расказаць: што жывеш не так, як марыла жыць, што робіш не тое, што думала рабіць, маніш сабе і вось-вось усё гэта кінеш і зоймешся тым, на што нацэлілася яшчэ дзяўчом, тут, пад гэтымі нізкімі зорамі над дахам старога дома. Ты гэтага хочаш? Ведаю, не любіш спачуванняў. Не скажаш жа, што ніяк не ўзаб'ешся на прамую дарогу, а ўсё абочынай, усё сцежкамі ідзеш да свайго бальшака, усё стаіш у чарзе, чакаеш, угаворваючы, суцяшаючы сябе: трэба як усе, як усе, як усе... І аказваецца, што нехта пыліць табе ў твар, імчыць па тваім бальшаку, пакуль ты прадзіраешся па сцежках, нехта сказаў тое, што спела ў цябе на губах, нехта стаў наперадзе, і цябе зусім не відно. І чаму, з якой прычыны паверыла яшчэ тады, малечай, што табе наканавана зрабіць нешта значнае, асаблівае, большае, чым іншым.

А можа, і не было нічога, а проста летуценная маладосць падняла цябе на лёгкіх крылах на неба? Дык давай жа не марудзь, злазь, толькі глядзі не зваліся, зямля не пярына. І не нудзіся, і не наракай — ідзі з усімі, стой у чэргах, спявай у хоры, як усе, як усе...»

...Вось ужо і скрыжаванне, яшчэ мінуць гэтую вузкую вулічку, што палезла на пясчаную выспу, там трэба будзе зняць басаножкі і ісці якраз, як у дзяцінстве, басанож, бо пясок жоўценька-чысты і сыпучы, як на беразе ракі. Засталося мінуць вулачку. Але як мінуць яе? Нерухома, як слуп, на скрыжаванні стаіць жанчына. Мне не трэба шукаць у памяці яе імя, гэта Антоля. Як разміну́цца? Сэрца дрыготка б'ецца, потым замірае ў грудзях. Як разміну́цца? Але што з ёю: твар застылы (ён і раней быў не вельмі рухомы, але не такі), і вочы — нібы сляпыя. Бляклыя, пустыя вочы. Нічога ў іх — ні іскрынкі радасці, ні кроплі слязы, ні віны, ні жыцця, звычайнага, будзённага, клопатнага жыцця. І стаіць яна нерухома. Я з букетам кветак перад ёю такая недарэчная. Чаму недарэчная? Я ж нясу іх на магілкі, маці. «Ты ж ведаеш, Антоля... Ты ж сама мне сказала...» Таму і мае ногі цяпер нібы грузнуць, я ледзьве выдзіраю іх з пяску.

...Так, тады я была яшчэ дзяўчынка. Можа, толькі з больш здзіўленымі вачамі, чым у цябе, сынок, кволая і танканогая. Мы каталіся на лыжах. І, напэўна, я смяялася. Але раптам з'явілася Антоля:

«Чаго ты тут коўзаешся? — сказала яна.— Твая ж маці памерла...» Сказала мімаходзь, як гаварыла свайму Петраку, які ўвечары пасуседску заседжваўся з мужчынамі на нашай лаўцы: «Чаго ты сядзіш? Ужо бульба зварылася».

Хто сказаў, што слова не мае сілы? Гэтае ўдарыла малатком: я ўпала на шэры снег, грэбла яго адубелымі рукамі, гатовая ўлезці ў скаваную зямлю і крычаць, крычаць, што гэта — няпраўда, гэта — несправядліва, гэта — урэшце, немагчыма!

Не ведаю, ад марозу ці ад болю зайшлося сэрца, скамянела ў грудзях?

Прыціхла вясёлая горка. Разгубленыя, спалоханыя твары, акругленыя вочы. Скончылася гульня: усім чамусьці захацелася дадому.

«Няпраўда, няпраўда! Гэта не магло здарыцца,— паўтарала сабе я.— Яна будзе жыць да вясны, калі ўзыдзе ў барах арніка. Я знайду, прынясу цудадзейны корань. А цяпер зіма — зямля пад снегам: не знойдзеш яе... Яна зацвітае ў пару ягад у самых стромкіх і цёмных барах, дзе не расце ніводная кветка, і таму кволы адзінокі сланечнік здаецца цудам. Я знайду яго!»

І цётка Куліна пацвердзіла мае думкі: гэта няпраўда!

У той вечар яна сядзела з намі, суседскімі дзецьмі, увесь вечар, але нешта была не гаваркая, як заўсёды, а маўклівая і засмучаная. Пачынала нешта расказваць, але раптам забывалася, пра што, і нерухома сядзела, бы ўспамінаючы, склаўшы на падоле худыя, жылаватыя рукі, удыхала нейкім сваім думкам. Яе затуманеныя вочы з бялёсымі вейкамі, нібы выцвілая валошка, пазіралі ў адну кропку. Куліна ачыналася, сцірала далонню з твару нешта адной ёй вядомае, праводзіла ражком белай хустачкі па бляклай валошцы вачэй і зноў пачынала расказваць пра дзяцей сваіх — Мішу, Вову і Жоржа, якія недзе дома чакалі яе, відавочна старалася ўспомніць што-небудзь смешнае з іх хлапчуковых свавольстваў, пачынала распытваць нас пра школу, пра вучобу.

Пазней я зразумела: у той дзень тое, што сказала Антоля, было праўдай, а святая няпраўда Куліны спакваля, паціху рыхтавала нас да той жорсткай праўды.

А раніцай прыйшла Тамара Пятроўна, бальнічная медсястра. Яна доўга сядзела, усё чамусьці яе ўражвала да слёз: і мае светлыя кучаравыя валасы, і тое, як мы сядзелі, абняўшыся, з сястрою. Потым, нібы няўзнак, спыталася: якія святочныя сукенкі ёсць у нашай маці? Маўляў, яна хоча надзець самую любімую.

Святочная сукенка была толькі адна — белая ў далікатныя, нібы жывыя, чайныя ружы, шаўковая, ажно рыпела ў руках. Маці ніколі яе не надзявала, то была шлюбная сукенка. Тамара Пятроўна загарнула яе і ўзяла з сабою.

Так і ляжала наша маці ў труне ў вясельным уборы. Зусім яшчэ маладая — ёй было трыццаць сем...

— Сын мой, дай мне руку і пойдзем хутчэй, пройдзем міма гэтай жанчыны! — сказала я табе. І ты толькі глянуў здзіўлена. «Не, не скажу ёй «дзень добры», не павітаюся». І яна маўчыць. Яна не пазнае мяне, нібы мяне і зусім няма. І ўсё ж не вытрымлівае майго позірку і хутка-хутка, нібы ад нечага ўцякае, кідаецца прэч.

Мы ішлі з табою між старых крыжоў і змрочных, цёмных мармуровых пліт з золатам імён і лічбаў. Вось нядаўна пафарбаваная агароджа. Грудок свежай зямлі, драўляная лавачка — дошчачка на двух слупках. З фотакартачкі пазіраюць лагодныя, ціхія, пяшчотныя вочы, валасы густой хваляю ляглі на плечы. Няўжо гэта прыгажуня — цётка Куліна? Я не ведала яе маладою, вось такою, як на фотакартцы, грацыёзнаю, далікатнаю і на дзіва інтэлігентнаю. Што я кажу, гэта ўсё было ў ёй, прыкрытае белаю паркалёваю хустачкаю, няхітрым сялянскім уборам.

Выбіраю найлепшую півоню і кладу на грудзі, на тонкія, журботныя рукі Куліны. Няпрошана крадуцца на шчокі слёзы, даўкія, як дзічкі, не зглынуць.

— Гэта і ёсць наша бабуля? — спытаўся ты.

— Не,— адказала я коратка.

— Дык чаго ў цябе слёзы?

— Нічога. Гэта так сабе.

А трэба было расказаць табе, хаця б пра тое, як яна вечарамі, доўгімі зімовымі вечарамі, калі не стала нашай маці і апусцела, адразу стала глухою і халоднаю наша хата, наказвала дома сваім хлопцам, каб не дурэлі і, барані божа, запалак не бралі, а скора спаць клаліся, ішла да нас. «Вечар цёмны, пайду, а то дзевачкі будуць баяцца». Яна расказвала нам няхітрыя жыццёвыя гісторыі, неўпрыкмет нешта падказвала, раіла. Або зацікаўлена пыталася, як справы ў школе, або сцішана сядзела, калі хто-небудзь з нас чытаў услых. Спакой сыходзіў ад яе журлівага голасу, ад яе сардэчнасці і цеплыні, і верылася, што заўтра будзе лепей, чым сёння. Часта яна прыходзіла, несучы абхопленыя пальцамі растапыранай далоні цёмны, гліняны гладышык з малаком.

Яна прыходзіла, калі быў першы балючы лістапад, калі вецер біўся ў шыбіны і ўпаўзала ў сэрца халодная туга. Мне памятныя словы, сказаныя нібы і не да месца, але нейкія суцешліва-лагодныя. «Калі табе ліха (гэта азначэнне мела ў яе некалькі адценняў: ліхо — дрэнна, ліхі, калі чалавек, значыць — злы, а гаршчок — то дзіравы), калі табе ліхо,— сказала яна,— ты нікому не жаліся. Сядзь ціхенька ды сама сабе паплач — сэрца і адыдзе. А на людзях выгляду не падавай,— смейся». Як прыдалася мне гэта простая, жыццёвая мудрасць!

А вось і Марыя Лявонаўна. Гэта яна паставіла мне вялізную, ажно на шэсць лінеек, пяцёрку. Яна вывела мяне перад класам і паказала дзецям, як дзіва. Паказвала мой дзённік, поўны пяцёрак, паказвала, якая чыстая, адпрасаваная на мне сукенка, як хораша заплецены ў коскі валасы. Пры тым яна падкрэслівала, што ў мяне няма маці. Я стаяла перад двума дзесяткамі пар вачэй, якія, магчыма, пазіралі на мяне гэтак упершыню, як я ўпершыню ўбачыла агністы наш клён з акна школы, стаяла і адчувала, як цесна ў грудзях сэрцу, але мне ўсё здавалася, што гэта цесная мая адзіная, сіняя ў бобачку сукенка, з якой я вырасла і рукавы былі амаль не да локця. А Марыя Лявонаўна паказвала ўсяму класу, якой вялікай пяцёркі я варта.

Яна навучыла мяне верыць у сябе, у свае сілы, верыць у людзей.

І яшчэ кветкі паклалі мы на свежы грудок, што нават муравой не ўзяўся. Мы толькі крышку спазніліся. Баба Каця частавала нас яблыкамі, вішнямі — іншых пачастункаў у яе, мусіць, і не было. А калі і з'яўляліся, яна ўслед іх раздавала — родзічам, суседзям, знаёмым. Самой ёй мала трэба было.

І пра яе я нічога табе не расказала. А расказваць... Нібыта зноў туман засціць позірк, і ў ім расплывіста, неакрэслена, бляклымі фарбамі выплывае твар бабы Каці. Я хачу падняцца ёй насустрач, зразумеўшы, што гэта менавіта яна, трымаюся, чапляюся за яе рукі, але зрываюся і падаю, падаю ў цёмнае бяздонне, каб потым, апрытомнеўшы, зноў у поцемках туману шукаць яе твар і толькі па губах разумець тое, што яна гаворыць:

«Нічога, нічога, зараз будзе лягчэй. Я журавінак прыгатую. А вось гэтыя халодненькія пакладзі ў вушы». Чырвоныя бубкі спачатку халодзяць, а потым адчуваю, як яны набрыньваюць і затыкаюць вушы, і голас бабы Каці далёкі, ледзь чутны. Здаецца, я глухну, таму ўтрапёна выкідаю ягадзіны. Але баба Каця кладзе другія, марозава-халодныя. «Яны хутка выцягнуць чад»,— гаворыць яна. І сапраўды спаўзае туман з вачэй, вяртаецца слых і не выслізгвае памяць. І я ўжо ўсміхаюся сёстрам, а яна мне. І мы смяёмся разам над сваімі ліхтугамі; не разумеючы, як гэта здарылася, што мы, зачыніўшы юшкаю комін, так хутка, імгненна хутка паснулі. Сяброўка наша ніяк не магла нас расқатурхаць і, здагадаўшыся, што мы ўчадзелі, пабегла шукаць бабу Кацю, сястру нашага дзеда, аж на другую вуліцу за базар.

Памятаю, ужо студэнткаю я прыехала на канікулы. Сядзела перад бабай Кацяю, шчыльна павязаная паркалёвай хустачкай, не ведаю ўжо з якой прычыны, можа, халадна было ў хаце. Баба Каця доўга, гаротна і трывожна пазірала на мяне, потым узяла ў цёмныя далоні маю галаву і заплакала, гаворачы: «Якая ты стала худзенькая, і галава нат здрабнела». У апошні ж раз, калі я зайшла ў яе нізкую, што прыкметна асела, хату, яна ціха сказала: «Я любіла цябе болей усіх за тое, што ты была вясёлая і дасціпная». Помню, уразілася тады: чаму яна сказала гэта ў мінулым часе? Потым зразумела: я для яе была далёкі, амаль забыты ўспамін. За клопатамі, за сваімі справамі, за нялёгкім жыццём я аддалілася ад яе. А ёй жа ад мяне не трэба было іншага — проста бачыць мяне часцей. О, няўмольны, неспагадлівы час! Не спыніць цябе, не павярнуць назад. А каб можна было, каб можна...

...Зноў твой дапытлівы позірк...

Ты ўжо згубіў надзею, што мы знойдзем тут тваю бабулю. А я ўсё кладу і кладу на магілы кветкі. І зноў я табе гавару, што гэта проста знаёмая жанчына, маці аднаго хлопца.

Дзяўчынкаю, і пазней, я пісала вершы. Памятаю, надрукавалі іх у газеце: «Я зноў, забыўшыся на ўсё, на стому, на дождж і гразь раз'езджаных дарог, спяшаюся, спяшаюся дадому...»

Далей ішлі радкі пра тое, як я хачу, спадзеючыся сустрэць дома маці, расказаць ёй, параіцца, падзяліцца сваімі сумненнямі і першымі радасцямі, але еду дарэмна... Яе няма...

«...Няма яе. І толькі клён увішна лісты са спадарожным ветрам шле, і пад дыктоўку пасівелай вішні ўсё штосьці піша на аконным шкле».

Тут была маленькая недакладнасць. Клён не пісаў на аконным шкле, ён стаяў крышачку воддаль. Астатняе ўсё было праўда. Праз нейкі час той хлопец мне расказаў, што яго маці вельмі плакала, чытаючы гэтыя радкі. Я болей не пісала вершаў: вясёлыя ў мяне не атрымліваліся, а такія, каб над імі плакала чыясьці маці,— складаць не хацела. Я чакала свайго часу. Я трымалася добрай парады цёткі Куліны: нікому не паказваць свайго гора, нікому не жаліцца.

— Пачакай, сынок! Няўжо то яна? — Я спынілася ўражаная. Ля гладышыка з кветкамі — павялічаная, ужо цьмяная, размытая, фотакартка ў пафарбаванай драўлянай рамачцы. Я спыняюся, угледаюся ў яе. Ты бярэш мяне за руку. «Хадзем». Я разумею, табе надакучыла блукаць паміж гэтых маўклівых грудкоў. Табе не зразумела, чаму па маёй шчацэ раптам коціцца сляза, калі я, здаецца, ні з таго ні з сяго, кладу пару кветак і ціха адыходжу.

А ў вачах яшчэ тая, толькі што ўбачаная фотакартка Каралíхі.

...Яна сядзіць прамая, поўная годнасці, з крышачку прыўзнятай галавой. Хустка падкрэслівае чарнату яе разложаных на роўненькі радок, бліскучых валасоў, тонкія рысы твару. Яна заўсёды нагадвае мне картачную піковую даму. Мая маці, суседкі — усе завуць яе Каралíха. І я не ведаю — мянушка гэта ці прозвішча. Уражанне сілы і ўлады ідзе не толькі ад яе аблічча і прозвішча, а і ад тых быліц, якіх я наслухалася. Расказваюць, што яна, маладая,— а тады яны будаваліся,— калі яе лядашчы Кароль не мог падняць бервяно, адпіхвала яго і бралася сама, сама ўвязвала пад рубель воз, калола вепрукоў, а з кірмашу ці вяселля, бывала, прыносіла п'янага да непрытомнасці свайго шчуплага Караля.

Каралíха сядзіць перад маёй маці, якая ляжыць на ложку. Маці даўно не ўстае, хварэе. І няёмка ёй зараз: кволая і нядужая, яна апраўдваецца перад Каралíхаю, нібы адчуваючы ў тым віну. Тая ж сядзіць сцяўшы губы, і хаця непадступны ў яе выгляд, але ў вачах — клопат і спачуванне. Час ад часу Каралíха з годнасцю ківае галавою, толькі ледзь-ледзь, стрымана, як стрыманыя ўсе яе рухі. Не ведаў бы яе — падумаў: ну, сапраўды, Каралíха! Але я ведаю: жыве яна цяжка, дзяцей шмат, а з краёчку печы ў яе хаце сядзіць маленькі вырадак, толькі галава чалавечая на мячыку тулава, пад якім толькі ступакі. Няма нічога жудасней гэтага відовішча. Гэта — яе ўнук. У часе вайны яе цяжарнай дачцэ немцы давалі нейкія ўколы, спрабавалі на ёй лекі. Ён, як невалячка, вагаецца па краёчку печы і толькі нейкімі нечалавечымі, гартаннымі зыкамі выказвае нешта сваё, не зразумелае нікому. У яго няма імя, тое, якое ён атрымаў пры нараджэнні, забылася, засталася мянушка — Глявеш.

Каралíха ў задуменні ківае галавою. Не, не проста ківае галавою, а ўся яе высокая постаць крышку падаецца ўперад. Маці гаворыць ціха, ледзь чутна. Здаецца, што яна сакрэтнічае з Каралíхаю, але я ведаю, ёй цяжка гаварыць, яна хапае ротам паветра, задыхаецца. Нам яна гаварыла, што крышку паляжыць і ўстане, аддыхнуўшы, але дні ішлі, а яна не ўставала. І рукі яе, падобныя на тонкія галінкі, суцішыліся на коўдры. Я чую, як яна дзякуе за нешта Каралíсе, гаворыць, што яна заўсёды была добрая і чулая. Я адчуваю,— мусіць, гэта зразумела і Каралíсе,— што дзякуюць ёй не за тую даўнюю, амаль забытую дабрату, а заклінаюць, просяць нейкай будучай, спадзяюцца і вераць у яе.

Маці даўно змірылася са сваёй хваробай і, мусіць, ведала пра непазбежны, падступны канец, таму не толькі Каралíху, а многіх сваіх сябровак і суседак дзякавала, дзякавала за гэтую будучую дабрату.

Каралíха паслабляе хустку на шыі. Ёй, мусіць, здаецца, што яна цісне, вочы яе раптам шклянеюць, але хутка авалодвае сабою і задумліва, ні на кога не пазіраючы, гаворыць:

«У лесе па глухіх гаёх расце кветка. Жоўтая такая, як маленькі сланечнік. Добра б яе знайсці, напарыць ды выпіць гэты ўзвар. Трэба дачакацца вясны, яна зацвітае ў пору першых ягад».

...Прыйшла пара і першых ягад: яшчэ гаркаватых, шурпатых белабокіх суніц і шэрых кропель чарніц, ці, як у нас завуць, чорных ягад. Але арніка, цудадзейны маленькі сланечнік, была ўжо не патрэбна. Вясною на жоўтым грудку, абкладзеным на радаўніцу зялёнымі скібамі дзёрну, узышлі, нібы хто незнарок рассыпаў, зялёныя, як лілейкі, шарыкі. Я ніколі не бачыла, каб раслі яны дзе-небудзь, апроч могілак. Падумалася нават, што гэта прараслі, узышлі слёзы. І арніка ўжо не магла дапамагчы. Але я з той пары ўсё шукала і шукала яе па высокіх гаях, глухіх і вусцішных. Аднойчы адстала ад дзяўчатак, з якімі пайшла па грыбы, заблудзілася. Раптам пацямнеў лес, насоўвалася хмара, трывожна зашумелі хваіны, нават рэха не вяртаў вецер. Высокі, сівы, як кавыль, мятлік заступіў дарогу, трэба было разводзіць яго рукамі. Я ішла наўздагад, хутчэй ад гэтай хмары. І раптам (во, цуд!) на пясчанай прагаліне — лапіну зямлі да белаты высмакталі волаты-сосны — убачыла: стаіць на высокай хісткай сцябліне маленькі сланечнік — арніка. Пучок прадаўгаватых шорсткіх лісцяў, нібы капытом жывёліны затоптаны, уціснуты ў глебу, раскрыўся, і высокая кволая сцяблінка ўзнесла вяночак жоўтых пялёсткаў, усярэдзіне якіх, здавалася, сядзіць бухматы руды чмель. Дзіўна было, здавалася неверагодным, як яна вырасла тут, дзе ўзяла сілы. Я доўга пазірала на яе, як на цуд, забыўшыся на ўсе свае жахі: адна ў лесе пад чорнаю хмараю.

Памятаеш, сынок, я аднойчы паказала табе яе ў лесе, гэты маленькі сланечнік, і забараніла зрываць. Толькі паказала, нічога не расказаўшы.

...Мы спыніліся зноў ля зарасніку бэзу.

— Тут спачывае твая бабуля,— сказала я.

— Мы прыйшлі да яе з пустымі рукамі, нават не пакінулі ніводнай кветкі. Як жа так? — наракаеш ты.

«Так вось, так, мой хлопчык...»

...І што гэта мне раптам захацелася ўсё ўспомніць? Ніколі я табе не расказвала пра сябе, пра людзей, якія насяляюць маю радзіму. Бо радзіма — гэта не толькі куток зямлі, дзе ты нарадзіўся, гэта таксама і людзі. Кожны чалавек павінен ведаць, у якой зямлі яго карані, куды вяртацца яму ў часы душэўных нягод.

Хочацца мне, каб ты пачуў шэпт таго клёна, што стаіць, залаты, увосень ля старога дома, каб ведаў, што чалавек не можа існаваць без чалавека, што ёсць даўгі, якія не аплачваюцца адным жыццём, а пераходзяць ад бацькоў да дзяцей і так з пакалення ў пакаленне, каб ты ўмеў даравацъ зло і рабіць дабро. Ведай: у цябе моцныя, здаровыя рукі, а за плячамі прыхаваны крылы. Не бойся, распраўляй іх!

ВЫЙШЛА З ДРУКУ

# НА МІЖНАРОДНАЙ АРБІЦЕ

Кніга мае дзелавую канкрэтную назву «Дружба, садружнасць, братэрства». І падзагаловак — «Удзел Беларускай ССР ва ўсебаковым развіцці сувязяў Савецкага Саюза з краінамі сацыялізму». Аўтар кнігі кандыдат гістарычных навук Э. А. Лейкін адрасуе яе, як сказана на апошняй старонцы, шырокаму колу чытачоў, лектараў, агітатараў, слухачоў народных універсітэтаў. Падсумаваць, думаецца, можна так: усім, хто цікавіцца дасягненнямі Савецкай Беларусі за апошнія дзесяцігоддзі, яе ўдзелам у фарміраванні і развіцці сацыялістычнай садружнасці.

Найперш трэба сказаць, што ў кнізе выразна акрэслена думка аб тым, што развіццё братніх рэспублік Саюза Саветаў, іх выхад на арэну міжнароднай садружнасці ажыццяўляецца пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, якая паслядоўна, кіруючыся рэвалюцыйнай тэорыяй марксізму-ленінізму, вырашае адну з самых важных інтэрнацыянальных задач сучаснасці.

Ва ўступнай частцы аўтар звяртае ўвагу чытача на выключную важнасць тэарэтычнага асэнсавання заканамернасцяў развіцця садружнасці братніх дзяржаў. Без гэтага сёння цяжка засвоіць дыялектыку працэсаў, якія вызначаюць ход сусветнай гісторыі, пераконваюць у правільнасці вучэння Маркса — Энгельса — Леніна. Дасягненні краін сацыялістычнай садружнасці сцвярджаюць яе як рэальна існуючую прагрэсіўную сілу. Сама назва кнігі раскрывае дыяпазон аўтарскай задумы — паказаць міжнародныя сувязі партыйных, савецкіх і дзяржаўных органаў, удзел БССР у эканамічнай, навукова-тэхнічнай і культурнай садружнасці; міжнародныя сувязі грамадскіх арганізацый рэспублікі.

Такая шырыня і плён кантактаў — гэта таксама дакладна сфармулявана Э. А. Лейкіным — вычарпальна характарызуе мудрасць і дальнабачнасць ленінскай нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Хіба ж магла б пры іншай палітыцы некалі жабрацкая Беларусь за шэсць з паловай дзесяцігоддзяў, ды яшчэ вытрымаўшы дзве жахлівыя разбуральныя вайны, выйсці на ўзровень, які дае магчымасць паспяхова супрацоўнічаць з буйнымі дзяржавамі свету?!

Яшчэ адзін надзвычай важны момант. «Міжнародная правасуб'ектнасць саюзных рэспублік нашай краіны,— нагадвае аўтар,— выключная з'ява. У сусветнай практыцы не было, бадай, другога такога прыкладу, калі б састаўны член федэральнай дзяржавы выступаў у міжнародных справах самастойна нароўні з самой федэратыўнай дзяржавай. У гэтым — карэнная перавага савецкай федэрацыі — федэрацыі новага, сацыялістычнага тыпу. Права рэспублікам нашай шматнацыянальнай краіны знешне-палітычнай кампетэнцыі стала рэальным дзякуючы паспяховаму вырашэнню нацыянальнага пытання ў выніку ажыццяўлення ленінскіх прынцыпаў нацыянальнага будаўніцтва, пакладзеных у аснову стварэння СССР».

Скрупулёзнасць і кампетэнтнасць гісторыка, у рэшце рэшт, дапытлівасць няўрымслівага чалавека дапамаглі аўтару сабраць для кнігі багаты фактычны матэрыял.

Вось пацвярджэнне. «Калі ў даваенныя гады з Беларусі за мяжу ў асноўным вывозілася прадукцыя сельскай гаспадаркі, лесаматэрыялы, дык цяпер у беларускім экспарце трывала пераважвае прадукцыя машынабудавання. На пачатку 80-х гадоў БССР давала на знешні рынак кожны другі вывазны савецкі колавы трактар, кожны пяты станок, 17 працэнтаў грузавых аўтамабіляў, 85 працэнтаў халадзільнікаў, значную колькасць сіласаўборачных камбайнаў, скрэпераў і іншай прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння. На долю рэспублікі прыпадае больш трэцяй часткі савецкага экспарту калійных угнаенняў, ільноваланка і льняных тканін. Значная ўдзельная вага БССР у экспарце бульдозераў, веласіпедаў, ЭВМ, падшыпнікаў, электрарухавікоў, радыёпрыёмнікаў, фотаапаратаў, наручных гадзіннікаў...» І яшчэ пра некаторыя бакі супрацоўніцтва. У будаўніцтве Добрушскага фарфоравага завода прымалі ўдзел чэхаславацкія спецыялісты, а на вытворчым аб'яднанні «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна» працавала міжнародная школа-семінар перадавога вопыту слесараў-зборшчыкаў трактарабудаўнічых заводаў. «Непасрэдна ў цэхах завода наватары трактарабудавання сацыялістычных краін дэманстравалі свае прыёмы працы. Яны змаглі дэталёва азнаёміцца з прагрэсіўнай тэхнікай і тэхналогіяй вытворчасці, навуковай арганізацыяй працы...»

Такіх ёмістых прыкладаў у кнізе шмат.

Э. А. Лейкін зрабіў карысную справу. Яна была б яшчэ больш каштоўная, калі б аўтар на жывых прыкладах паказаў, як міжнародныя сувязі ўплываюць на развіццё рэспублікі, на лёс яе людзей.

А. ШЧАРБАКОЎ.



Мікалай КІРЭЕУ. «Светлы дзень» (фрагмент карціны).

БЕЛАРУСЬ

| П. | А. | С. | Ч. | П. | С. | Н. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | |

СНЕЖАНЬ

Далей ішлі радкі пра тое, як я хачу, спадзеючыся сустрэць дома маці, расказаць ёй, параіцца, падзяліцца сваімі сумненнямі і першымі радасцямі, але еду дарэмна... Яе няма...

«...Няма яе. І толькі клён увішна лісты са спадарожным ветрам шле, і пад дыктоўку пасівелай вішні ўсё штосьці піша на аконным шкле».

Тут была маленькая недакладнасць. Клён не пісаў на аконным шкле, ён стаяў крышачку воддаль. Астатняе ўсё было праўда. Праз нейкі час той хлопец мне расказаў, што яго маці вельмі плакала, чытаючы гэтыя радкі. Я болей не пісала вершаў: вясёлыя ў мяне не атрымліваліся, а такія, каб над імі плакала чыясьці маці,— складаць не хацела. Я чакала свайго часу. Я трымалася добрай парады цёткі Куліны: нікому не паказваць свайго гора, нікому не жаліцца.

— Пачакай, сынок! Няўжо то яна? — Я спынілася ўражаная. Ля гладышыка з кветкамі — павялічаная, ужо цьмяная, размытая, фотакартка ў пафарбаванай драўлянай рамачцы. Я спыняюся, угледаюся ў яе. Ты бярэш мяне за руку. «Хадзем». Я разумею, табе надакучыла блукаць паміж гэтых маўклівых грудкоў. Табе не зразумела, чаму па маёй шчацэ раптам коціцца сляза, калі я, здаецца, ні з таго ні з сяго, кладу пару кветак і ціха адыходжу.

А ў вачах яшчэ тая, толькі што ўбачаная фотакартка Каралíхі.

...Яна сядзіць прамая, поўная годнасці, з крышачку прыўзнятай галавой. Хустка падкрэслівае чарнату яе разложаных на роўненькі радок, бліскучых валасоў, тонкія рысы твару. Яна заўсёды нагадвае мне картачную піковую даму. Мая маці, суседкі — усе завуць яе Каралíха. І я не ведаю — мянушка гэта ці прозвішча. Уражанне сілы і ўлады ідзе не толькі ад яе аблічча і прозвішча, а і ад тых былíц, якіх я наслухалася. Расказваюць, што яна, маладая,— а тады яны будаваліся,— калі яе лядашчы Кароль не мог падняць бервяно, адпіхвала яго і бралася сама, сама ўвязвала пад рубель воз, калола вепрукоў, а з кірмашу ці вяселля, бывала, прыносіла п'янага да непрытомнасці свайго шчуплага Караля.

Каралíха сядзіць перад маёй маці, якая ляжыць на ложку. Маці даўно не ўстае, хварэе. І няёмка ёй зараз: кволая і нядужая, яна апраўдваецца перад Каралíхаю, нібы адчуваючы ў тым віну. Тая ж сядзіць сцяўшы губы, і хаця непадступны ў яе выгляд, але ў вачах — клопат і спачуванне. Час ад часу Каралíха з годнасцю ківае галавою, толькі ледзь-ледзь, стрымана, як стрыманыя ўсе яе рухі. Не ведаў бы яе — падумаў: ну, сапраўды, Каралíха! Але я ведаю: жыве яна цяжка, дзяцей шмат, а з краёчку печы ў яе хаце сядзіць маленькі вырадак, толькі галава чалавечая на мячыку тулава, пад якім толькі ступакі. Няма нічога жудасней гэтага відовішча. Гэта — яе ўнук. У часе вайны яе цяжарнай дачцэ немцы давалі нейкія ўколы, спрабавалі на ёй лекі. Ён, як невалячка, вагаецца па краёчку печы і толькі нейкімі нечалавечымі, гартаннымі зыкамі выказвае нешта сваё, не зразумелае нікому. У яго няма імя, тое, якое ён атрымаў пры нараджэнні, забылася, засталася мянушка — Глявеш.

Каралíха ў задуменні ківае галавою. Не, не проста ківае галавою, а ўся яе высокая постаць крышку падаецца ўперад. Маці гаворыць ціха, ледзь чутна. Здаецца, што яна сакрэтнічае з Каралíхаю, але я ведаю, ёй цяжка гаварыць, яна хапае ротам паветра, задыхаецца. Нам яна гаварыла, што крышку паляжыць і ўстане, аддыхнуўшы, але дні ішлі, а яна не ўставала. І рукі яе, падобныя на тонкія галінкі, сушыліся на коўдры. Я чую, як яна дзякуе за нешта Каралісе, гаворыць, што яна заўсёды была добрая і чулая. Я адчуваю,— мусіць, гэта зразумела і Каралісе,— што дзякуюць ёй не за тую даўнюю, амаль забытую дабрату, а заклінаюць, просяць нейкай будучай, спадзяюцца і вераць у яе.

Маці даўно змірылася са сваёй хваробай і, мусіць, ведала пра непазбежны, падступны канец, таму не толькі Каралíху, а многіх сваіх сябровак і суседак дзякавала, дзякавала за гэтую будучую дабрату.

Каралíха паслабляе хустку на шыі. Ёй, мусіць, здаецца, што яна ціснe, вочы яе раптам шклянеюць, але хутка авалодвае сабою і задумліва, ні на кога не пазіраючы, гаворыць:

«У лесе па глухіх гаёх расце кветка. Жоўтая такая, як маленькі сланечнік. Добра б яе знайсці, напарыць ды выпіць гэты ўзвар. Трэба дачакацца вясны, яна зацвітае ў пору першых ягад».

...Прыйшла пара і першых ягад: яшчэ гаркаватых, шурпатых белабокіх суніц і шэрых кропель чарніц, ці, як у нас завуць, чорных ягад. Але арніка, цудадзейны маленькі сланечнік, была ўжо не патрэбна. Вясною на жоўтым грудку, абкладзеным на радаўніцу зялёнымі скібамі дзёрну, узышлі, нібы хто незнарок рассыпаў, зялёныя, як лілейкі, шарыкі. Я ніколі не бачыла, каб раслі яны дзе-небудзь, апроч могілак. Падумалася нават, што гэта прараслі, узышлі слёзы. І арніка ўжо не магла дапамагчы. Але я з той пары ўсё шукала і шукала яе па высокіх гаях, глухіх і вусцішных. Аднойчы адстала ад дзяўчатак, з якімі пайшла па грыбы, заблудзілася. Раптам пацямнеў лес, насоўвалася хмара, трывожна зашумелі хваіны, нават рэха не вяртаў вецер. Высокі, сівы, як кавыль, мятлік заступіў дарогу, трэба было разводзіць яго рукамі. Я ішла наўздагад, хутчэй ад гэтай хмары. І раптам (во, цуд!) на пясчанай прагаліне — лапіну зямлі да белаты высмакталі волаты-сосны — убачыла: стаіць на высокай хісткай сцябліне маленькі сланечнік — арніка. Пучок прадаўгаватых шорсткіх лісцяў, нібы капытом жывёліны затоптаны, уціснуты ў глебу, раскрыўся, і высокая кволая сцяблінка ўзнесла вяночак жоўтых пялёсткаў, усярэдзіне якіх, здавалася, сядзіць бухматы руды чмель. Дзіўна было, здавалася неверагодным, як яна вырасла тут, дзе ўзяла сілы. Я доўга пазірала на яе, як на цуд, забыўшыся на ўсе свае жахі: адна ў лесе пад чорнаю хмараю.

Памятаеш, сынок, я аднойчы паказала табе яе ў лесе, гэты маленькі сланечнік, і забараніла зрываць. Толькі паказала, нічога не расказаўшы.

...Мы спыніліся зноў ля зарасніку бэзу.

— Тут спачывае твая бабуля,— сказала я.

— Мы прыйшлі да яе з пустымі рукамі, нават не пакінулі ніводнай кветкі. Як жа так? — наракаеш ты.

«Так вось, так, мой хлопчык...»

...І што гэта мне раптам захацелася ўсё ўспомніць? Ніколі я табе не расказвала пра сябе, пра людзей, якія насяляюць маю радзіму. Бо радзіма — гэта не толькі куток зямлі, дзе ты нарадзіўся, гэта таксама і людзі. Кожны чалавек павінен ведаць, у якой зямлі яго карані, куды вяртацца яму ў часы душэўных нягод.

Хочацца мне, каб ты пачуў шэпт таго клёна, што стаіць, залаты, увосень ля старога дома, каб ведаў, што чалавек не можа існаваць без чалавека, што ёсць даўгі, якія не аплачваюцца адным жыццём, а пераходзяць ад бацькоў да дзяцей і так з пакалення ў пакаленне, каб ты ўмеў дараваць зло і рабіць дабро. Ведай: у цябе моцныя, здаровыя рукі, а за плячамі прыхаваны крылы. Не бойся, распраўляй іх!

ВЫЙШЛА З ДРУКУ

# НА МІЖНАРОДНАЙ АРБІЦЕ

Кніга мае дзелавую канкрэтную назву «Дружба, садружнасць, братэрства». І падзагаловак — «Удзел Беларускай ССР ва ўсебаковым развіцці сувязяў Савецкага Саюза з краінамі сацыялізму». Аўтар кнігі кандыдат гістарычных навук Э. А. Лейкін адрасуе яе, як сказана на апошняй старонцы, шырокаму колу чытачоў, лектараў, агітатараў, слухачоў народных універсітэтаў. Падсумаваць, думаецца, можна так: усім, хто цікавіцца дасягненнямі Савецкай Беларусі за апошнія дзесяцігоддзі, яе ўдзелам у фарміраванні і развіцці сацыялістычнай садружнасці.

Найперш трэба сказаць, што ў кнізе выразна акрэслена думка аб тым, што развіццё братніх рэспублік Саюза Саветаў, іх выхад на арэну міжнароднай садружнасці ажыццяўляецца пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, якая паслядоўна, кіруючыся рэвалюцыйнай тэорыяй марксізму-ленінізму, вырашае адну з самых важных інтэрнацыянальных задач сучаснасці.

Ва ўступнай частцы аўтар звяртае ўвагу чытача на выключную важнасць тэарэтычнага асэнсавання заканамернасцяў развіцця садружнасці братніх дзяржаў. Без гэтага сёння цяжка засвоіць дыялектыку працэсаў, якія вызначаюць ход сусветнай гісторыі, пераконваюць у правільнасці вучэння Маркса — Энгельса — Леніна. Дасягненні краін сацыялістычнай садружнасці сцвярджаюць яе як рэальна існуючую прагрэсіўную сілу. Сама назва кнігі раскрывае дыяпазон аўтарскай задумы — паказаць міжнародныя сувязі партыйных, савецкіх і дзяржаўных органаў, удзел БССР у эканамічнай, навукова-тэхнічнай і культурнай садружнасці; міжнародныя сувязі грамадскіх арганізацый рэспублікі.

Такая шырыня і плён кантактаў — гэта таксама дакладна сфармулявана Э. А. Лейкіным — вычарпальна характарызуе мудрасць і дальнабачнасць ленінскай нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Хіба ж магла б пры іншай палітыцы некалі жабрацкая Беларусь за шэсць з паловай дзесяцігоддзяў, ды яшчэ вытрымаўшы дзве жахлівыя разбуральныя вайны, выйсці на ўзровень, які дае магчымасць паспяхова супрацоўнічаць з буйнымі дзяржавамі свету?!

Яшчэ адзін надзвычай важны момант. «Міжнародная правасуб'ектнасць саюзных рэспублік нашай краіны,— нагадвае аўтар,— выключная з'ява. У сусветнай практыцы не было, бадай, другога такога прыкладу, калі б састаўны член федэральнай дзяржавы выступаў у міжнародных справах самастойна нароўні з самой федэратыўнай дзяржавай. У гэтым — карэнная перавага савецкай федэрацыі — федэрацыі новага, сацыялістычнага тыпу. Права рэспублікам нашай шматнацыянальнай краіны знешне-палітычнай кампетэнцыі стала рэальным дзякуючы паспяховаму вырашэнню нацыянальнага пытання ў выніку ажыццяўлення ленінскіх прынцыпаў нацыянальнага будаўніцтва, пакладзеных у аснову стварэння СССР».

Скрупулёзнасць і кампетэнтнасць гісторыка, у рэшце рэшт, дапытлівасць няўрымслівага чалавека дапамаглі аўтару сабраць для кнігі багаты фактычны матэрыял.

Вось пацвярджэнне. «Калі ў даваенныя гады з Беларусі за мяжу ў асноўным вывозілася прадукцыя сельскай гаспадаркі, лесаматэрыялы, дык цяпер у беларускім экспарце трывала пераважвае прадукцыя машынабудавання. На пачатку 80-х гадоў БССР давала на знешні рынак кожны другі вывазны савецкі колавы трактар, кожны пяты станок, 17 працэнтаў грузавых аўтамабіляў, 85 працэнтаў халадзільнікаў, значную колькасць сіласаўборачных камбайнаў, скрэпераў і іншай прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння. На долю рэспублікі прыпадае больш трэцяй часткі савецкага экспарту калійных угнаенняў, ільновалакна і льняных тканін. Значная ўдзельная вага БССР у экспарце бульдозераў, веласіпедаў, ЭВМ, падшыпнікаў, электрарухавікоў, радыёпрыёмнікаў, фотаапаратаў, наручных гадзіннікаў...» І яшчэ пра некаторыя бакі супрацоўніцтва. У будаўніцтве Добрушскага фарфоравага завода прымалі ўдзел чэхаславацкія спецыялісты, а на вытворчым аб'яднанні «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна» працавала міжнародная школа-семінар перадавога вопыту слесараў-зборшчыкаў трактарабудаўнічых заводаў. «Непасрэдна ў цэхах завода наватары трактарабудавання сацыялістычных краін дэманстравалі свае прыёмы працы. Яны змаглі дэталёва азнаёміцца з прагрэсіўнай тэхнікай і тэхналогіяй вытворчасці, навуковай арганізацыяй працы...»

Такіх ёмістых прыкладаў у кнізе шмат.

Э. А. Лейкін зрабіў карысную справу. Яна была б яшчэ больш каштоўная, калі б аўтар на жывых прыкладах паказаў, як міжнародныя сувязі ўплываюць на развіццё рэспублікі, на лёс яе людзей.

А. ШЧАРБАКОЎ.

# МЕСЦА




Уладзімір Гардзеенка... Ён актыўна працуе як жывапісец і як графік, спалучаючы творчасць з вялікай грамадскай работай. Яго заўсёды хвалюе ўсё, што з'яўляецца важным для нашага часу. Адсюль і значнасць тэматыкі ягоных твораў, жывая зацікаўленасць да чалавека — свайго сучасніка. Чалавек і яго справа, гераічная гісторыя свайго народа, рамантыка працы і рамантыка подзвігу — тыя тэмы, што натхняюць мастака.

Ён умее засяродзіць сваю ўвагу на галоўным, весці размову з гледачом мовай простай, даходлівай, стварае вобразы ёмістыя, запамінальныя. У гэтым пераконваюць палотны, прысвечаныя рэвалюцыйнаму мінуламу, героіцы Вялікай Айчыннай вайны — «Канстанцін Заслонаў», «Пісьмы на волю», «М. В. Фрунзе» — творы, прасякнутыя духам патрыятызму, пафасам высокай грамадзянскасці.

М. В. Фрунзе, Канстанцін Заслонаў, Вера Харужая... Да іх подзвігу звярталіся многія мастакі, але ў Гардзеенкі яны адлюстраваны па-свойму. Палотны гэтыя экспрэсіўныя, яны сімвалізуюць гераічны дух нашага народа.

Значнае месца ў творчасці Гардзеенкі займае сцэнаграфія. Ён паспяхова працуе над мастацкім афармленнем музычных і драматычных спектакляў, шукае новыя прыёмы сцэнічнай выразнасці. Гэта спектаклі для дзяцей, у якіх мастак імкнецца прывабіць іх то цудоўным светам казак, то суровай рамантыкай гераічнага мінулага. Спектаклі «Мікола-паравоз» паводле аповесці М. Лынькова і «Партызанская зона» К. Губарэвіча паказваюць, што Гардзеенка ўмее весці з дзецьмі шчырую, сур'ёзную размову.

У спектаклях для юнацтва мастак запрашае моладзь да роздуму аб сэнсе жыцця, яго каштоўнасцях. Найбольш значныя з іх — «Пойдзем у кіно» А. Алексіна, «Чатыры кроплі» В. Розава, «Кошкін дом» паводле твораў С. Маршака, «На ўсіх адна бяда» П. Макаля.

Шмат гадоў Уладзімір Гардзеенка працуе над вобразамі народных песняроў Я. Коласа і Я. Купалы. Цёпла былі сустрэты на выстаўках яго творы: «Крык мужыка» (па матывах «Адвечнай песні» Я. Купалы), «Дзед Талаш», пейзаж «Дубы. Мікалаеўшчына».

Апошняя карціна — гэта не проста пейзаж, лапік роднай зямлі, а менавіта зямля Коласа, той куток бацькаўшчыны, які так хораша і шчыра апеты ў многіх вершах песняра, асабліва ў паэме «Новая зямля».

Успамінаюцца творы Гардзеенкі, паказаныя на мастацкіх выстаўках апошніх гадоў: «Думы аб мінулым» (партрэт Петруся Броўкі), «Бакеншчык», «Прараб Мазырскага тэхучастка В. К. Сусла», «Будатрадавец»... Глядач пазнае на партрэтах сваіх сучаснікаў — людзей моцных, актыўных, мэтаскіраваных, абаяльных.

Уладзімір Гардзеенка імкнецца паказваць людзей, якія жывуць сваім звычайным жыццём, працуюць. Заслужаны артыст БССР Міхаіл П... роў — у ролі блазена са спектакля Шэкспіра «Дванаццатая ноч», у зв... чайным для яго асяроддзі. Мастак маляваў яго ў тэатры, за кулісамі, адразу пасля спектакля. Капітан рыбалоўнага катэра Мікалай Васько вядзе судна. Бакеншчык А. Казак з ліхтаром у руцэ і вёсламі на плячы вяртаецца з начной вахты...

Працуючы над тэмай «Мае сучаснікі — людзі Прыпяці», мастак ставіць перад сабой задачу не проста даць партрэтную характарыстыку асобы, а раскрыць у нейкіх яе рысах рух нашага грамадства, расказаць аб яго ідэалах, асаблівасцях светаўспрымання.

Многія з работ яшчэ не былі на выстаўках, захоўваюцца ў майстэрні. Тут жа ў вялікіх папках — пейзажы з краявідамі рэк і дуброў, замалёўкі, накіды і зноў жа партрэты людзей з Прыпяці — брыгадзіра маладзёжнай рыбалавецкай брыгады Міхаіла Гапеенкі, Івана Прыцэпа, іншых маладых рыбакоў. У кожным малюнку характар, лёс... Усё гэта паступова «збіраецца» на палотны, пачынае гучаць у агульным ладзе вобразаў і акордаў каляровай палітры будучых палотнаў аб людзяхстваральніках, сярод якіх упэўнена і стала займае сваё працоўнае месца мастак Гардзеенка.

Ф. ВАЛАДЗЬКО.







# СТРАЇ

На рэпрадукцыях — работы Уладзіміра Гардзеенкі:



«Пісьмы на волю» (В. Харужая).



«Думы аб мінулым» (П. Броўка).



«Дубы. Мікалаеўшчына».



«Бакеншчык» (А. Казак).



«Дзядзька Юзік» (брат Я. Коласа).





**СУЗОР'Е**
ТВОРЧАЯ СТУДЫЯ











Каляровыя здымкі Віктара ДРАЧОВА.

Надыходзіць зіма. Яна, як даўно заўважана, ахалоджвае пыл самых гарачых прыхільнікаў моды. Зімовыя ж рэчы, як правіла, не танныя, купляюцца не на адзін сезон. Таму абнаўляючы гардэроб, мы звычайна імкнёмся не столькі дагадзіць модзе сённяшняй, колькі не сапсаваць адносін з модай заўтрашняй. А гэта, пагадзіцеся, стрымлівае нашу фантазію. Нарэшце, шыецца цёплае адзенне не на адзін тыдзень і чалавек прадбачлівы ўжо напэўна паклапаціўся аб ім. Дык ці варта гаварыць пра паліто з футравымі каўнярамі, цёплыя зімовыя курткі, шубы, шапкі!.. Тым больш, што ў параўнанні з модай мінулых гадоў сёння гэтае адзенне амаль не змянілася (аб чым можна меркаваць і па жаночых паліто з Мінскага Дома мадэлей, якія вы бачыце на здымку).

Зіму з яе доўгімі вечарамі можна выкарыстаць для таго, каб набыць моднае адзенне на ўвесь год (і на зіму, вядома, таксама). А патрэбны для гэтага толькі два пруткі ды некалькі клубкоў пражы...

# БЯРОМ клубок нітак і...

У кожнага з нас ёсць любімыя рэчы. У мяне такой рэччу аказаўся стары світэр, звязаны калісьці мамай. Змяняюцца мода і густы, абнаўляецца гардэроб. Застаюцца пастаяннымі толькі адносіны да гэтага світэра. Чым жа ён прываблівы? Па-першае, саграває. І не толькі сваёй дабротнай шэрсцю — ён захоўвае, здаецца, і цяпло рук, што вязалі яго. Па-другое, прыдатны амаль што на ўсе выпадкі жыцця. Па-трэцяе, выглядае так, быццам звязаны толькі ўчора, хоць зведаў ён і ночы ля вогнішча, і доўгія пераходы з рукзаком, і снежныя гурбы. Нарэшце, не параўнаць яго і з тымі тысячамі блізнят масавай фабрычнай вытворчасці, якія мільгацяць у вулічным натоўпе. Мой — адзіны, непаўторны!

Ці не ў гэтым вартасці не толькі світэра, але і наогул вязаных вырабаў? Інакш кажучы — трыкатажу. Да таго ж, вартасці гэтыя пастаянныя, хоць гэта не азначае, што трыкатаж больш «кансерватыўны», чым іншае адзенне, і не паспявае за імклівай модай. Успомнім, напрыклад, мінулае лета, якое вярнула модніцам міні-спадніцы. Хіба трыкатажныя спадніцы ўступалі пашытым у экстравагантнасці?

Больш таго, у трыкатажу перад тканінай ёсць істотная перавага. Тканіна часам абмяжоўвае нашу фантазію і магчымасці закройшчыка: то колер не вельмі падыходзіць, то малюнак, то шчыльнасць матэрыі... А вязка пакідае нам поўную свабоду творчасці. Бяром клубок нітак, пруткі і самі вырашаем, якую звязаць «тканіну» — шчыльную або паўпразрыстую, самі выбіраем малюнак. Можам нават «адлюстраваць» (а мадэльеры рэкамендуюць гэта сёння маладым) якую-небудзь эмблему або жартоўны дэвіз. Прычым, звязаць можна амаль усё: ад майкі і дамашняга халата да дэмісезоннага паліто.

Дык давайце паспрабуем, спалучаючы нашы прыхільнасці і густы з парадамі прафесіянальных мадэльераў, падабраць сабе моднае адзенне толькі з трыкатажу.

Пачнём з адзення штодзённага. Мода сённяшняя і мода будучага года дае самы багаты выбар. Гэта вязаныя жакеты-курткі, джэмперы, камізэлькі, блузы, спадніцы, сукенкі, штаны — словам, амаль усё, што мы прывыклі шыць са звычайнай тканіны. Прыдатныя розныя стылі, даўжыня, колер, малюнкі вопраткі. Адзінае, што павінна з першага погляду «чытацца» ў нашым адзенні,— яго прызначэнне.

Возьмем для прыкладу трыкатажны ансамбль, прадстаўлены на першым фотаздымку. Перш за ўсё, у такім адзенні не будзе холадна ні вясной, ні восенню. Ну а прыпячэ сонца — шапачку можна схаваць у сумку, а куртку-жакет перакінуць праз руку, не рызыкуючы скамячыць. Словам, па зручнасці і універсальнасці, не гаворачы ўжо аб эфектнасці, паліто з гэткім трыкатажам спаборнічаць цяжка.

Збіраючыся на лыжную прагулку ў студзені, па першыя падснежнікі ў сакавіку або па грыбы восенню, перавагу таксама варта аддаць вязаным рэчам. Яны лёгкія, цёплыя, не перашкаджаюць рухам. Прыклад такога адзення — на другім фотаздымку. Вядома, гэта толькі адзін з магчымых варыянтаў, які дапускае, дарэчы, спалучэнне з джынсамі або сінтэтычнай курткай на выпадак дажджу.

Калі ж вы праводзіце вечары або выхадныя дні дома, раім звярнуць увагу на трэцяе фота. Хоць вязаныя вырабы не вельмі ўласцівыя для нацыянальнага беларускага касцюма, у адной з сукенак (справа) вы знойдзеце падабенства з традыцыйным андаракам (блузкай, прышытай да спадніцы). А крой і арнамент другой, светлай сукенкі, былі папулярныя ў мінулым на Віцебшчыне. Праўда, на вуліцы і ў службовым кабінеце такое ўбранне не зусім дарэчы. Затое дома — і гасцей не сорамна прыняць...

Калі ж вы збіраецеся ў госці або ў тэатр і хочаце, каб ваша адзенне выглядала прыгожа, урачыста, найбольш будзе адпавядаць выпадку лёгкі, пластычны трыкатаж. Дэталей у святочным касцюме нямнога: гэта, звычайна, каўняры вялікія, кантрастныя па колеру і малюнку, якія могуць свабодна спускацца да плеч, а могуць і збірацца ўверсе. Асабліва папулярныя будуць «матроскія» каўняры або здымныя каўняры-палярыны. Хоць, як бачна на здымку, і без каўняра падобнае трыкатажнае адзенне можа выглядаць святочна (фота № 4).

Не трэба думаць, што вязаныя рэчы прыдатныя толькі для халоднага надвор'я. Сучасныя спосабы вязкі дазваляюць ствараць і лёгкія, ажурныя сукенкі (як, напрыклад, на здымках №№ 5, 6). Навінкі моды-84: сукенка-«джэмпер» (спартыўнага стылю, з разнастайнымі выразамі, як з поясам, так і без яго), сукенка-«майка» (на 10-12 сантыметраў вышэй калена, аздобленая кантамі і вышыўкай) і нават сукенка-«камбінезон».

Многае з таго, што мы назвалі — курткі і жакеты, блузы і штаны, камізэлькі і камбінезоны (выключаючы, вядома, сукенкі і спадніцы)— у роўнай ступені падыходзіць для юнакоў і дзяўчат.

Не выключана, што некаторых нашых чытачоў мы не столькі пераканалі ў перавагах трыкатажу, колькі спалохалі яго складанасцю. Узяць хоць бы сукенку-«камбінезон». Яе і пашыць не вельмі проста, а тут паспрабуй звяжы. Што ж, адразу брацца за складаныя рэчы сапраўды не варта. Калі ў вас ёсць жаданне вязаць, але няма яшчэ майстэрства, то лепш пачаць з такіх рэчаў, як простая «распашонка».

Да таго ж, хіба ствараць свой гардэроб з трыкатажу абавязкова толькі з пруткамі ў руках? Многае з таго, аб чым мы гаварылі, можна купіць. Напрыклад, у мінскім салоне-магазіне Мастацкага фонду, дзе большасць рэчаў арыгінальныя або паўтараюцца толькі ў некалькіх экземплярах.

**Віктар ПАНАМАРОЎ.**

**Фота аўтара.**


4


3


1


6


5


2

СУЗОР'Е

творчая студыя

**Палемічныя нататкі псіхолага Я. Л. Каламінскага на тэму «Таямніцы прывабнасці» («Беларусь», №№ 3, 5, 8—1983 г.) выклікалі чытацкую цікавасць. Размову працягвае пісьменніца І. У. Клімашэўская.**

# ПЯЦЬ



# заўваг да пытання аб прыгажосці

«Чаму гавораць, што аб густах не спрачаюцца? Ці азначае гэта, што густ — адзін на ўсіх? Або тое, што ў кожнага свой густ? Прыгажосць чалавека, прыгажосць мастацтва, прыгажосць акаляючага нас свету рэчаў, напрыклад, мода або прадметы быту,— ці спрачаюцца аб іх, або існуе нейкая ўсеагульная мерка прыгажосці? А калі мне падабаецца тое, што не падабаецца іншаму — ці абавязкова хтосьці з нас памыляецца, або, магчыма, маюць рацыю абодва, ці абодва не маюць рацыі?» (З пісьма ў рэдакцыю.)

З падрабязнага і даволі-такі сумбурнага пісьма я выбрала пяць пытанняў. У іх скандэнтраваны пафас пісьма, яго «эмацыянальны канспект». Такім чынам, пяць пытанняў да пытання аб прыгажосці. «Што ёсць прыгажосць і чаму яе абагатвараюць людзі?..» На самай справе, што? І як далёка ў спрэчках аб прыгажосці распасціраюцца паўнамоцтвы кожнага з нас?

Калі ў нас з вамі заходзіць гутарка аб прыгажосці чалавечай знешнасці, на памяць прыходзіць мноства асоб. Прыгожых і не вельмі. З рысамі, што называецца, класічнымі, і з рысамі далёкімі ад дасканаласці. Проста мілыя, слаўныя, сімпатычныя аблічча мілых, слаўных, сімпатычных людзей. Але калі прымусова адвесці сябе на хвіліну ў бок ад асабістага свайго ўспрымання або аднавіць у памяці першае сваё ўражанне, калі вы яшчэ зусім не ведалі чалавека, амаль заўсёды можна ўспомніць, што мілым, слаўным і нават цудоўным нам пачаў здавацца твар зусім непрыгожы. Пакажы гэтага, мілага нам чалавека, камусьці іншаму, пабочнаму, толькі рукамі развядзе: ну, ведаеце... І мы шчыра недаўмяваем і шкадуем, што твар, такі прываблівы і прыгожы для нас, мог здацца камусьці і непрыгожым, і непрывабным.

Дарэчы, калі заходзіць падобная размова, цяжка ўтрымацца, каб не прыпомніць такі выдатны, разумны фільм — «Пачатак», у якім выдатная, разумная актрыса Іна Чурыкава нарэшце прымушае нас убачыць, што яе гераіня — сапраўды цудоўная. Што-небудзь здарылася з яе тварам, неяк цудоўна змяніліся яго рысы да канца гэтай невясёлай гісторыі? Не. Змяніліся нашы адносіны да чалавека. Мы палюбілі чалавека, мы былі запалонены яго абаяльнасцю, цэласнасцю, чысцінёй душы, яркасцю таленту. І чалавек стаў для нас прыгожым той прыгажосцю, з якой «складзена песня нябесных вышынь».

Прыпомнім словы Льва Талстога, які гаварыў, што кожны мужчына любіць самую цудоўную жанчыну свету. З гэтым, як быццам, пакуль яшчэ ніхто не браўся спрачацца. Хоць і існуе нямала іранічных каментарыяў да высновы генія. Але і тут, як і ўсюды, іронія служыць толькі выяўленню новых глыбінь гэтай бясконца глыбокай думкі. Так што колькі б мы ні спрачаліся аб прыгажосці кім-небудзь любімай жанчыны, для яго яна застанецца і будзе цудоўнейшай з цудоўнейшых. Чаму? У кожнага нібы ёсць такое бясспрэчнае мерavailable, што побач з Венерай Мілоскай гэтай жанчыне і станавіцца вельмі небяспечна. А ў яго, у таго, хто кахае, у вачах — малітва. Хто мае рацыю ў данай спрэчцы аб густах? Мае рацыю ён. Таму што прыгажосць улюбёнага твару — гэта, бадай, адзіная ў свеце прыгажосць, у ацэнцы якой заўсёды мае рацыю той, хто любіць. І гэта, бадай, адзіная акалічнасць, у якой аспрэчваць густ не толькі недарэчна, але і грэшна.




Добра, заўважыце вы, з гэтым, бадай, можна згадзіцца. Але ж прыгажосць — гэта паняцце шырокае, усеабдымнае і ўсюдыпранікальнае. Гэта і людзі, і пачуцці, гэта і мастацтва і рэчы, якія акружаюць нас дома, на рабоце, гэта будынкі на вуліцы, сады і паркі, гэта, нарэшце, мода з яе бясконцымі трансфармацыямі. І ўсюды, да чаго ні дакраніся, няма ў людзях згоды. Кожны ідзе ў «чужы манастыр са сваім статутам», кожны прэтэндуе на «абсалютны слых» у пытаннях прыгажосці, і мала хто здольны праявіць цярплівасць у адносінах да густаў іншага. Бывае, нібы і далікатны чалавек, і мяккі, і добры: штурхне вас у тралейбусе, проста-такі асіпне, просячы прабачэння, а загавары з ім аб прыгожым і непрыгожым, куды што падзенецца, з кулакамі палезе...

Бывае. На жаль, нават і ў друку людзі часам карыстаюцца мала шаноўнымі прыёмамі гэтай «эстэтычнай экспансіі», не шкадуючы эпітэтаў, самых рызыкоўных. Як быццам спрэчка аб густах — гэта гульня без правіл. Між тым, правілы ёсць, і галоўнае з іх, па-мойму, якраз і заключаецца ў старой прымаўцы — аб густах не спрачаюцца. Чаму ж не спрачаюцца, калі спрачаюцца, ды яшчэ як! Што ж азначае катэгарычны імператыў, які гучыць у старой прыказцы? І ці няма тут, як і наогул у старых прымаўках, таго прыхаванага значэння, той глыбіннай мудрасці, якая і забяспечыла прымаўцы доўгае жыццё?

Звернемся спачатку да мастацтва. І адразу ж прыгадаем вядомую перасцярогу, зробленую калісьці адным з класікаў савецкай літаратуры Ільёй Эрэнбургам: «У адрозненне ад дакладных навук мастацтва не паддаецца бясспрэчным ацэнкам». Ці не азначае яна, што аб мастацтве, менавіта, спрачаюцца. І абавязкова спрачаюцца. Мастацтва, якое не выклікае роздумаў, што прымушаюць штосьці прымаць, штосьці адхіляць,— не мастацтва. Але тым не менш не такія ўжо рэдкія людзі, якія бяруцца ўмешвацца ў нашы «асабістыя адносіны» з мастацтвам і дыктаваць нам свае ўласныя густы. Не, нават і не спрачацца, не пераконваць, не агітаваць, а проста закрэсліваць — нашы.

Аднойчы давялося мне гутарыць з адным вучоным. Вялікім вучоным, матэматыкам. Гутарылі мы аб мастацтве, і калі гаворка зайшла пра музыку, вучоны аб'явіў, што Шастаковіч — гэта не музыка. Чаму ж? Ды таму, што ні сам вучоны, які даўно і аддана любіць, проста-такі багатварыць музыку, ні яго сябры музыку Шастаковіча не разумеюць.

З такім жа запасам логікі я магла б выставіць контрдумку, што я і мае сябры абсалютна нічога не разумеюць у квантавай механіцы, але на гэтай хісткай аснове не аб'яўляюць яе абракадабрай. Аднак неяк нават няёмка рабіць такія кур'ёзныя паралелі. Ды і сёння я наўрад ці стала б выхваляцца ўласным невуцтвам і кідаць цень на ўласных сяброў, калі б не патрэба больш рэзка выявіць поўную непрыгоднасць гэтага прыёму — сваё асабістае неразуменне чаго-небудзь узводзіць у паўнамоцны ранг усеагульнага крытэрыя.

Мастацтва — свет настолькі шырокі і глыбокі, што адной, асобна ўзятай асобе, нават і вельмі значнай па сваёй разумовай і душэўнай патэнцыі, нават геніяльнай (Леў Талстой, як вядома, ні ў што не ставіў вялікага Шэкспіра), ахапіць мастацтва цалкам і цалкам зразумець немагчыма. Кожны з нас бярэ з невычарпальных багаццяў гэтага свету столькі, колькі ў стане змясціць наш розум, наша душа. Магчы-

ма, менш. Па ляноце. Але — не больш. Гэта — сумная абмежаванасць чалавечых магчымасцей. І добра, калі чалавек здольны яе ўсведамляць і пра тое сумаваць. Дрэнна, калі ён з уласнай абмежаванасці будуе эстэтычныя межы і ў гэтых межах наладжвае эстэтычную дэспатыю і татальную мабілізацыю пад свае і толькі пад свае густы.

Нікому не забараняецца сказаць: я не разумею і не люблю Шастаковіча. Калі «не разумею», адкуль жа ўзяцца «люблю»? Але любому і кожнаму забараняецца на падставе ўласнага «не разумею» і «не люблю» самаўпраўна аб'яўляць незразуметага і нелюбімага мастака, напрыклад,— па-за мастацтвам. Дзякуй богу, такое і немагчыма: у мастацтва свае ўмовы як пастаяннай, так і часовай праpіскі ў ім.

І ўсё ж тлуму ад людзей, якія прывыклі наклейваць «цэннікі», нямала. Смялей трэба спрачацца з імі, памятаючы пры гэтым, што ў мастацтва ёсць непарушны закон: форма не павінна быць самамэтай, яна павінна быць сродкам перадачы зместу. Сапраўдны мастак заўсёды ламае старыя формы. Гэта немінуча. Як немінуча і тое, што новая форма не заўсёды знаходзіць шлях да ўсіх сэрцаў адразу. Дакладней будзе нават сказаць, што яна не знаходзіць гэтага шляху ніколі — да ўсіх адразу. Бо і сёння, калі вершы Маякоўскага ўпісаны ва ўсе школьныя хрэстаматыі, не, не дый пачуеш эстэта, які сваё меркаванне пра паэта абавязкова «ўпрыгожыць» скептычнай агаворкай: так-так, маўляў, несумненна, вялікая асоба, трыбун і ўсё такое іншае, але, ці ведаеце, не паэт, мяне ён ніяк не хвалюе, гэта не лірыка, гэта нейкі барабанны гром і трубны глас... А мне вось, напрыклад, заўсёды здавалася, што мала зямля бачыла лірыкаў, чый лірызм быў бы такі пранізліва далікатны, як лірызм Маякоўскага...

Тут вы мяне можаце спыніць і спытацца, ці не станаўлюся падобнай я сама да тых жа аматараў «цягнуць і не пускаць», якія ўласнае бачанне ўзводзяць у абсалют, у ісціну, што не падлягае абмеркаванню? Ну і што такога, што чалавек не любіць Маякоўскага? Хіба ў яго няма права ўласнага выбару — каго чытаць, каго не? Хіба мала людзей гадамі не перачытваюць Гогаля, з маленства адчуваючы да яго нейкую непераможную прадузятасць, тое, што называецца — душа не прымае? Так вось яно так, але хіба на падставе сваёй няздольнасці «прычасціцца святых таямніц» вялікага мастацтва Гогаля ўсе здольны ці то панізіць яго ў літаратурным рангу, ці то і наогул выкрасліць са спіса класікаў? Я, напрыклад, не здольна і ў гэтым бачу істотную розніцу паміж сваім меркаваннем пра Маякоўскага і меркаваннем эстэта, які, пражыўшы на свеце больш за паўсотню гадоў, так і не навучыўся адрозніваць суб'ектыўнае ад аб'ектыўнага, сваё ўласнае «не хвалюе» проста ўзводзячы да сцвярджэння — «не паэт»...

Відаць, не варта тут так надоўга затрымлівацца на мастацтве. Пытанні, пастаўленыя ў пісьме, прымушаюць зрабіць новы, рэзкі крок.

Рэзкі? Так. Але ці ненатуральны? Бо гаворым мы аб прыгажосці. Аб той прыгажосці, якую чалавек шукае заўсёды і якую ён творыць па свайму ўласнаму разуменню, свайму ўяўленню пра тое, што такое прыгажосць. Чалавек шукае прыгажосць заўсёды. У мастацтве, у прыродзе, наогул — у жыцці. Шукае і абавязкова знаходзіць, творыць — і стварае. Згодна таму ўяўленню аб прыгожым, якое сфарміравана ў ім.

Згодна свайму ўяўленню. Што гэта азначае? Вось жанчына, што так і зззяе шчасцем і радасцю, нясе з рынку дадому букет пунсовых і белых «рукатворных руж». А вы, шкадуючы яе, адводзіце ўбок вочы: вам яе шкада, як бывае шкада калеку. Але паспрабуйце сказаць гэтай жанчыне, што яе папяровыя ружы — жалівыя! Вы яе страшэнна пакрыўдзіце і ўжо ва ўсякім разе азмрочыце такую светлую радасць. Эстэтычную радасць. Так, так, не ўсміхайцеся. Эстэтычную. У яе — такі густ, такое ўяўленне аб цудоўным...

Пажылы мужчына ў блакітным паліточыку і канарэечнай шапачцы з дзіцячым пампонам, які неяк асабліва жорстка падкрэслівае маршчыны немаладога твару, азызласць нетрэніраванага цела. Дужы малайчына ў чорна-бурым футры і валагодскіх карунках, абвешаны бірулькамі і нанізаны пярсцёнкамі-бранзалетамі, як Астап Бэндэр у момант пераходу румынскай граніцы. Вельмі паважных гадоў дама ў смелым убранні маладой прыгажуні і з распушчанымі па плячах валасамі. Няўжо ўсім ім прыйшла ў галаву думка: выглядаць недарэчнымі, смешнымі і тым самым — непрыгожымі? Нічога падобнага. І шаноўнаму пажылому грамадзяніну ў «маладым» убранні, і малайцу ў біжутэрыі, і матроне ў дзявочым убранні ў галаву не прыходзіць, што азіраюцца на іх не ў захапленні. Яны ж перакананы, што апрануты прыгожа, модна і прывабна.

Што рабіць? Што рабіць, напрыклад, з юнакамі, якія ходзяць з нямытымі пасмамі, засаленымі штанамі і паношанымі світэрамі? Яны не ўяўляюць, што ўсё гэта ўбранне, якое так выразна пераклікаецца з «арыстакратычнымі каптурыкамі» з «Клапа», сведчыць аб невысокім узроўні самастойнасці мыслення, аб нізкай бытавой культуры, нарэшце. Яны сто разоў перакананы, што крочаць у нагу з векам і апрануты — у духу веку, а таму — прыгожа.

Што рабіць? Спрачацца! Спрачацца, карыстаючыся прынятымі ў цывілізаваным грамадстве сродкамі, сродкамі пераканання, тлумачэння, выхавання. Спрачацца, ні на хвіліну не забываючы аб складанасці шляхоў фарміравання густу, а таму і аб складанасці яго выхавання. Аб густах не спрачаюцца? Спрачаюцца! І абавязкова.

**Ірына КЛІМАШЭЎСКАЯ.**

**«Конкурс харства».**
**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

# НАВОШТА ЗАВОДУ КАСМЕТОЛАГ

Некалькі гадоў назад штатны расклад Аршанскага льнокамбіната папоўніўся адразу некалькімі пасадамі, якія не маюць, на першы погляд, ніякіх адносін да характару вытворчасці. На работу былі залічаны майстар-мадэльер шырокага профілю, касметолаг і персанал, які іх абслугоўвае. Новыя «службы прыгажосці» размясціліся на тэрыторыі камбіната, непадалёку ад прахадной, у памяшканні, спецыяльна пабудаваным з гэтай мэтай. З таго часу цэх прывабнасці і здароўя, як яго пачалі называць, працуе падобна да астатніх — з поўнай нагрузкай. На камбінаце больш 10 тысяч жанчын, амаль усе яны — наведвальнікі ўласнага салона прыгажосці.

— Даводзіцца рабіць самыя розныя прычоскі, — расказвае гаспадыня салона, самы вядомы, бадай, чалавек сярод ткачых Таццяна Грыгор'ева.— Мае, часцей за ўсё, маладыя кліенткі — вялікія модніцы, уважліва сочаць за часопісамі мод, словам, вельмі патрабавальныя да сваёй знешнасці.

Таццяна Грыгор'ева закончыла Мінскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 12. Як выдатніцы і выпускніцы, якая падае вялікія надзеі, ёй прапанавалі застацца працаваць у сталіцы. Але якраз у той момант у вучылішча, на здзіўленне многіх, прыйшло пісьмо ад дырэктара Аршанскага льнокамбіната, які прасіў прыслаць ткачыхам лепшага майстра-мадэльера. І Таня, ураджэнка Оршы, паехала ў родны горад.

— Мой рабочы дзень пабудаваны адпаведна распарадку работы на заводзе. У асноўным жанчыны прыходзяць пасля змены, каб вярнуцца дадому прыгожымі. А некаторыя з работы ідуць у госці або на канцэрт, у кіно, на спатканне. Адной хочацца пафарбаваць валасы, другой зрабіць хімічную завіўку, трэцяй — стрыжку. Мне падабаецца, што ад мяне яны ідуць прыгожымі, задаволенымі. Прыкладна 20 чалавек я абслугоўваю штодзённа. Для тых, хто наведвае салон часта, распрацаваны зручны графік. Я іх чакаю да пэўнага часу, чаргі таму не бывае.

У салоне, дзе адбываецца наша размова, утульна, па-асеннняму светла і ціха. На століках у вазах стаяць астры, тут жа раскладзены часопісы мод, газеты. Здаецца, тут самі сцены «прымаюць» парад цудаў, на якія здольны таленавітыя рукі майстроў стрыжкі. Нарэшце і я адважыўся, падставіў сваю галаву пад нажніцы Таццяны, аб чым потым ніколькі не пашкадаваў.

А што думаюць пра работу касметолагаў іх пастаянныя кліенты?

— З таго часу, як у нас з'явіўся салон прыгажосці, — сказала прадзільшчыца Таня Каткоўская, — мы сталі самі сабе больш падабацца, як гэта ні смешна. Нішто, думаецца, не аб'ядноўвае так жанчын, як клопаты пра дзяцей, любімую справу і... аб прыгажосці. З камбіната ў прамым сэнсе слова не хочацца ісці. Змена закончылася, усе разам ідзём у басейн плаваць. Вада асвяжае, бадзёрыць. Потым — сюды, да мадэльера або касметолага. З новай прычоскай, з добрым колерам твару. Прыходзіш дадому бадзёрай, вясёлай — у мужа настрой павышаецца, яму прыемна за жонку. А іншыя спяшаюцца ў Палац тэкстыльшчыкаў: на танцы, на канцэрт, на вечар сустрэчы з цікавымі людзьмі. І дзе ні бываеш, усюды пры выпадку стараешся крадком паглядзецца ў люстэрка. Бо жанчына, чым бы ні была яна занята, усё роўна думае пра тое, як яна выглядае... Вось што такое салон прыгажосці, калі ён, што называецца, пад рукой заўсёды.

У правільнасці гэтых слоў пераконваешся і пабываўшы на прыёме ў касметолага Міхаіла Іванавіча Капыценкі. Тут, у добра абсталяваным кабінеце, праводзяць карысныя, неабходныя для жанчын працэдуры — парафінавыя, вітамінныя і пажыўныя маскі для скуры. Тут выдаляюць вяснушкі, пігментныя плямы, лечаць валасы, скуру твару—робяць больш за 40 аперацый. Кабінет касметолага, які носіць назву «Усмешка», ніколі не пустуе.

Салон прыгажосці, як лёгка пераканацца, пабываўшы на Аршанскім камбінаце, усяго толькі адна з многіх праяў клопату адміністрацыі аб ткачыхах.

— Затое самая прыкметная,— сказаў я ў размове з намеснікам дырэктара завода, кіўнуўшы на яе прычоску.

Валянціна Іванаўна Хадорык усміхнулася і пагадзілася.

**Міхаіл ЮР'ЕЎ.**

СУЗОР'Е



# ГНЕЎНАЕ СЛОВА ПАЭТА

## Нататкі пра неапублікаваныя радкі Якуба Коласа

Якуб Колас працаваў над вялікай паэмай «На шляхах волі», і тут пачалася вайна... Згарэў дом, у якім жыў і працаваў беларускі пясняр, згарэлі рукапісы. 24 чэрвеня 1941 года Колас з сям'ёй пакінуў ахоплены полымем Мінск, родную зямлю. Часовы прытулак знайшоў у Клязьме, у жончынага брата М. Каменскага. Тут народны паэт жыў з 5 ліпеня па 7 жніўня. У Клязьму прыязджаў да Якуба Коласа Янка Купала.

Народныя паэты звярнуліся да беларускага народа з хвалюючым пісьмом, у якім заклікалі яго мужна змагацца з гітлераўскімі акупантамі.

Пераехаўшы неўзабаве ў Ташкент, Якуб Колас напружана працуе для перамогі над фашысцкімі захопнікамі: піша вершы, паэмы, апавяданні, прасякнутыя нянавісцю да ворага. Тады ж паэт атрымаў пісьмовыя пытанні ад карэспандэнта адной з замежных газет. Мы расшукалі гэты адказ і прапануем увазе чытача.

«Я рады пагутарыць са сваімі заморскімі і заакіянскімі сябрамі...

На антыфашысцкім кангрэсе ў Парыжы я пераканаўся, што існуе ідэйная платформа, якая аб'ядноўвае ўсіх перадавых пісьменнікаў дэмакратычных краін, якія абараняюць культуру і свабоду свету супраць фашысцкага варварства. У гэтым пераканалі мяне прамовы пісьменнікаў, што выступалі на кангрэсе, асабліва пісьменнікаў ЗША і Англіі.

Не было ў гісторыі чалавецтва моманту, калі сусветнай культуры пагражала б такая сур'ёзная небяспека, як зараз.

Тэхніка, створаная геніем народаў усіх краін, трапіла ў лапы ашалелых дзікуноў. Яны сістэматычна знішчаюць насельніцтва і культуру часова захопленых імі еўрапейскіх і савецкіх краін. З халоднай жорсткасцю яны крочаць па трупах мірных людзей, жадаючы ўнушыць народам жах перад уяўнай сілай быццам бы непераможнай фашысцкай Германіі.

Я сын Беларусі. Мая краіна, што ляжыць на перакрыжаванні старажытных шляхоў паміж Захадам і Усходам, мая зямля, што са старадаўніх часоў належала майму народу, за чвэрць веку Савецкай улады з адсталай вобласці ператварылася ў квітнеючы край, які свабодна развівае свае вытворчыя сілы. Гэтым росквітам яна абавязана мудрай ленінскай нацыянальнай палітыцы.

У сучасны момант яна часова захоплена ворагамі. Усе помнікі яе старой культуры, усе культурныя ўстановы, школы, універсітэты і музеі; створаныя Савецкай уладай, бязлітасна знішчаюцца. Народ гоняць у палон і падвяргаюць нечуваным пакутам. Але Беларусь не здаецца жорсткаму ворагу. Яе сыны змагаюцца ў радах Чырвонай Арміі. Яе сыны становяцца бясстрашнымі партызанамі, якія наводзяць жах на захопнікаў.

Мая работа працякае зараз удалечыні ад маёй Радзімы, у сонечным Узбекістане. Радасна бачыць, як гэта краіна, верная дружбе нашых народаў, працуе на абарону нашай Радзімы. Адзінства пачуццяў і думак, магутная воля да перамогі аб'ядноўвае ўсе народы нашай краіны. Нішто не можа парушыць нашага рашэння знішчыць ненавіснага ворага».

У Ташкенце Якуб Колас, акрамя мастацкіх твораў, напісаў шмат публіцыстычных артыкулаў. У іх пісьменнік раскрывае рэакцыйную сутнасць паклёпу гітлераўскіх людаедаў на беларускі народ. Ён гаворыць, што нямецкія цемрашалы нахабна лгуць, нібыта беларускі народ не здольны да свабоднага, самастойнага жыцця, што ён павінен быць толькі рабом, не мае сваёй культуры. Беларускі народ на працягу тысячагоддзяў стварыў культурныя каштоўнасці, на роўных правах з іншымі народамі ўнёс свой уклад у скарбонку сусветнай культуры.

У публіцыстыцы Якуба Коласа гэта не проста словы. Ён прыводзіць шматлікія прыклады з гісторыі матэрыяльнай культуры, мастацтва, літаратуры, якія пераканаўча выяўляюць самабытнасць культуры беларускага народа.

«У шматвяковай барацьбе,— піша Якуб Колас у артыкуле «Дваццаць пяць»,—за сацыяльную справядлівасць, за нацыянальную незалежнасць і цэласнасць, за сваю культуру гартаваўся, як сталь, беларускі народ. З свайго асяроддзя ён вылучыў цэлы шэраг барацьбітоў за народную справу: Гаркуша, Крывашапка, Вашчыла, Каліноўскі і іншыя. Ён даў цэлую плеяду грамадскіх і культурных дзеячаў, якімі мог бы ганарыцца кожны народ: Францыск Скарына, Васіль Цяпінскі, Багушэвіч, Янка Купала. Праз горан цяжкіх выпрабаванняў, скрозь пакуты і кроў пранёс беларускі народ і захаваў сваю мову, свае звычаі, свой нацыянальны воблік».

Публіцыстычнае выступленне—не проста грамадзянская споведзь народнага песняра. У артыкуле паказана логіка гістарычнага жыцця беларускага народа, якая праявілася найперш у свяшчэнным пачуцці еднасці з усімі народамі Савецкага Саюза. Пясняр раскрывае асаблівасці нацыянальнага характару, вылучаючы тыя, што атрымалі найбольш моцнае развіццё ў агні цяжкіх выпрабаванняў Айчыннай вайны.

У артыкуле «Беларусь» (на жаль, ён не быў закончаны) паэт расказвае пра жыццё беларуса ў дакастрычніцкі час, пра тое, як радасна народ сустрэў дзень вызвалення ад паноў і замежных імперыялістаў (рукапіс захоўваецца ў Літаратурным музеі):

«Я помню і ведаю сваю родную краіну яшчэ ў царскія часы. Многа дарог перамералі мае ногі, ходзячы ад вёскі, ад мястэчка да горада. Прыгожа наша Беларусь з яе светлымі рэчкамі і празрыстымі крыніцамі, з яе азёрамі ў вянку зялёных берагоў, з яе лясамі і лугамі. Няясныя, чароўныя мары навяваюць у сэрца наша ціхія далі, атуленыя мяккаю сінечаю. Радасць і бадзёрасць уліваюць у душу галасістыя крылатыя песняры і пяснярκі нашых узлескаў і раскошных лугоў.

Шмат песень зламсыў і я дарэвалюцыйнай Беларусі і яе ветламу працавітаму народу. Як ні цяжка было яму пад сацыяльным і нацыянальным прыгнечаннем, у ціску галечы, малазямелля, ён ніколі не ўпадаў у роспач, не траціў веры ў сваю лепшую долю. Ён мужна зносіў цяжкасці жыцця, як народ, у глыбінях душы якога ніколі не высыхалі жывыя крыніцы сілы і надзеі. Невясёлыя былі мае песні аб долі народа, бо я бачыў пакуты і дзяліў іх разам з ім. Крыўдзіў яго паліцэйскі чын, крыўдзіў царскі чыноўнік, крыўдзіў пан, зганяючы яго з зямлі на батрацкія дарогі.

На маіх вачах адбываліся вялікія змены і вялікія падзеі на беларускай зямлі. Стагналі і плакалі яе дарогі, прыносячы з захаду на ўсход патокі бежанцаў. Гнаўся за імі чорны віхор вайны. Гарэлі беларускія вёскі, сёлы і гарады. Орды кайзераўскіх драпежнікаў грабілі, разбуралі наш край, наша багацце. набытак цэлых пакаленняў. Раслі і множыліся крыжы на безыменных магілах пад зялёнымі купамі старых бяроз, на глухіх узгорках, па краях прыдарожных лясоў. Туман смутку засцілаў людзям вочы. З заложанай торбай за плячамі, падпяразанае лыкам, у лапцях, з кіёчкам стукала гора горкае ў вокны, у вароты нізкіх, крытых саломаю хат. Ды ўсё на свеце мае свой канец. Рухнула кайзераўская Германія. Павыганялі прэч нямецкіх грабежнікаў. Падзьмуў другі вецер і развеяў волкія хмары, што звісалі над нашай зямлёй і засланялі сонца. Пачуў народ свежае дыханне новага часу, павесялеў. Атрос ён свой смутак. разагнуўся і грамадою пайшоў на спатканне новага дня і новай праўды. Я. Колас».

Народны пясняр з першага дня вайны непахісна верыў у перамогу савецкага народа над фашызмам, верыў у сілы і мужнасць роднага народа, які смела ўступіў у барацьбу з ворагам. Публіцыстычныя творы Якуба Коласа, натхнёныя гэтай верай, не страцілі свайго эмацыянальнага ўплыву, пазнавальнага значэння і сёння.

Мікола ЖЫГОЦКІ.

Спаўняецца восемдзесят гадоў з дня нараджэння нашага выдатнага празаіка і паэта, мужнага рэвалюцыянера, незабыўнага таварыша і старэйшага камуніста Піліпа Сямёнавіча Пестрака.

Мне давялося часта сустракацца і разам працаваць у Саюзе пісьменнікаў БССР з Піліпам Пестракам, быць суседам яго па кватэры. І хоць у нас адчувалася розніца ва ўзростах, мы шчыра сябравалі.

Як вядома, успаміны пачынаюцца са знаёмства. А знаёмства адбылося ў рэдакцыі часопіса «Беларусь», дзе я пасля дэмабілізацыі з арміі ўладкаваўся на работу. Піліп Пестрак прыносіў тады ў «Беларусь» вершы і апавяданні. Пасля вайны ён ахвотна ўзяўся за пяро. І быў адным з першых паэтаў, якія пачалі наведваць пасяджэнні секцыі прозы, дзе мы, яшчэ маладыя, згуртаваліся на чале з Іванам Мележам і абмяркоўвалі свае творы. Часцей за ўсё то былі апавяданні і аповесці.

Я ўжо чуў, што ён на пахвалу не шчодры.

— На сходах часамі бунтуе,— казаў Ілья Данілавіч Гурскі, наш рэдактар.

Каранастая постаць Піліпа Пестрака, яго да зіхацення паголеная галава, высокі сакратаўскі лоб, што заўсёды свяціўся між усіх, выклікалі ў мяне трывогу і насцярожанасць. Ну, не тое, каб трывогу і насцярожанасць. Я адчуў яшчэ большую адказнасць перад абмеркаваннем: прыйшоў старэйшы пісьменнік, які добра ведае Заходнюю Беларусь, а маё апавяданне пра калектывізацыю на Гродзеншчыне. Да Піліпа Пестрака ляжала ў маім сэрцы вялікая пашана, бо чалавек адпакутаваў адзінаццаць гадоў за кратамі белапольскай Польшчы. Я ўсхвалявана чакаў, што ён скажа.

А ён сказаў кораценька:

— Я прыйшоў паведаміць, што апавяданне «Вяселле ў Загор'і» мне спадабалася. Толькі ў канцы трэба, каб Домуць звяртаўся да ксяндза не «пане», а «ойчэ». Або «пробашч»...

Я гэту заўвагу — дзякуй! — улічыў.

Вось, уласна кажучы, з таго і пачалося наша блізкае знаёмства.

І яшчэ. У пасляваенныя гады, якія ўсплываюць на памяць, Дом творчасці ў Каралішчавічах з'яўляўся тым месцам і прытулкам, дзе мы, і старэйшыя і маладзейшыя, маглі больш уважліва і прыслухацца адзін да другога, і паназіраць збоку, і прыгледзецца таварыш да таварыша. Там кіпеў творчы кацёл. Там працавалі амаль усе, іх няма патрэбы пералічаць.

Вядома, не круглыя суткі мы сядзелі над рукапісамі ў сваіх сціплых пакойчыках. (Хоць траплялiся і такія.) І калі здаралася вольная хвіліна, адпачывалі, хадзілі па сцяжынках у лесе — тады такога буралому не было. Піліп Сямёнавіч быў дружны спадарожнік. Ён не рабіў афіцыйнага выгляду, лёгка ўступаў у размову, дзяліўся сваімі запаветнымі мясцінамі, дзе раслі грыбы.

— Як справы, таварыш Івановіч? — пытаўся Піліп Сямёнавіч.— Над чым працуецца?

Маё імя па бацьку ён заўсёды вымаўляў як прозвішча. Толькі без афіцыйнасці, без іроніі, неяк па-свойму, як старэйшы. Як я пазней адчуў, а мне давялося не раз бываць з ім у паездках, на выступленнях, ён шанаваў таварыскасць. Таварыскасць з вялікай літары. Я гэта вельмі адчуваў.

Піліп Сямёнавіч быў дбайны і гаспадарлівы. У Каралішчавічах непадалёк ад сталоўкі, крыху на поўнач, раскінулася палянка. На палянцы пралегла дарога між лесу, па якой мы шпацыравалі пасля абеду. Нікому і ў галаў не прыйшло, каб на гэтай палянцы, ля самай дарогі, вытаптаную, непатрэбную зямлю, заросшую быльнягом і драсёнам, выкарыстаць пад агарод. А Піліп Сямёнавіч з'явіўся тут аднойчы з сякерай і рыдлёўкай. Расцерабіў і ўскапаў цалік. Мабыць, яго надта прывабівала сялянская праца. Ён любіў і зямлю, і ўсё, што расло на зямлі. Канешне, не першы: ужо ўсе ведалі, што ў Якуба Коласа каля доміка ў Мінску расце пасеянае ім жыта. Эліта, якую ён выводзіў здаўна.

Піліп Сямёнавіч аднае вясны пасадзіў на сваёй «плантацыі» бульбу і памідоры. Ён старанна даглядаў гэты агарод. У канцы лета высветлілася, што ўраджай удаўся на славу. Памідоры, праўда, доўга паспявалі. Праменні сонца падалі на «плантацыю» да дванаццаці гадзін дня. Потым яно хавалася за елкі. Але ўсе, хто хадзіў па дарозе, так і звалі гэта месца:

**Іван ГРАМОВІЧ**

# ЁН ШАНАВАЎ ТАВАРЫСКАСЦЬ

**старонкі ўспамінаў**



□ Іван Грамовіч і Піліп Пестрак. Місхор, 1958 год.

— Піліпавы градкі.

А гаспадар не толькі вырасціў ураджай на градах, але і нас частаваў тым, што паспела. Я сам ласаваўся печанай бульбай з яго «плантацыі».

У Доме творчасці існавала завядзёнка, распачатая Міхасём Лыньковым: увечары распальваць вогнішча і збірацца каля яго. І такая ўрачыстасць была, калі Піліп Сямёнавіч, выгартаючы з гарачага прыску шэра-жоўценькую, падвугленую, пахучую бульбіну, частаваў:

— Пакаштуй, нічога няма найсмачнейшага на свеце ад нашай спечанай бульбы.

Гэты чалавек, лёс якога можна далучыць да тых, хто, як кажуць, «з легенды», быў простым, асабліва таварыскім.

— Найлепшы гатунак часнаку ў Кобрыне,— з дасведчанасцю сказаў ён аднойчы.— А сушаныя грыбы я куплю і прывожу з Пінска.

І, сапраўды, я быў сведкам, як Піліп Сямёнавіч пасля літаратурнага выступлення ў Кобрыне хадзіў на рынак, купіў там пляцёнку часнаку і вязло грыбоў.

Піліп Сямёнавіч характарам быў шчыры, адкрыты, не хітрыў, як некаторыя, і не таіў злосці на суседа, гаварыў, што думаў, у вочы. Ён выступаў на сходах. І выступаў па самых надзённых пытаннях. Выступаў тады, калі патрабавалася сапраўды неабходнае, партыйнае слова старэйшага камуніста. Ён страшэнна ненавідзеў кар'ерыстаў і двурушнікаў. Выступаў горача і прынцыпова. Класавага чуцця яму, як кажуць, не пазычаць. Аднойчы ён з гневам сказаў:

— Уся справа, як глядзець наперад. Ці глядзець так, як глядзеў бядняк, вачамі рэвалюцыянера. Ці глядзець так, як глядзеў кулак-міраед, крадком выглядаючы на свет са свайго хутара.— І дадаваў сваё асабістае слаўцо: — Вываратковец!.. Іншы грукае сабе ў грудзі, клянецца Леніным. А ў руках кніжкі Леніна не трымаў.

Піліп Пестрак глыбока разбіраўся ў рэвалюцыйных падзеях, горача сачыў за міжнародным становішчам у свеце, выступаў за мір. Са свежай газеты пачынаўся яго рабочы дзень. Падзеі ў Карэі, В'етнаме, на Кубе, у Анголе яго моцна хвалявалі.

З уласнага жыцця, як кажуць, на ўласным вопыце ведаючы рэвалюцыйныя падзеі, ён тым не менш не пераставаў вывучаць гісторыю КПСС. З групай пісьменнікаў наведваў заняткі ў вячэрнім універсітэце марксізму-ленінізму пры Мінскім гаркоме партыі. Ён упарта працаваў над сабой, вучыўся.

У кароткіх нататках успамінаў не разгорнешся з аналізам светапогляду і творчасці гэтага вядомага празаіка і паэта. Аднак раман «Сустрэнемся на барыкадах» Піліпа Пестрака — вялікі ўклад у нашу беларускую савецкую літаратуру, гэта жывыя старонкі КПЗБ.

Піліп Пестрак — гісторык. У яго былі багатыя замыслы, назіранні, якія, на жаль, засталіся некранутымі ў творчасці. Можна было пазайздросціць яго начытанасці. Помню, будучы ў Нясвіжы, ён захапляўся гісторыяй, апавядаючы пра «Патоп» Стэфана Жаромскага і раман «Крыжакі» Генрыка Сянкевіча, дзе адлюстравана Грунвальдская бітва.

— Тут жа, у Нясвіжы, гарцаваў на кані Ярэма Вішнявецкі, які душыў паўстанне Багдана Хмяльніцкага...

І Піліп Сямёнавіч мог апавядаць не толькі сцэны з рамана, прысвечанага нацыянальна-вызваленчай барацьбе польскага народа ў напалеонаўскую пару, але і расказваў пра гісторыю польскага магнацтва, польскай шляхты. Ён ведаў усю дынастыю князёў Радзівілаў, багацеяў, улада і жорсткасць якіх да беларускага народа не ведала межаў. Радзівілы былі прыслужнікамі еўрапейскіх манархаў, ад Напалеона — да рускага цара. Цяпер аб гэтым багата напісана ў нас, а тады, калі мы ў шасцідзесятыя гады, наведаўшыся ў Нясвіж, сталі каля касцёла, мне было да здзіўлення ўсё невядомае.

Піліп Пестрак захапляўся не толькі творамі рускіх класікаў — А. Пушкіна, М. Гогаля, Л. Талстога, М. Горкага, але і выдатнымі майстрамі польскай літаратуры Г. Сянкевічам, С. Жаромскім, Э. Ажэшкай, Ю. Славацкім. Ён рабіў пераклады з польскай мовы.

Гісторыю уніяцкай царквы ён таксама добра ведаў і з гневам абураўся супраць сучаснага каталіцызму, які звіў гняздо сабе ў Ватыкане.

Аднойчы наша газета «ЛіМ» надрукавала верш пад назвай «Манах». Усё было б добра, калі б не адна заўвага. Змешчаны ён быў у той дзень, калі ўся грамадскасць адзначала 8 Сакавіка. Сярод пісьменнікаў знайшліся гумарысты: ці тактоўна зрабіла, змясціўшы верш, газета?! Умяшаўся Піліп Сямёнавіч. Ён ніколечкі не ўсміхнуўся і заключыў так:

— Гледзячы, які манах — дамініканец ці францішканец.

У гэтым ён ведаў пэўны сэнс.

Некаторыя з пісьменнікаў лічылі Піліпа Сямёнавіча дзіваком у жыцці. Збоку, магчыма, гэта і выглядала так. Але за яго дзівакаватай вонкавасцю заўсёды стаяла цвёрдая прынцыповасць рэвалюцыянера. Доўгі час ён быў за кратамі, і гэта наклала на яго характар пэўны адбітак. Па-першае, адбітак мужнасці і справядлівасці, а па-другое, своеасаблівы густ ва ўспрыняцці навакольнага.

Помню, мы сядзелі ў зале перад пачаткам кіно. Кінамеханік праз узмацняльнік круціў пласцінкі сучасных замежных джазаў.

— Не люблю гэтага тарахцення,— крывячыся, сказаў Пестрак.

— Ну, а што вы, Піліп Сямёнавіч, хацелі б зараз паслухаць? — запытаўся я.

Ён падумаў і задуменна прамовіў рэчытатывам:

— Ся-джу за рэшо-откай у цямніцы сыро-ой!..

Ён любіў народныя песні, народныя звычаі, народныя паданні, прыкметы — усё, што бытуе ў народзе. І быў саркастычна-гнеўным, сярдзітым, не мог дараваць чыёй-небудзь пыхлівасці, прагнасці, фанабэрыстасці.

Аднойчы я вёў партыйны сход. На ім нашы пісьменнікі-камуністы асуджалі палітычна непрыстойны ўчынак Барыса Пастарнака, які надрукаваў за мяжою свой паклёпніцкі раман. У зале Піліп Пестрак сядзеў у першым радзе.

І вось выступае таварыш з Акадэміі навук. Ці то яму ў вочы кінулася чало Піліпа Сямёнавіча, ці то ў голаў іншая думка заскочыла, ён вазьмі ды і памыліся:

— Я асуджаю гэты ўчынак празрэннага Барыса Пестрака...

Мне здалося, што наш сход сарвецца. Але Піліп Сямёнавіч толькі ўстаў з месца і кінуў рэпліку:

— Калі ты такі вучоны, дык выступай па-пісанаму.

У жыцці ён быў, мне ўяўляецца, добры, таварыскі, а характарам і прызваннем — паэт-рамантык. Нават да жыцця ўласнага ставіўся рамантычна.

Піліп Сямёнавіч памёр ад цяжкай, працяглай хваробы. Пражыў ён усё жыццё са сваёй вернай сяброўкай Анастасіяй Сцяпанаўнай, з якой пазнаёміўся ў турме. І першыя словы прызнання ёй, вечнай спадарожніцы, выказаў умоўным стуканнем праз турэмную сцяну...

# У СКАРБНІЦУ ЛЕНІНІЯНЫ

**КНІГА «ЯК РАЗГАРАЛАСЯ ПОЛЫМЯ»**, якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Юнацтва»,— не першая ў Паўла Ткачова аб жыцці і дзейнасці У. І. Леніна. Пісьменнік вядомы шырокаму колу чытачоў як аўтар аповесцяў «Пакунак з наборам», «Час світальнай зоркі», «Быў месяц кастрычнік», «Пілінка з Галубінай слабодкі», «Сэрца камунара», шэрагу апавяданняў, таксама прысвечаных правадыру міжнароднага пралетарыяту Уладзіміру Ільічу Леніну.

Новая кніга П. Ткачова апавядае аб важных перыядах жыцця і рэвалюцыйнай дзейнасці Уладзіміра Ільіча, звязаных з яго прабываннем у Сімбірску, Казані, Пецярбурзе, Шушанскім, Бруселі, Лондане і іншых гарадах. Вядома, аднак, што аб неўміручых старонках тытанічнай дзейнасці правадыра, яго мужнай барацьбы за волю і шчасце працоўных у гэтых цэнтрах рабочага і рэвалюцыйнага руху напісана шмат як мастацкіх, так і навуковых даследаванняў. У даным выпадку Ткачову трэба было знайсці сваё творчае рашэнне тэмы, паглыбіць і значна пашырыць яе цікавым матэрыялам, асабістымі ўражаннямі і назіраннямі, знайсці арыгінальны ідэйна-мастацкі метад асэнсавання фактаў. Тым больш, што на гэты раз пісьменнік адрасуе твор сярэдняму і старэйшаму юнацкаму ўзросту.

Найперш пісьменнік выбірае спрыяльны, на наш погляд, жанр асэнсавання жыццёвага матэрыялу. Свой твор П. Ткачоў назваў «аповесць-падарожжа». І не выпадкова. Гэта сапраўды надзвычай цікавае падарожжа пісьменніка ў далёкую мінуўшчыну і сённяшнія тых мясцін, дзе жыў і працаваў У. І. Ленін. З першых жа радкоў кнігі, выказваючы свае хвалюючыя пачуцці да горада Ульянаўска, радзімы Уладзіміра Ільіча, куды пісьменнік прыляцеў на самалёце разам з іншымі турыстамі, і да апошніх яе старонак — перад намі яркія малюнкі мінулага, аўтарскія ўражанні аб дні сённяшнім блізкіх сэрцу кожнага з нас мясцін, дзе ў свой час так плённа працаваў У. І. Ленін над стварэннем партыі новага тыпу, пісаў свае выдатныя творы.

Багаты на аўтарскія ўражанні, надзвычай задушэўны роздум ад наведання ленінскіх мясцін арганічным чынам насычваецца гістарычнымі

# НА ШЛЯХАХ УСТРЫВОЖАНАГА ДУХУ

**«ПАЎСТАНЬ, РАСПНІСЯ, УВАСКРЭСНІ! І НЕМАГЧЫМАЕ ЗРАБІ!»**— звонка фармуляваў герой ранняга Алеся Разанава. І гэта была не толькі дэкларацыя, але і актыўнае праграміраванне самога сябе. У нейкай ступені жаданне пазначыць паэтычнай формулай тое, што адбывалася ў рэчаіснасці і ў літаратуры. Праўда, адбывалася некалькі раней, да Разанава, і выказана ў паэзіі інакш: «Сегодня в 0.35 еду Братскую осуществлять!» (А. Вознесенский).

Пры ўсім тэхнакратызме, жарсткаватай зададзенасці шмат якіх вершаў лірычны герой Разанава — ён нагадваў героя ранняй лірыкі Вазнясенскага — не здаваўся штучна створаным. Маральны максімалізм, нястомнасць у руху да мэты, знешні рацыяналізм, які нібыта нейтралізавалі выбухі пачуцця — усё было жыццёвае і пазнавальнае.

Новы перыяд у яго паэзіі вызначыўся ў другой кнізе «Назаўжды», у раздзеле «Пункціры», дзе былі сабраны яго філасофскія мініяцюры, пазначаныя раўнавагай думкі і пачуцця. Менавіта ў мініяцюрах упершыню ўзнікла і сцвердзілася тая духоўная засяроджанасць, што ў поўнай ступені раскрылася ў кнізе паэм, у «Каардынатах быцця».

У «Каардынатах быцця» лірычны герой Разанава выглядае ўжо іншым. Быццам той жа малады і самаўпэўнены чалавек эпохі НТР, што хутка і лёгка засвоіў пэўную суму інфармацыі і спосабы адносін з ёю, раптам сутыкаецца з рэчаіснасцю і напачатку адступае перад ёй. Бо атрымліваецца, што жыццё зусім не спяшаецца ўступаць разумным і энергічным патрабаванням. Герой устрывожаны: як? чаму? хто вінаваты?

«Стоит раздумье на пути встревоженного духа, как будто бьется взаперти, стекла не видя, муха...»

Радкі Юрыя Кузняцова дакладна вызначаюць новую сітуацыю лірычнага героя Алеся Разанава і ўскосна сведчаць, што недзе і на нейкі час шляхі іх герояў скрыжаваліся. Але калі Юрый Кузняцоў, знайшоўшы «край света за первым углом», палічыў за лепшае не спакушаць рэальнасць устрывожаным духам і выпусціў яго ў прасцягі гісторыі і фальклору, то Разанаў у «Каардынатах быцця» спрабуе застацца верным рэальнасці, мяркуючы, што, калі яна збянтэжыла дух, то толькі ёй пад сілу яго заспакоіць, праясніць.

У «Каардынатах быцця» ўсё прасякнута трывожнай атмасферай нашага стагоддзя. На трывожным, трагічным фоне — рэальна ж існуе пагроза самазнішчэння чалавецтва! — адбываецца дзеянне паэм-маналогаў...

Кожнае імгненне нашага жыцця можа быць апошнім. Калі ж мы знойдзем адказы на ўсе пытанні, якія скрозь задавала сабе людства? У чым сэнс жыцця? Жыцця кожнага асобнага чалавека? Кожнага народа, няхай самага маленькага? Чалавецтва? У чым сённяшні сэнс і як ён суадносіцца з вечным? Што такое чалавек наогул? Дзе межы розуму і сэрца? У чым сутнасць вечнай спрэчкі творчасці і рамяства? Якія суадносіны рацыянальнага і ірацыянальнага ў чалавеку? Што дае сілу жыць на краі бездані — веды ці няведанне? І што такое шчасце? І што такое каханне?

Пытанняў больш, чым адказаў. Кніга вабіць засяроджаным, мужным, паслядоўным роздумам — роздумам чалавека, які ва ўсім стараецца дайсці да самой сутнасці.

У «Каардынатах быцця» Разанаў развітваецца з наіўным асветніцкім рацыяналізмам, з легкаважкім валюнтарызмам у адносінах да свету, часткова ўласцівым першым кнігам. Пафас кнігі — гэта ўвага, услуханне ў сусветную суладнасць, якая, упэўнены паэт, усё-ткі існуе і пульс якой можна і трэба адчуць у хаосе быцця.

Пасля выхаду паэм Разанаў апынуўся ў зоне прадузятай увагі і чытачоў і крытыкі: найперш гэта было звязана з фармальнымі асаблівасцямі яго паэзіі. У паэмах паэт дэманстраваў і верлібр, і белы верш, і рытмічную прозу; паэзіі яго ўласцівы і асацыятыўнасць і сімвалічная метафарычнасць; біблейскія матывы перапляталіся з фальклорнымі; максімальнае спрошчванне гаворкі кантрастна вылучала імкненне да дакладнасці навуковага паняцця, да тыпалагічнага вобраза.

«Гэта не ў нашых традыцыях! Нам такое не патрэбна!»— часта гучала ў адрас паэм Разанава. «Але калі традыцыя і зусім не наша,— пытаўся Алесь Адамовіч,— то ці азначае гэта, што яна нам не патрэбна? Быццам бы мы жывём не ў тым жа свеце, дзе побач і нараўні з Пушкіным і Твардоўскім патрэбны і Пастарнак, і Лорка, і Рыльке?» ...Палеміка не скончана і дасюль.

Да «Каардынат быцця» далучаецца і новая кніга Алеся Разанава «Шлях-360». Крыху незразумелая назва расшыфроўваецца ў анатацыі: назва сімвалізуе шлях жыцця, кругаварот. Прадмову да кнігі напісаў народны паэт Беларусі Пімен Панчанка, грунтоўнае пасляслоўе — крытык і літаратуразнавец Варлен Бечык. Цяжка сказаць, ці стала чытачу пасля ўсіх гэтых тлумачэнняў лягчэй. Цяжкасць успрыняцця тлумачыцца не толькі складанасцю зместу, што прэтэндуе, як і ў папярэдняй кнізе, на апошняе, абагульняючае слова пра свет, але і складанасцю формы, часта неапраўдана, штучна ўскладненай.

Устрывожаны дух ад максімалісцкіх спроб поўна і канчаткова выказаць сябе — адразу аблягчыць стомленую душу — прыходзіць да маўчання, да слова са знакам мінус. Устрывожаны дух адступае перад светам, але, не прызнаючы сваю нежыццяздольнасць, хаваецца ў герметычнасць. Знайшоўшы схоў, як сведчыць гісторыя сусветнага мастацтва, устрывожаны дух супакойваецца, а каб не нудзіцца, паглыбляецца ў чыстую гульню форм, «гульню ў бісер», памалу губляючы жорсткія і балючыя сувязі з рэальнасцю. Асоба знікае за непатрэбай, застаецца безаблічны стваральнік красвордаў і крыптаграм, свабодных кампазіцый на тэмы гісторыі і мастацтва.

Усё гэта прыходзіць на думку, калі знаёмішся з новай кнігай Алеся Разанава. Яна наскрозь палемічная, гарачліва палемічная. Заручыўшыся моцнай падтрымкай, Разанаў абрушвае на традыцыяналістаў увесь свой багаты арсенал — ад паэм-маналогаў, яшчэ больш сімвалічных і абстрактных, чым у «Каардынатах быцця», да «квантэм». Квантэма — версіфікацыйны тэрмін, прыдуманы самім паэтам, і азначае квант паэзіі. Дакладней — гэта некалькі радкоў, не звязаных паміж сабой, што

# ПАДПОЛЬШЧЫК, ВОІН, ЖУРНАЛІСТ

**ТРЫМА ГЭТЫМІ СЛОВАМІ** можна ахарактарызаваць героя кнігі «Маё маўклівае сэрца», выпушчанай нядаўна выдавецтвам «Юнацтва». І не толькі героя, але і аўтара — Якуба Міско, які з маладых гадоў выбраў сабе найсумленнейшы жыццёвы шлях — служыць народу.

...Чатырнаццаціга д о в ы хлопец хоча атрымаць сярэднюю адукацыю і едзе ў славутую Вільню, у беларускую гімназію. І тут, яшчэ вучнем зведаўшы над сабою паняверку панскай улады, хлопец з Чамяроў, з-пад Слоніма, раз і назаўсёды вырашае, па які бок барыкад яго-нае месца. Адкрывае кнігу дакументальная аповесць «Было яно калісьці...» Першая частка яе «Шляхі і краты» ахоплівае перажытае аўтарам у часы буржуазна-памешчыцкай Польшчы. Перад яго вачамі, як у калейдаскопе, праплывае мноства людзей. Тут і вучні-сябры, і настаўнікі. Цёпла, з сімпатыяй апавядае аўтар пра выкладчыкаў гімназіі Рыгора Шырму, Ігната Дварчаніна, Сяргея Паўловіча, пра многіх вучняў, з асяроддзя якіх выйшлі знакамітыя паэты Валянцін Таўлай, Алесь Салагуб.

Чытаючы аповесць, усё больш разумееш вытокі светапогляду аўтара, тыя прычыны, што паклікалі яго на змаганне. Перш-наперш — галеча селяніна, якую ён бачыў яшчэ ў роднай вёсцы; бясхлебіца, калі раніцой зажынкі, а к вечару — дажынкі. А і тут, у вялікім горадзе,— гаротнае жыццё рабочых і рамеснікаў, нацыянальны ўціск. І ў той жа час — прыклад Беларусі Усходняй, якая ў дружнай сям'і народаў Савецкага Саюза будуе новы, справядлівы лад, дзе перад чалавекам працы адкрыты ўсе дарогі ў светлую будучыню.

Якуб становіцца камсамольцам і з усім стараннем выконвае даручэнні: дастаўляе палітвязням у турму на Лукішках перадачы, распаўсюджвае па горадзе нелегальную літаратуру. На камсамольца, а пасля ўжо і члена КПЗБ з усёй лютасцю абрынуліся рэпрэсіі: выключэнне з гімназіі,

дакументамі, якія знаёмяць чытача з цікавымі фактамі з жыцця сям'і Ульянавых, з маленствам У. І. Леніна, яго студэнцкімі гадамі, пачаткам рэвалюцыйнай дзейнасці. Шматлікія гістарычныя дакументы аповесці-падарожжа сведчаць аб стараннай працы Паула Ткачова ў архівах, аб пошуку малавядомых фактаў на старонках дарэвалюцыйнага перыядычнага друку — «Сімбірскіх губернскіх ведамасцей», «Весніка Еўропы», «Рускай старыны», у справах педагагічнага савета Сімбірскай гімназіі і многіх іншых. У кнізе ўдала спалучаецца ідэйна-мастацкае асэнсаванне жыццёвай праўды пісьменніка і скрупулёзная праца даследчыка, вучонага, асабістыя ўражанні падмацаваны малавядомымі гістарычнымі дакументамі.

Вось, напрыклад, раздзел кнігі «Студэнт Казанскага». Аўтар паказвае, з якімі цяжкасцямі брату «дзяржаўнага злачынца Аляксандра Ульянава» ўдалося паступіць у імператарскі Казанскі універсітэт і вучыцца там. Дакументы, успаміны былых студэнтаў Казанскага універсітэта, паліцэйскія даносы, скупыя звесткі пажоўклых старонак часопісаў і газет — каштоўны матэрыял, які даў магчымасць адлюстраваць П. Ткачову вобраз студэнта Уладзіміра Ульянава, яго вялікую ролю ў палітычным жыцці універсітэта і Казані, калі «студэнты жылі ў настроі турбот аб рускім народзе, у бесперапыннай трывозе аб будучыні Расіі».

Апіраючыся на багатыя і разнастайныя гістарычныя дакументы, пісьменнік паглыбляе ўспрыманне чытачом ленінскіх мясцін, насычае іх бурнымі рэвалюцыйнымі падзеямі канца XIX і пачатку XX стагоддзяў. У гэтых адносінах думкі і разважанні аўтара даволі ўдала падмацоўваюць ілюстрацыі кнігі. Фотаздымкі сям'і Ульянавых, мемарыяльнага комплексу вёскі Шушанскае, Казанскага універсітэта, прабывання У. І. Леніна ў гасцях у Горкага на Капры, у Закапане ў Польшчы, у Смольным і гэтак далей, а таксама шматлікія фотадакументы дыялектычна зн̆ітоўваюцца з агульным ідэйна-мастацкім пафасам аповесці-падарожжа, напаўняюць яе подыхам хвалюючых падзей.

Насычаная цікавымі фактамі, палітычна вострымі сітуацыямі непрымірымай барацьбы Уладзіміра Ільіча супраць ідэйных ворагаў марксізму, розных суб'ектывісцкіх тэорый, за партыю новага тыпу, аповесць-падарожжа «Як разгаралася полымя» безумоўна ўзбагаціць Ленініяну, дапаможа вучням старэйшых класаў, студэнтам, настаўнікам у вывучэнні багатай спадчыны правадыра працоўных.

**Іван САЧАНКА,**
**дацэнт БДУ імя У. І. Леніна.**

---

як «буйкі» пазначаюць патанулы змест (змест спасцігаецца, на думку аўтара, шматразовым сузіраннем «буйкоў», каб угадаць спадарожныя асацыяцыі). Наогул, гэткая своеасаблівая форма самаабслугоўвання ў паэзіі. Вось узор:

«гаворыць чалавек... не для сябе я той, хто сам... крумкач над галавою».

Новая кніга старанна выбудавана, сістэматызавана, яшчэ ў большай ступені, чым папярэдняя. Яна складаецца з дзевяці тэм-блокаў, якія пераклікаюцца адна з адной, пазначаючы рух героя па шляху пазнавання свету. У кожную такую частку ўваходзяць паэма, два кароткія вершы і дзве квантэмы. Паэма — звычайна шматслоўны, зацягнуты рэпартаж з глыбінь устрывожанага духу. Два вершы — выхад з глыбінь, вяртанне ў свет. Гэта глыткі свежага паветра: свет усё-ткі рэальны, і нават цудоўны. Герой нібыта стамляецца ад заўсёднай драмы ідэй, што ідзе на сцэне яго свядомасці, і чапляецца за нешта неасрэчна рэальнае.

Паэмы — блізкія па духу паэзіі сённяшняга Юрыя Кузняцова, кароткія вершы нагадваюць верлібры Вячаслава Купрыянава. Затое квантэмы Разанава нагадваюць толькі квантэмы Разанава. Прызначэнне іх, магчыма, у тым, каб, ледзь пазначыўшы сутнасць праблем, закранутых у паэме, гучаць гэтакім дальнім, ледзь чутным рэхам. Але ж рэха ў паэтычным тэксце — гэта асацыятыўнасць. Ніякага адкрыцця тут няма.

Мажліва, квантэмы павінны служыць мастком да наступнай часткі кнігі. Хоць абсалютна дакладна нельга нічога сцвярджаць. І сам аўтар не настойвае на якімсьці пэўным вытлумачэнні. Ён дае чытачу свабоду. Поўную. У адрозненне ад паэм, дзе ён вядзе чытача на кароткім павадку, і след у след.

І калі квантэмы звернуты да фантазіі чытача, то паэмы патрабуюць добрай гісторыка-філасофскай падрыхтоўкі. Як і ў «Каардынатах быцця», яны выяўляюць розныя тыпы адносін з рэальнасцю. І ўсё ж часцей, чым раней, застаюцца на ўзроўні абстракцыі. Прыкладам можа служыць «Першая паэма шляху», калі дзеянне разгортваецца ў прывіднай атмасферы рацыянальна пабудаванага жахлівага сну на тэму: горад і чалавек. Выпрабаванні героя ўмоўныя: віхуры, віры, пейзажы страшнага суда. І таму канечнае прымірэнне з горадам выглядае непераканаўча. А мужнасць героя, яго гуманістычны пафас здаюцца ўсяго толькі дэкларацыяй.

Разанаў сам адчувае слабасць сваіх абстрактных збудаванняў — на матэрыяле прачытанага (ад Новага запавету да К'еркегора і дзэн-будызму) — збудаванняў, якія вядуць да шматслоўя і рацыянальнай праблізнасці. Ён спрабуе пераадолець іх нейкай звышэмацыянальнасцю, амаль экзальтацыяй. Калі раней думка ахаладжвала пачуццё, то цяпер пачуццё захлiствае думку. На змену рацыянальнай праблізнасці прыходзіць эмацыянальная. І дакладны контур пачуцця зноў недасяжны. Гэта асабліва прыкметна ў «Паэме пераадолення», у «Паэме гарачага лісця».

Творчы махавік Разанава цягне да крайніх адхіленняў: то абстрактная думка, то экзальтаванае пачуццё, то паэма, то квантэма, то фальшывая шматсэнсавасць, то банальнасць, то стамляючае шматслоўе, то «слова са знакам мінус». Безумоўна, гэтыя адхіленні сведчаць аб якойсьці дастатковa складанай і напружанай сітуацыі ўнутранага жыцця, якую не разблытаць з наскоку, але што аўтар спрабуе рабіць. Паэт, як і ў юнацтве, скіраваны на «немагчымае». Але ўжо ў паэзіі. Бо якраз немагчымае патрабуе валявых намаганняў, удвойвае іх. Таму на шляху да немагчымага Разанаў схільны атаясамліваць цудоўнае са складаным, а творчасць — з вынаходніцтвам, з уменнем «хімічыць па новых рэцэптах». А мастацкая творчасць не адпавядае навуковай, пры ўсёй блізкасці яны не супадаюць. Магчыма, Разанаў недаацэньвае спецыфіку мастацкай творчасці, атаясамліваючы яе з навуковай.

Ёсць у новым зборніку паэмы — «Паэма рэха» і «Паэма палявання», — што з'яўляюцца несумненнымі ўдачамі Разанава. Менавіта ў гэтых творах працягваецца даследаванне рэальнага жыцця, узаемаадносін паміж рэальным часам і рэальнай асобай. У «Паэме палявання» паэт паказаў працэс пераадолення бессвядомых адносін да свету, якія нясуць гібель і для самога чалавека. «Паэма рэха» — гэта трагедыя незразуметай і затоенай у сабе чалавечнасці.

Алеся Разанава цяжка цытаваць. Вынік чытання — далёка не сума цытат, не канечныя і жорсткія фармуліроўкі. Паэт і не імкнецца да іх. У апошніх кнігах — няхай не заўсёды пераканаўча і вельмі часта толькі дэкларатыўна — ён нагадвае нам, што паэзія не зводзіцца да другарадных прыкмет: рыфма, памер, метафара. Паэзія — заўсёды сутнасць з'явы, схаваная ад знешняга зроку, гэта подых быцця, гэта язда ў невядомае.

Разанаў адважваецца сцвярджаць сябе ў адштурхванні ад самога сябе. Любы варыянт уласнай рэалізацыі для яго недастатковы. Гэта сведчанне вялікіх патэнцыяльных магчымасцей паэта. І ўсё ж... І ўсё ж лішак інтэлектуальна-валявога пачатку, заўсёднае прышпорванне самога сябе ахвяроўваюць на павярхоўную рэалізацыю, на бясконцы бег па лесвіцы станаўлення.

Калі пафас «Каардынат быцця» — пошукі дзейснай духоўнасці, то ў новай кнізе адчуваецца пэўная стомленасць ад гэтых пошукаў, пэўнае таптанне на месцы, паўтарэнне пройдзенага. Усё часцей Разанаў абмяжоўвае парадоксамі, што мусяць праілюстраваць — у каторы раз! — складанасць быцця і кволасць чалавечага розуму. Усё часцей, перафразоўваючы Разанава, разлік апераджае прадбачанне. А прадбачанні па разліку нічога не адкрываюць.

Творчасць — гэта заўсёды рэзананс асобы і свету. Выклікаць яго адно ўласнымі намаганнямі, няхай і тытанічнымі, немагчыма. Але прыкладваць гэтыя намаганні неабходна. Чым з зайдроснай нястомнасцю і займаецца Алесь Разанаў. Часам, аднак, забываючы, што навізна — толькі адна з характарыстык творчасці, вынік узаемадзеяння унікальнай асобы і свету, які адгукнуўся ёй.

Стан беларускай паэзіі, як зазначае Варлен Бечык у пасляслоўі да «Шляху-360», «у многім выклікае незадаволенасць чытачоў: занадта многа лірычнага гладкапісу, вар'іравання адных і тых жа матываў, выкарыстання гатовых узораў». На гэтым фоне паражэнні Алеся Разанава каштуюць іншых перамог. Пасля кніг Разанава ўжо цяжка пісаць паранейшаму, зусім ігнаруючы вопыт сусветнай літаратуры, вастрыню і складанасць сучасных праблем. Няхай спрэчныя дасягненні паэта, бясспрэчны яго непакой пра заўтрашні дзень роднай літаратуры. І трэба думаць, што яго запальчывыя намаганні недарэмныя, што творчасць яго — новая каардыната беларускай паэзіі.

**Валерый ЛІПНЕВІЧ.**

---

мардабой у дэфензіве, зняволенне ў астрог. «Лукішкі», «Стэфанаўка» ў Вільні, «Уронкі» на захадзе Польшчы, Гродзенская турма... 3280 дзён правёў Якуб за кратамі. Цяжкіх, пакутлівых. Дрыжыкі прабягаюць па скуры, калі чытаеш пра камеру-адзіночку, пра тое, як катавалі патрыётаў.

За апошнія гады з'явілася нямала даследаванняў пра дзейнасць КПЗБ і камсамола Заходняй Беларусі, пра Грамаду і Таварыства беларускай школы. Старонкі аповесці Я. Міско даюць чытачу магчымасць нібы асабіста дакрануцца да той жахлівай рэчаіснасці, дапаўняюць гістарычныя падзеі перажываннямі, якія чалавек прапусціў скрозь уласнае сэрца.

Другая частка аповесці — пуцявіны змагання з гітлераўскім нашэсцем, па якіх Якуб Міско прайшоў з першых дзён вайны і да пераможнага яе заканчэння. Цяжкае адступленне на ўсход: Магілёў — Бранск — Тула...

Арганічна ў аповесць увaходзяць пісьмы Якуба Міско з фронту да любай сваёй Анечкі, якая пазней стала яго́най жонкай. Іх больш за сорак. Тры лісты — «таварышу сваёй вясны» Валянціну Таўлаю. У іх — уражанні пра вайну, успаміны, жаданне хутчэй сустрэцца: прывітанні старым, дарагім сябрам — Максіму Танку, Анатолю Іверсу, Міколу Бурсевічу, Ніне Тарас, Міхасю Васільку...

Завяршаюць кнігу нарысы, артыкулы, гумарэскі. Шматгадовая праца ў «Сельскай газеце» (ранейшыя назвы «Савецкі селянін», «Калгасная праўда») дала Я. Міско магчымасць быць у гушчыні жыцця. Ён піша пра станаўленне калгаснага ладу ў заходніх раёнах рэспублікі. Многія нарысы прысвечаны людзям вёскі, і лепшыя з іх увайшлі ў кнігу.

Заняты, як кажуць, па горла штодзённымі рэдакцыйнымі клопатамі, Я. Міско плённа супрацоўнічае ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісах «Камуніст Беларусі», «Полымя», «Нёман», «Вожык», у выдавецтвах. Пяру партыйнага публіцыста належаць змешчаныя ў гэтых і іншых выданнях артыкулы пра У. І. Леніна, Ф. Э. Дзяржынскага, пра Кампартыю Заходняй Беларусі і яе дзеячаў Сяргея Прытыцкага, Мікалая Дворнікава, Мікалая Арэхву, пра кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.

Належнае варта аддаць народнаму пісьменніку Беларусі Янку Брылю за ўкладанне кнігі, за такую прачулую назву яе.

**Міхась КЛЫШКА.**

# Створаны для ●●●●●●●●●● практычнай медыцыны

**Працягваем публікацыі пад нашай новай рубрыкай. Сёння мы расказваем аб рабоце лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР 1982**

Чалавек, далёкі ад навукі, можа ўсё жыццё заставацца абыякавым да дыферэнцыяльных ураўненняў ці квантавай механікі, не адчуваючы пры гэтым асаблівай заганы ў сваім інтэлектуальным развіцці. Але ёсць адна галіна ведаў, што калі нават некага і не цікавіць, то датычыць, бадай, кожнага. Гэта медыцына.

Век НТР настолькі прывучыў нас да фантастычных поспехаў ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці, у тым ліку і ў медыцыне, што мы, напрыклад, без асаблівага здзіўлення чытаем газетны рэпартаж пра тое, як чалавеку была прышыўлена адсечаная ў выніку няшчаснага выпадку рука. Што там рука, калі сэрца вунь колькім перасадзілі!

Так, дзесяткі, калі ўжо не сотні людзей жывуць з перасаджаным сэрцам. А мільёны паміраюць са сваім уласным, таму што медыцына можа многае, але не ўсё. І да гэтага цяжка прывыкнуць.

Збіраючыся пісаць пра галоўнага ўрача рэспублікі, я прыйшоў у новы ўралагічны корпус 4-й мінскай клінічнай бальніцы, дзе кожную раніцу, а восьмай гадзіне, пачынаецца яго рабочы дзень. У гэтага чалавека ёсць яшчэ адно рабочае месца — міністэрскі кабінет у Доме ўрада,— але туды ён прыходзіць пазней, часта з аперацыі. Людзі, якім давялося шмат гадоў стаяць побач з Мікалаем Яўсеевічам Саўчанкам за аперацыйным сталом, ведаюць яго як урача лепш, чым як міністра, сцвярджаюць, што ім надзвычай цяжка ўявіць гэтага чалавека без прывычнага рабочага халата.

Што ж вымушае міністра даволі часта апранаць цёмны хірургічны халат? Я палічыў залішнім задаваць такое пытанне Мікалаю Яўсеевічу, таму што бачыў напярэдадні мноства пісем, якія няспынна ідуць на яго імя з розных канцоў краіны. За радкамі ледзь не кожнага з іх — жыццёвая драма. І чалавек, якому гэтыя радкі адрасаваны, на думку аўтараў пісем,— адзіны, хто можа ім дапамагчы...

Усё гэта можна зразумець, калі прыгадаць сапраўды унікальныя аперацыіі, зробленыя пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле прафесара Саўчанкі. Некалькі гадоў назад многія рэспубліканскія і цэнтральныя газеты надрукавалі матэрыялы пра тое, як Саўчанка і яго калегі перасадзілі цяжка хвораму чалавеку донарскую нырку — яна была дастаўлена ў Мінск самалётам ажно са Швецыі. Успамінаецца і іншы, у той час адзіны выпадак у айчыннай медыцынскай практыцы, калі жанчына з перасаджанай прафесарам Саўчанкам ныркай нарадзіла дзіця. «Андоніс кажа «дзякуй» — яшчэ адзін газетны загаловак, пад якім у свой час была змешчана інфармацыя пра вылечанага ў Мінску маладога рабочага з грэчаскага вострава Крыт,— падзяка зноў-такі адрасавалася прафесару Саўчанку і яго памочнікам.

Гэтыя і многія іншыя хворыя лічылі сябе безнадзейнымі. Урачы, да якіх яны звярталіся, гаварылі суцяшальныя словы, але дапамагчы не маглі. Урача ж вучаць знаходзіць і лячыць хваробу, а тут размова ішла пра з'яву, што выходзіць за межы звычайнага ўяўлення аб хваробе,— аб прыроджанай анамаліі.

Загана гэтая «запраграміраваная» самой прыродай, стагоддзямі лічылася непапраўнай. Калі чалавек не паміраў у маленстве, яго чакалі пакуты часта не толькі фізічныя, але і маральныя. Прычым апошнія іншы раз аказваліся цяжэйшымі за першыя.

Ды і сёння, пры ўсіх дасягненнях сучаснай цывілізацыі, жыццё такога чалавека цяжка лічыць нармальным.

Прыроджаныя анамаліі некалі, магчыма, і былі,— а хутчэй за ўсё, толькі здаваліся,— рэдкасцю. Сучасная медыцына ведае іх, на жаль, нямала. І калі ад многіх хвароб чалавецтву ўдалося пазбавіцца, дык гэтыя, мяркуючы па ўсім, нават не збіраюцца адступаць. «Улічваючы ўзрастаючую агрэсіўнасць знешняга асяроддзя ў адносінах да чалавека, варта лічыць рэальнай небяспеку росту прыроджаных захворванняў...» Пад гэтымі радкамі стаіць аўтарытэтны подпіс вядомага вучонага. Што і казаць, несуцяшальны прагноз, які вымушае задумацца не толькі медыкаў.

На шчасце, медыцына таксама не стаіць на месцы.

Усе мы былі сведкамі нядаўніх бліскучых дасягненняў у галіне хірургіі сэрца. Але прыроджаны парок сэрца, нягледзячы на поспехі ў яго лячэнні, усё яшчэ працягвае займаць, на халоднай мове медыцынскай статыстыкі, «значную ўдзельную вагу ў структуры дзіцячай смяротнасці».

Паводле ўсё той жа медыцынскай статыстыкі, другое месца пасля анамалій сардэчна-сасудзістай сістэмы трывала займаюць прыроджаныя захворванні нырак і мочапалавога тракту.

Гэта і ёсць сфера навуковых даследаванняў прафесара Саўчанкі.

Уласна кажучы, ён зацікавіўся ўралогіяй задоўга да таго, як стаў прафесарам, а пазней і акадэмікам,— яшчэ на пачатку 50-х гадоў, у ад'юнктуры Ленінградскай ваенна-медыцынскай акадэміі. Вывучэнне некаторых асаблівасцей нейрагенных парушэнняў функцыі мочавыдалення завяршылася абаронай кандыдацкай дысертацыі. Праз некалькі гадоў аснову доктарскай дысертацыі склалі унікальныя матэрыялы па вывучэнню і лячэнню гіпаспадыі — адной з самых распаўсюджаных прыроджаных анамалій мочапалавой сістэмы. Манаграфія «Гіпаспадыя і яе лячэнне» была першым навуковым даследаваннем гэтай праблемы, апублікаваным у Савецкім Саюзе.

Распаўсюджаная анамалія — гэта, наогул кажучы, абсурд,— адзіны выпадак на 200—300 нараджэнняў. Казус прыроды, які ў цяжкіх формах робіць праблематычным вызначэнне полу чалавека. Так хвароба эмбрыёна, выкліканая нейкім неспрыяльным уздзеяннем на мацярынскі арганізм, яшчэ да з'яўлення чалавека на свет пачынае калечыць яго жыццё.

Але самае жудаснае адбудзецца пазней, калі бацькоўская радасць, звычайная пры нараджэнні дзіцяці, паглынецца адчаем. Малое быццам бы здаровае, але гэта здароўе горш за ўсякую хваробу, бо нават урачам не заўсёды зразумела, хлопчык гэта нарадзіўся ці дзяўчынка.

Выпадак, вядома, рэдкі. А медыцыну перш за ўсё хвалююць шырока распаўсюджаныя хваробы. Вось чаму разгублена паціскалі плячамі многія ўрачы, да якіх звярталіся бацькі трохгадовага Казбека з невялічкага пасёлка ў адной з каўказскіх рэспублік.

Бацька, шырока і радасна адзначыўшы са шматлікай раднёй нараджэнне першынца, ледзь не пазбавіўся розуму, пачуўшы меркаванне сталічных урачоў аб неабходнасці карэкцыі полу дзіцяці ў жаночы бок. Ён пакляўся, што пакончыць з сабой, як толькі гэта адбудзецца. У такой няпростай сітуацыі мужнасць захавала маці. Яна не магла паверыць, што ва ўсім свеце не знойдзецца чалавека, які б не дапамог іхняму няшчасцю.

Пошукі прывялі ў Мінск, да прафесара Саўчанкі. Малога каўказца памясцілі ў аддзяленне дзіцячай уралогіі спецыялізаванага навукова-клінічнага цэнтра, створанага на базе кафедры ўралогіі Мінскага медыцынскага інстытута і 4-й клінічнай бальніцы. Некалькі складаных, унікальных па сваім характары і выкананню аперацый зрабілі, здавалася б, немагчымае: выпраўлена памылка, дапушчаная прыродай. Падрабязнасці, што былі б дарэчы ў артыкуле медыцынскага характару, думаецца, тут не абавязковыя. І без іх зразумела, што, па сутнасці, выратавана яшчэ адно чалавечае жыццё.

Колькі ж іх, выратаваных у клініцы прафесара Саўчанкі? Толькі аперацый, аналагічных той, пра якую ішла размова, тут было зроблена больш за дзве тысячы. А ўсе аперацыі цяжка нават падлічыць... У іх працэсе накоплены сапраўды бясцэнны навуковы і практычны вопыт, які дзякуючы шырокім публікацыям і прадстаўнічым сімпозіумам зрабіўся здабыткам многіх. Мінскі ўралагічны цэнтр,

# ПЕРНІКІ БЕЛАРУСКІЯ...

Гэтыя вырабы з цеста — пернікі — можна аднесці сёння да рэдкага, амаль забытага віду творчасці. І, калі нараджалася гісторыя разьбы, напрыклад, па косці або дрэве, дапамагаюць вызначыць раскопкі, дык пра першыя творы пекарскай справы гаварыць цяжка. Бо разьбяры па дрэве стваралі свае рэчы, разлічваючы на стагоддзі, крохкія ж вырабы з цеста прызначаліся на дзень-два, радзей — на тыдзень. І ці павінны мы папракаць пекараў, што не задумваліся яны над даўгавечнасцю сваіх вырабаў? Лёс іх быў абумоўлены іх прызначэннем.

Пачатак гэтага майстэрства — у сівой старажытнасці, і доўгі час майстры задавальнялі патрэбы пануючых класаў. Рамяство перарасло ў промысел, які меўся шмат у якіх гарадах, сярод іх — Орша, Копысь, Дуброўна...

Крохкія вырабы з цеста, вядома, не маглі спрачацца з часам і да нас не дайшлі. Але захаваліся малюнкі пернікаў, зробленыя ў 1946 годзе мастаком М. Філіповічам у натуральную велічыню. На малюнках пернікі маюць форму ў выглядзе каня, жаночай постаці, рыбы; некаторыя з іх стылізаваныя — рэальны вобраз губляецца. Альбом з гэтымі малюнкамі захоўваецца цяпер у Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна.

Мабыць, назаўсёды згубіліся б звесткі аб мастацкай вартасці вырабаў з цеста, каб не пернікавыя дошкі. Гэта яны прыцягнулі ўвагу даследчыкаў, пераканаўшы грамадскасць, што і гэты від творчасці мае мастацкую каштоўнасць.

Сёння пернікавыя дошкі цяжка знайсці ў фондах нашых музеяў. Але калі добра пашукаць па вёсках, то, нягледзячы на войны, што дужа часта знішчалі скарбы нашага мастацтва, шмат іх можна яшчэ адшукаць. Як вядома, музеі РСФСР даўно сабралі формы славутых рускіх пернікаў. І зараз іх вывучаюць.

Вырабы з цеста рабілі і без дошак. У гэтым выпадку з раскатанага цеста выкладалі розныя фігуркі, аздаблялі іх узорамі.

Няўжо ж зусім знік гэты традыцыйны від творчасці? Не. Сёння таксама выпякаюць з цеста розныя вырабы, асабліва на вяселлі. Аднак звычайна карыстаюцца металічнымі прамысловымі формамі — і гэтыя пернікі нельга аднесці да мастацтва. Іншыя ж кабеты робяць з цеста сапраўдныя дзівосы. Так, напрыклад, Н. Кульбеда з вёскі Моталь, што ў Іванаўскім раёне, выпякае дзівосныя караваі на тутэйшыя вяселлі, аздабляючы іх ляпным дэкорам у выглядзе кветак, ёлак, сэрца, змяі... Робіць на ўцеху сваім дзецям з цеста птушак і розныя іншыя фігуркі, якія формай нагадваюць тыя, што некалі ёй самой майстравала бабуля.

Іншыя пернікі робіць майстрыха Т. Ядзевіч з г. п. Лынтупы Пастаўскага раёна. У іх тэматыцы, вырашэнні вобраза адчуваюцца вельмі старажытныя традыцыі. Яны нагадваюць пернікі, замаляваныя Філіповічам. На мой погляд, гэта не выпадкова. Майстрыха паўтарыла рэчы, якія бачыла ў сваім маленстве, а яно пачыналася ажно ў папярэднім стагоддзі! І каштоўны прыклад дала даследчыкам сучаснага народнага мастацтва Т. Зубарава, загадчыца сектара выяўленчага мастацтва Віцебскага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці, адшукаўшы гэты талент.

Высвятляецца, што ёсць яшчэ прадстаўнікі пекарскага майстэрства і зараз. Але хто з работнікаў сельскіх, раённых устаноў культуры звярнуў увагу на іх, запрасіў прыняць удзел у выстаўках? Цяжка ўспомніць.

Сёння ў многіх раёнах рэспублікі праводзяцца новыя святы: ураджаю, «Свята адной вёскі» і іншыя. Часта практыкуецца: жанкі пякуць пірагі. Дэгустатараў хапае, і пры падвядзенні вынікаў конкурсу беспамылкова вызначаецца, чый пірог смачнейшы. Але калі б арганізатары ацэньвалі і народнае пекарскае майстэрства, то мерапрыемствы можна было б зрабіць больш цікавымі. Адна справа спячы смачны пірог, іншая — зрабіць яго прыгожа ды з густам! Каму ж, як не работнікам культуры, думаць аб прыгажосці, эстэтыцы? Калі мы сёння паставім мэтай выявіць і актывізаваць творчасць майстроў пекарскай справы, то гэта зробіць станоўчы ўплыў на эстэтыку мастацкай самадзейнасці, зробіць яе рэпертуар больш цікавым. Тады будуць выяўлены і прозвішчы не вядомых дасюль талентаў. А гэта дазволіць прыцягнуць да настаўніцтва старэйшых мясцовых майстроў, стварыўшы пры дамах культуры адпаведныя гурткі.

**Марыя ЖАБІНСКАЯ,**
**ст. навуковы супрацоўнік Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культасветработы.**







НА ЗДЫМКАХ: пернікі, выпечаныя майстрыцай Н. Кульбеда з в. Моталь Іванаўскага раёна.
НА МАЛЮНКУ: пернікі Т. Ядзевіч з г. п. Лынтупы Пастаўскага раёна.

Вячаслаў ДУБІНКА

# «ОЙ, ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК...»

У Забайкаллі што ні дзень, то новыя выбрыкі яе вялікасці Прыроды. Як перадаць раскошу забайкальскай восені? Найлепшы восеньскі баль, на якім гасцюе шчодрае сонца. І праўда, тут, на Байкале, сонечных дзён куды болей, чым у самым «сонечным» месцы краіны — Сухумі. Тайга ў золаце красуе, залатыя пярынкі засцілае, з залатымі шапкамі перашэптваюцца дрэвы. Водар дзівосны. Цішыня такая — у вушах звон... Дзе набраць эпітэтаў, каб перадаць забайкальскую восень?

А на Байкальскім нагор'і зіма свой першы куплет пачынае. І не дужа далёка ад Байкала, усяго на пяцьсот вёрст і розніца, а бачыш... Густа пайшоў снег і не сціхаў колькі дзён. Сыпаў, сыпаў... Адвёў «душу» — напрацаваўся ўволю. І мароз паспяшаўся. Першую яго «шчадроту» прынялі раўчукі, затокі, азерцы. Яны нябачнымі кроплямі жывяць бурлівыя рэкі: Левую Маму, Кічэру, Халодную, Алакіт. А рэкі пра Байкал клапоцяцца: прымай вадзіцу сцюдзёную, горную, чыстую! Не вада, а слёзы крынічныя.

Маленькі, вёрткі «кукурузнік» набраў вышыню і ўзяў курс на Канеўку, вёсачку за Байкальскім хрыбтом. Паспрабуй яе адшукаць у вялікім царстве снегу, сярод гор, у схоўні лесу, каля рэк і прытокаў. Зімовы палон зацяжны, доўгі.

Не адрываемся ад ілюмінатара — такі відок! Колькі ахапіць вокам — снегавая пярына. Накінула гаспадыня кажухі і на горныя хрыбты, падаравала белыя папахі вяршалінам дрэў. Снег нібыта сатканы з мільёнаў халодных пацерак — вачам балюча.

Нарэшце і вёска Канеўка. Некалькі хацін у роўны, дружны шнур пасталі — гэтак лацвей ад вятроў бараніцца. І снег, снег, снег...

Садзімся. Бягуць хлапчукі, спяшаюцца дарослыя. Самалёт — конік зімовы, найпершы руплівец: і круп падкіне, і свежую газету ўручыць, і цукрам пачастуе, і, канечне, пра тытунёк не забудзецца... Праўда, адсюль ходзяць санныя абозы, сабачыя запрэжкі, але толькі па ўкатанай дарозе. Чакай, калі па зімніку першы абоз пойдзе.

— Як адшукаць Зміцера Сапотку, начальніка метэаралагічнай службы?— пытаемся ў юнакоў з аддзела сувязі...

— Бачыце, антэны тырчаць?.. То яго гаспадарка... Ды што там... На лаўца і звер бяжыць, вунь і сам ідзе...

Зміцер Сапотка моцны, высокі, гадоў пад трыццаць. Без шапкі, чуб зацярушаны снегам, куртачка расшпілена. Увесь выгляд нібыта гаворыць: маўляў, гэта пакуль не зіма, а забаўкі, запеўка. Не тое будзе, пачакайце... На куртачцы стракатая нашыўка «Белспецмантаж». Знаёмімся.

— У такую ж пару Канеўка і мяне прывеціла.— Зміцер прыязна ўсміхаецца.— Снегам, сабачым вясёлым брэхам... Не паспеў азірнуцца, як мяцеліца заспявала. Тры дні круціла... Зніякавеў, калі па шчырасці... Як гэта я, радыст-метэаролаг, буду тут кукаваць?.. Снегу па вушы, гайня бадзяжных сабак, дзесятак дамочкаў... Жыць, працаваць?.. Жыў у Віцебску — і на табе, у свет пацягнула, ветрык рамантыкі ў плечы штурхануў...

Зміцер запрасіў да сябе.

— Бачыце, буданчык метэастанцыі на самым высокім месцы, вятрам лабаціну падстаўляе, на сябе ўдар прымае... А вятры тут не дай божа... Аднаго разу так усхадзіўся — з ног валіў!.. Сабаку падхапіў, як лісток кляновы... У такія часіны носа з хаты не высоўвай, туліся да цёплай грубкі... А нам жа кожную гадзіну выбірацца да прыбораў, паказанні здымаць (чакаюць нашых вестак, а як жа...) Бяры вяроўку, прымацуйся. Ударыць у спіну, кіне на зямлю... А маразы за пяцьдзесят. Цішыня стаіць — чуваць, як сэрца стукае... Вялікага марозу вятрыска баіцца, хаваецца. Чутно, як дрэвы стогнуць, галіны трашчаць. На хвіліну з хаціны вырашся — пасля паўгадзіны не можаш аддыхацца. Нібыта ледзяшоў наглытаўся. Абложыць зіма, насыпле снегу на два метры. Рыдлёўку ў рукі — сцежку ў «свет» пракладаю. Ідзеш, неба не бачыш, бела і бела. Для мяне адзіная ўцеха — радыё. З гаманкім светам сувязь трымаю. Хочаш музыку? Калі ласка! У мінулым годзе як ніколі зіма лютавала. Да нас не прабіліся ні самалёты, ні запрэжкі — перавал цяжкі... Паўтара месяца кувалі, трох сабак з'елі... А куды дзенешся?..

Варта некалькі слоў сказаць пра метэаралагічную станцыю. Складаная апаратура, радыёстанцыя, шматлікія прыборы, вусы антэн над дахам. Праз кожныя восем гадзін Зміцер запускае паветраны зонд.

— Удвох і гаспадарым са Сцяпанам Васкабойнікавым. Сцяпан са Смаленска. Сёння пайшоў у горы... К вечару вернецца... І тамака гаспадарка нашая, прыборы чуйныя, прыроду слухаюць...

Сядзім каля гарачае грубкі. Цёпла, добра. Зміцер частуе гарбатай з малінавым варэннем. Кідае смалістае палена ў створ грубкі, паварочваецца да нас, прадаўжае:

— Ого, вялікая рэч — агонь. Напалю печку, аж чырвоная! Гудзе, стогне, спявае. А што вырабляюць агеньчыкі!.. Цяпельца — найпершы сябар у зімовую пару... Хлеб і агонь... Сяджу, а на душы маркотна, свет не мілы, дадому хочацца — хоць памры! Я служыў на Курыльскіх астравах, пагранічнікам. Мой тата, старшына першай стацці Мікалай Сцяпанавіч, загінуў у сорак пятым ад самурайскай кулі... На эсмінцы камандорам быў... Я і напрасіўся на Курылы. Як бачыце, мне не прывыкаць да суровае прыроды, да адзіноцтва. Усяго было... Мінулай зімой Сцяпан стаў на лыжы і ў горны распадак падаўся — зірнуць, што робіцца. Пайшоў і прапаў. Гадзіну чакаю, другую. Змрок насоўваецца, а яго няма. Значыцца, нешта не тое... Хуценька на лыжы і следам... Сцяпан заблудзіўся, з горкі панесла яго, паламаў нагу... Запазніся я на паўгадзіны — замерз бы Сцяпан... А тут і цемра, мяцеліца ўсхадзілася. Цягнуў Сцяпана ўсю ноч і спяваў яму... А ведаеце што? «Ой, зялёны дубочак». Цягну, з сіл выбіваюся, а спяваю праз зубы. Сам і лячыў Сцяпана. Доктарка наклала шыну, а далей я сам... Тутака мы і кухары, і цесляры, і дактары, і радысты.







**Больш як дваццаць гадоў падарожнічаю па нашай краіне. У памяці незабыўныя, поўныя прыгод і нечаканасцяў сустрэчы з земляками. Зберaглі беларусы і цяпло душы сваёй, і неўтаймоўнасць, і жыццярадаснасць. Умеюць працаваць, пранеслі любоў да зямлі роднай. А там, далёка, яна часцяком скупая, няласкавая.**

**На БАМе мне давялося пабываць неаднаразова. Я частаваўся смачнай бульбай у Забайкаллі, гасцяваў у паляўнічых Ніжнеангарска, сустракаўся з лесарубамі Хабараўскага краю і мостабудаўнікамі Чэгдамына. Вандраваў па прыгожай і вялікай рацэ — сібірскаму воднаму праспекту — Енісею. Цяжка нават прыгадаць усё цікавае, пералічыць убачанае, пачутае. Не перастаю дзівіцца ўмельству народа нашага, чуласці ягонай і сардэчнасці. Так і нарадзіліся гэтыя нататкі, як маленечкая жменька з таго агромністага куфэрка ўражанняў ад вандровак па краіне, вялікай і неабсяжнай, імя якой — Савецкі Саюз.**

**Аўтар.**

Зміцер памаўчаў, пакруціў настройку, злавіў музыку, пацішыў гук.

— Пра метэаролагаў песень не спяваюць... А хто ён такі? Шапку на вушы, сшытак у кішэню і пайшоў у абдымкі ветру... Аніякае рамантыкі, га? Вось геолагі, праходчыкі... Метэаролаг сядзіць, як мядзведзь у бярлозе. Слухаеце зводкі па радыё? А хто іх дае? Гатовенькімі прыходзяць? Чакай Пятра... Такія, як Зміцер Сапотка і Сцяпан Васкабойнікаў, і рыхтуюць. Байцы эфіру і тэрмометра,— так назваў нас адзін жартаўнік-газетчык. На ўсёй трасе нас ого колькі! Работа нябачная. Але ж... Каменьчык да каменьчыка туліцца — і гара стаіць! Што б БАМаўцы без нас рабілі? Машыністу цеплавоза трэба ведаць, якое ліха яго заўтра чакае — снег, дождж, галалёд, вецер? Пад гару не дужа пніся, каля моста спыніся, на раку памаліся, перад дажджом шапку здымі... А рачнікам, а вадзіцелям? Куды ім без нас!

Зміцер Мікалаевіч пакінуў нас адных, паспяшаўся ў бакоўку — выклікалі на сувязь. Абводзім позіркам «апартаменты» метэаролага. Два ложкі засланы па-вайсковаму, акуратна. Малюнкі з часопісаў на сцяне, каляндар «Прырода Беларусі», самаробная палічка з кнігамі. Даведнікі, дамаводства, выбранае Б. Лаўранёва, В. Быкава... Вяртаецца гаспадар, садзіцца поруч.

— А чаму не пытаецеся, ці падабаецца мне? А можа збегчы збіраюся? Пытайцеся, не пакрыўджуся... Я ў Віцебску за тры гады адзін раз і быў. Паехаў з радасцю, як да каханай на спатканне... Тыдзень хадзіў, горадам дыхаў. Па пяць сеансаў у кінатэатры выседжваў. І што вы думаеце? На другім тыдні засумаваў... Па снезе глыбокім, па вятрыску-вісцюцені, па гарах, па злосных маразах, галасах сабачых, па рабоце сваёй. Вось такая штука і выходзіць. У Забайкаллі па доме сумую, а дома — па Забайкаллі...

# БАЦЬКА

Стары сядзіць на беразе ракі, чакае трамвайчык. Абшарпаны кацярок ходзіць два разы на дзень. Калі ён прыходзіць — падзея ў пасёлку. Усе тут адзін аднаго добра ведаюць і чужога здалёку пазнаюць... Дзядзьку гадоў шэсцьдзесят. А можа і меней, не ўгадаеш,— зморaны няголены твар. Дарога не блізкая, стаміўся. Зімовая шапка насунута на вочы. Нічога прыкметнага і ў апратцы: паношаны вайсковы бушлат, боты-кірзачы. Ага, скажаце, на вуліцы не той сезон. Дзядзька ведае, куды выбраўся, а пара касцей не ломіць. Мы ў кашулях, а стары ў бушлаце. Сібір — цётка пераборлівая, меры не знае. Сёння спёўна, заўтра слёзна. Зранку дождж нудотны, а к абеду снег сыпане ды адвячоркам марозік ціскане. Тады заспяваеце ў кашулях! А ён сабе кум і пан... Кідаецца ў вочы хатуль дзядзькі — мяшок з заплечнымі лейцамі. Бульбіны за «вушы» мяшэчныя, вяроўчынай абкручаныя. А, браткі, ці не бульба ў мяшку? Не міска ж насыпана, а пуд з добрым гакам!

Нам таксама патрэбен катэр: спадзяёмся патрапіць у цікавы прыродны куточак — на Гарачыя крыніцы. Народу сабралася не дужа: дзве цёткі з вялікімі карзінамі (грыбны сезон якраз, а мясціны тутака багатыя на грыбы), трое хлопцаў з цяслярскім рыштункам і мяшком хлеба. Стары няспешна развязвае свой хатуль, дастае прыпасы, сілкуецца. Я побач прымасціўся. Цікава, адкуль жа ён і куды аглобелькі кіруе? Разгаварыліся. Стары апавядае ахвотна, не трэба ўпрошваць.

— Да сыноў еду, у Тынду. Чацвёра на БАМ збеглі. Адзін, самы старэйшы, некалі пасунуўся ў Сібір са студэнтамі ў хаўрусе. Ягоная каханка тамака тынкоўшчыцай працавала. Але нешта не выйшла, пасварыліся... Яна вярнулася, а ён застаўся. Дзеўка выйшла за насатага Сцяпана з Чыжоўкі, а сын жыве адзін, як воўк у лесе... Двое ж, Васёк і Міхалка, адслужылі войска, з тыдзень дома пагасцявалі і — следам. Чацвёрты, самы меншы, Піліп, пасля школы на шафёра паўгода павучыўся — і ходу за братамі. А лістоў дадому не шлюць, гультаі! Не сцярпеў во, паехаў. А чаму ж... Пагляджу, што тутака робіцца, чым жа смачны гэны БАМ? Еду і пазіраю, прыслухоўваюся. Ажно вялікая, доўгая чыгунка і далёзазна яна ж цягнецца! Тыдзень еду, а канца не бачна. Круціцца, як пацвяляецца... Тутака раздольна. У адзін бок зірні — не бачна, у другі павярніся, зірні — не бачна! Шкода, не берагуць дабра, колькі яго пад нагамі! А стольki ж нарабілі! І дамоў набудавалі, мастоў вялікіх і доўгіх. Вайну прайшоў, а такога бачыць не давялося. Ага, бачу, каторую пару пазіраеце на мяшок. Праўда, бульбу вязу, не смейцеся!.. Сын у лісце прасіў меншы, Піліп. Яму пасмакаваць хочацца... Дбайны хлапчук, шчыры. Мяне хвароба за горла ўзяла, дык Піліп не адыходзіў — першы доктар... Даглядаў, шанаваў. Харошы хлапчына... А працуюць мае хлопцы на вялікіх машынах, самакідах. Возяць камяні, шчэбень. Што прыйдзецца, тое і возяць. Мой жа Васёк мінулым летам аж да Мінска на машыне пагнаў, на завод, запчасткі браць. А дадому не даехаў, заблудзіўся, якраз цёмна было, восень, гразка. Васёк па полі папёрся, засопся, сеў. Трактарыста пабудзіў у Млынку, выцягнулі машыну. Прытупаў дадому пеша, ночкай. Старая ў слёзы — радасці колькі!.. Пасёрбаў хлопец супу, сала загарнуў у анучку — і на машыну ды далей, на Мікашэвічы. А бульба ў нас урадзіла няблага, хай хлопцы пакаштуюць... Дый мне, старому, хочацца падзівіцца. А то пamру... Столькі ўсяго наштукавалі — за жыццё не аб'едзеш, стомішся! У вайну кожны кіламетр суткамі бралі, баі цяжкія-цяжкія. Ляжаў цяжка паранены, абяцанку даў: як жывы буду, то паеду падзіўлюся, што на свеце робіцца. Такое жыццё пачалося, шырока пайшлі, моцна!..

**Заканчэнне ў наступным нумары.**

- **Люстраны золак Байкала.**
- **«...А ўсё-такі алені лепей».**
- **Да вёскі Канеўка засталося шэсцьсот вёрст...**
- **Енісейскі праспект.**
- **Куды ні кінеш вокам — вада і вада...**







# КАЛІ РАСТАЮЦЬ АЙСБЕРГІ



Віктар БАРЫСАЎ.
Віктар ДРАЧОЎ (фота).

На пытанне, як ён ставіцца да дэтэктываў, Міксюк адказвае няўпэўнена:

— Ведаеце, там шмат перабольшванняў...

А ўласна ў чым? Хіба ж не існуе захапляючых дуэлей хітрых злачынцаў з яшчэ больш знаходлівымі следчымі, стрэлаў з-за вугла, схватак уначы, пагоняў, як па вастрыі ляза?

— Усё бывае,— скажа Сцяпан Міксюк.— Але справа не ў тым. Экзатычных па форме і асабліва небяспечных па сутнасці злачынстваў няшмат, да таго ж яны навідавоку, нікога не пакідаюць абыякавым. Іх, калі хочаце, можна параўнаць з надводнай часткай айсберга, а тую, што ў глыбіні,— куды большую па сваіх маштабах — складаюць правапарушэнні нязначныя, часам гэта нават не парушэнні права, колькі маралі. Растопліваць гэты «лёд» трэба з усіх бакоў, але ўсё-ткі трэба памятаць — у акіянах айсбергі, у асноўным, растаюць знізу...

Ён нарадзіўся пасля вайны, калі ўжо стала забывацца страшнае слова «пахавальная». Але ж не для сям'і Міксюкоў: бацька Сцяпана, міліцыянер па прафесіі і сумленню, загінуў ад бандыцкай кулі. Чацвёра дзяцей падымала на ногі маці. Праўда, дапамагалі вяскоўцы — дах перакрыць, плот паставіць, траву спляжыць... І яшчэ ў дзяцінстве адчуў Сцяпан: жыцця без дабраты не існуе. Пазней зразумеў: чым больш людзям аддаеш, тым багацейшым становішся сам.

У часе армейскай службы і пасля дэмабілізацыі Сцяпан з камсамолам не разлучаўся, увесь час — у гушчы чалавечых лёсаў. Ну, а калі міліцэйскія пагоны надзеў, ні для каго гэта ўжо нечаканасцю не стала.

Сёння Сцяпан Міксюк — адзін з лепшых старшых участковых інспектараў Фрунзенскага райаддзела ўнутраных спраў горада Мінска. Ён адказвае за парадак у мікрараёне, дзе жыве 33 тысячы чалавек, знаходзіцца 46 буйных прадпрыемстваў, арганізацый, на якіх працуюць зноў-такі тысячы людзей. Для іх — ён фарпост закону і ўвасабленне законнасці. Больш таго — паўнамоцны прадстаўнік улады.

Міксюку даводзіцца вырашаць мноства самых розных пытанняў — бытавых, прававых, маральных... Ён павінен быць сапраўдным эрудытам (сярэдняй спецыяльнай стала не хапаць — цяпер Сцяпан заканчвае юрфак універсітэта), абавязан скрупулёзна збіраць факты, быць аб'ектыўным, заўсёды спачатку сем разоў адмераць, а потым ужо адрэзаць... Права на памылку Міксюк не мае, бо за кожнай справай, якой яму даводзіцца займацца, не проста нечыя надзеі, сумненні, боль, але найперш чалавечыя лёсы.



Дзіўна, як многа залежыць ад ягонага слова. Практычна па любому злачынству ў яго раёне за даведкай і парадай найперш звяртаюцца да яго, Міксюка: хто, як не ён, старшы ўчастковы інспектар, дасканала ведае людзей, асабліва тых, для каго магчымы непрыемныя сустрэчы з законам? І ўсе справы трэба рабіць без азарту — разважліва, тактоўна, каб не пакрыўдзіць чалавека нават ценем падазронасці.

...У той дзень з раніцы Міксюк быў у райаддзеле — аператыўка, ЦУ начальства... У абедзенны перапынак выступаў у перапоўненай зале вытворчага аб'яднання індустрыяльнага домабудавання. Гаварыў аб каварстве «зялёнага змея», прыводзіў прыклады з жыцця, папярэджваў... Вядомая справа, хваляваўся...



Потым вёў прыём у «сваёй рэзідэнцыі» — 96-м апорным пункце. Пакуль усе паперы падсумаваў, час набліжаўся да дзесяці вечара. А трэба было яшчэ прадумаць нялёгкую размову з Віктарам Л.: хлопец тры месяцы як выйшаў на свабоду, а яшчэ не працуе. Сцяпан ужо не раз чуў ад яго «старую песню»: маўляў, тое, што прапануюць,— не даспадобы... Але было ў Віктара ўсё ж і шчырае, сумленнае слова... І як не хацелася ўчастковаму інспектару, каб жыццё зноў павярнула хлопца на ранейшы шлях. І ён у часе сустрэч растлумачваў, патрабаваў, пераконваў...

...Дадому Міксюк прыйшоў апоўначы. Аднак цяжкім гэты дзень усё роўна не лічыў: «Звычайны дзень,— сказаў,— выхаваўча-прафілактычны». А такія «звычайныя» ў яго практычна ўсе рабочыя дні.

За ўсе восем гадоў сваёй службы ў міліцыі ні разу — вучэнні не ўлічваюцца — Сцяпан Міксюк не стрэліў з пісталета. А вось з ім паквітацца куляй спрабавалі. І неаднойчы. Але ж ён па-ранейшаму ў страі. І па-ранейшаму служыць, растоплівае «лёд» правапарушэнняў. І галоўная яго зброя — слова. Цвёрдае, справядлівае, шчырае.



□ Такая служба.

□ Старшы ўчастковы Сцяпан Міксюк.

□ З рабочымі домабудаўнічага камбіната № 3 гаворка заўсёды шчырая.

□ На рыбалцы з сынам Дзімам.

# ГАНАРУСЯ СЛУЖБАЙ СВАЁЙ

Пра тое, што Віктар Пякарскі — супрацоўнік міліцыі, ведаюць нямногія. Суседзі, напрыклад, убачыўшы яго аднойчы ў форменным адзенні, шчыра здзівіліся:

— Ніколі не падумалі б!..

Філолаг з суседняга пад'езда да апошняга часу быў перакананы, што Віктар выкладае лінгвістыку — пра гэта сведчылі яго размовы наконт сучаснай беларускай мовы і досыць вялікая хатняя бібліятэка, у якой некалькі соцень тамоў розных акадэмічных выданняў...

А вось пенсіянерка з першага паверха, якой В. Пякарскі неяк адрамантаваў прыёмнік, не прамінала расказаць сяброўкам пра спагадлівага радыёмайстра.

Але найбольш быў здзіўлены мастак, які жыў у доме насупраць. Сустрэўшы Віктара ў форме супрацоўніка міліцыі, ён спачатку нават не пазнаў яго. Для яго дзіўным было, што малады чалавек, які размаўляў з ім пра пэндзаль Рэпіна, Рэмбранта, Веласкеса і меў дома цікавую калекцыю карцін,— не мае непасрэднага дачынення да мастацтва!

Яшчэ больш здзівіліся б суседзі, калі б даведаліся, кім працуе іх знаёмы маёр міліцыі. Пасада ў яго сапраўды была рэдкая нават для органаў унутраных спраў — старшы інспектар па асабліва важных справах крымінальнага вышуку. А гэта значыць, што ён заўсёды павінен быць гатовы, каб як мага хутчэй апынуцца ў любым куточку рэспублікі і прыняць тэрміновыя меры да пошуку і затрымання небяспечнага злачынца.

Яшчэ ў дзяцінстве, калі Віктар падоўгу засяроджваўся над якойнебудзь задачкай, бацька пытаўся:

— Ты не забыўся, сынок, калі нарадзіўся?

— Май сорак пятага,— не без гонару адказваў той.— Пазначаны ў гісторыі тваёй Перамогай.

— Нашай,— удакладніў бацька.— Таму і Віктарам назвалі.

Але не гучнымі словамі, а ўласным прыкладам вучылі яго бацькі перамагаць цяжкасці, адольваць перашкоды. Маці ў час вайны была ў дзеючай арміі, абараняла Сталінград. Бацька — старшы лейтэнант — быў сярод тых, першых, хто 3 ліпеня 1944 года ўвайшоў у вызвалены Мінск. Самымі незабыўнымі для Віктара і яго братоў былі святы Дня Перамогі, калі яны звычайна перабіралі і разглядалі баявыя ўзнагароды бацькоў і прасілі прыгадаць, калі і за што быў атрыманы той ці іншы ордэн альбо медаль.

Магчыма, у такія хвіліны і засела ў свядомасці юнака, што ён да нечага вельмі важнага спазніўся: не пашанцавала яму быць удзельнікам Вялікай Айчыннай. Спазніўся нарадзіцца!

Няпроста бацькам вялікай сям'і было падняць на ногі дзяцей. Віктар пасля васьмігодкі адразу падаўся на Мінскі радыёзавод. Працаваў і адначасова вучыўся ў вячэрняй школе.

Пасля службы ў арміі старшаму сяржанту запасу ўнутраных войск прапанавалі работу ў міліцыі, у аддзеле пазаведамаснай аховы УУС Мінскага гарвыканкома. Віктар, маючы за плячамі тэхнічную спецыяльнасць, згадзіўся. Так на гарадскім пульце тэхнічных сродкаў аховы для яго пачаліся трывожныя ночы. Тут успышка лямпачкі азначала адно: аператыўная група, якую ён узначальвае, павінна зрабіць усё, каб папярэдзіць крадзеж і затрымаць злачынца.

І да гэтага Віктар добра памятае, як аднойчы ў час яго дзяжурства пад надпісам «Магазін для маладажонаў «Шчасце» загарэлася чырвонае вочка сігнальнай лямпачкі: трывога! Літаральна праз некалькі хвілін аператыўная група ўжо імчала да месца здарэння. І хаця прыбылі яны надзвычай хутка, каля магазіна ўжо стаяў міліцэйскі «газік». Параіліся, як дзейнічаць, і пачалі пошук.

Спачатку здавалася, нібыта ўсё на сваім месцы. Падумалася: магчыма, сігналізацыя замкнула? Аднавілі і ўжо збіраліся вяртацца. Аднак на душы было неспакойна. Інтуіцыя падказвала, што тут штосьці не так. Зноў вярнуліся ў магазін. Сяржант міліцыі В. Сабіна звярнуў увагу на дзверы, што вялі ў падвал. Яны былі старанна прычынены. Падсвечваючы сабе ліхтаром, са зброяй напагатове, сяржант, а следам і іншыя супрацоўнікі міліцыі неўзабаве апынуліся ў памяшканні, дзе захоўваліся розныя каштоўныя рэчы. Тут яны і выявілі злачынцаў.

— Мабыць, не чакалі? — спытаўся Віктар і загадаў злачынцам выходзіць. А яшчэ праз некалькі хвілін тыя апынуліся ў машыне, за жалезнымі дзверцамі. Над горадам па-ранейшаму было зорнае начное неба, якое цяпер здалося Віктару Пякарскаму асабліва прываблівым. Пачуццё выкананага абавязку выклікала задавальненне, узрушвала яго.

За пяць гадоў, дасканала вывучыўшы ўсе асаблівасці службы ў аддзеле пазаведамаснай аховы, Віктар Канстанцінавіч, тым не менш, неаднойчы схіляўся да думкі, што знаходзіцца не на самым адказным рубяжы. Асабліва пасля таго, як у студзені 1974 года пры затрыманні рабаўнікоў загінуў сяржант міліцыі Міхась Атрошчанка, з якім разам пачынаў службу ў органах унутраных спраў. А яшчэ праз колькі дзён на стале начальніка крымінальнага вышуку Упраўлення ўнутраных спраў горада Мінска ляжаў рапарт В. Пякарскага з просьбай перавесці яго на службу ў аддзел крымінальнага вышуку. Віктар якраз заканчваў завочную вучобу на юрыдычным факультэце БДУ імя У. І. Леніна, і яго просьбу задаволілі.

Спецыфіка работы ў крымінальным вышуку прыкметна адрознівалася ад службы ў пазаведамаснай ахове. Але Віктару пашанцавала: ён трапіў да сапраўдных майстроў сваёй справы, якія ахвотна дзяліліся з ім сваім вопытам. Напачатку гэта быў яго кіраўнік Пётр Кузьміч Пяткоўскі, а пазней — Уладзімір Міхайлавіч Свірыдаў, палкоўнік міліцыі. Кожны з іх быў выдатным старэйшым таварышам, патрабавальным і, калі трэба, памяркоўным. Іх яднала агульная справа, агульны клопат.

Неяк увосень у горадзе адбыліся бандыцкія напады на грамадзян, была забіта жанчына. На працягу тыдня супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку забыліся пра адпачынак. Настойлівасць прынесла свой плён. Бандыты былі затрыманы, а пазней у асабістай справе В. Пякарскага з'явіўся запіс, што ён узнагароджаны за аператыўнае раскрыццё цяжкага злачынства. Таварышы па службе павіншавалі Віктара з першым поспехам, адзначылі, што цяпер ён можа лічыць сябе сапраўдным, выпрабаваным супрацоўнікам крымінальнага вышуку.

Непрыкметна мінулі чатыры гады службы, напоўненыя рознымі падзеямі, напружанай працай. У 1978 годзе Віктара Канстанцінавіча накіравалі вучыцца ў Акадэмію МУС СССР. Тут ён сустрэўся з вядомымі спецыялістамі ў галіне юрыспрудэнцыі, з калегамі з самых розных куткоў краіны. Кожны дзень быў адзначаны глыбокімі ўражаннямі, пакідаў свой след у душы. Тут яму выпаў гонар удзельнічаць у ахове правапарадку на Вялікай спартыўнай арэне ў Лужніках у часе Алімпійскіх гульняў.

Цікавымі былі сустрэчы з замежнымі турыстамі, асабліва з тымі, хто наведаў нашу краіну ўпершыню. Многіх з нашых гасцей здзіўляў выключны парадак на вуліцах Масквы. Ім, грамадзянам капіталістычнага свету, цяжка было зразумець, як гэта атрымліваецца, што такія грандыёзныя спаборніцтвы праходзяць без выпадкаў хуліганства, без эксцэсаў і бок. На вуліцах горада і ўдзень і ўначы ніхто не зачэпіць цябе, ніхто не абразіць лаянкай. Віктар і раней сутыкаўся з падобным здзіўленнем некаторых турыстаў і нават службовых асоб. Так, у час аховы выстаўкі карцін з прыватнай калекцыі амерыканца Армана Хамера, якая праходзіла ў Мінску, ён звярнуў увагу на тое, што напачатку прадстаўнікі адміністрацыі задужа пільна цікавалі за наведвальнікамі, амаль не выходзілі з залы. І толькі пераканаўшыся, што калекцыі нічога не пагражае і яе ахова забяспечана, супакоіліся. А пасля заканчэння выстаўкі горача падзякавалі Віктару і, між іншым, пацікавіліся: адкуль у яго такая шырокая эрудыцыя ў галіне мастацтва? Бачылі, як аднойчы ён праводзіў тут экскурсію, з якім захапленнем расказваў групе міліцыянераў пра асобныя карціны і мастакоў.

— Жончын універсітэт дапамог,— пажартаваў Пякарскі і растлумачыў, што яна — мастацтвазнаўца.

Колькі сябе памятае, Віктар заўсёды вучыцца. За плячамі ў яго — юрфак БДУ імя Леніна, універсітэт марксізму-ленінізму, Акадэмія МУС СССР, універсітэт культуры пры ёй.

Нядаўна яму на кватэру пазваніў начальнік Упраўлення крымінальнага вышуку МУС БССР палкоўнік міліцыі М. І. Чаргінец.

— Віктар Канстанцінавіч,— пачулася ў трубцы,— даруй, што турбую ў нядзелю. У Брэсце абрабавалі ашчадную касу. Трэба ехаць...

З першым жа рэйсам В. Пякарскі вылецеў самалётам у Брэст. Там ён адразу сустрэўся з касірам-кантралёрам В. Куроўскай. Уважліва выслухаў яе, паасобныя факты занатаваў. Была створана аператыўная група, распрацаваны магчымыя версіі. У поле іх зроку трапіў нехта М. Канцар — сусед Куроўскай. Але даказаць, што менавіта ён дзейнічаў у змове з яе мужам, аказалася справай няпростай. Асабліва — знайсці грошы, якія рабаўнікі схавалі ў хлеўчуку пад тоўстым пластом каменнага вугалю. Давялося добра папрацаваць, шмат грузу перакідаць шуфлямі. І ўсё ж, нарэшце, «скарб» знайшлі. Грошы былі вернуты дзяржаве, а злачынцы арыштаваны.

Простых спраў, лічыць В. Пякарскі, у іх прафесіі не бывае. З рознымі злачынцамі даводзіцца сутыкацца, падчас узброенымі, вельмі небяспечнымі, з рэцыдывістамі, бандытамі, махлярамі... І кожны раз трэба быць гатовым праявіць мужнасць і вытрымку.

Не часта даводзіцца супрацоўнікам Упраўлення крымінальнага вышуку МУС збірацца разам, звычайна — у Дзень савецкай міліцыі. Вось тады можна пабачыць, якія ўзнагароды зіхацяць на іх форменным адзенні. Пяццю медалямі ўзнагароджаны Віктар Канстанцінавіч Пякарскі. У 38 гадоў далёка не кожны мае такую колькасць ганаровых адзнак за выдатную працу. Ёсць у яго і свае вучні — былыя сяржанты, цяпер афіцэры савецкай міліцыі А. Гарыленка, М. Моніч, Л. Юркевіч. Ім ён перадаў не толькі «сакрэты» сваёй службы, а заахвоціў да вучобы ў вышэйшых альбо сярэдніх спецыяльных навучальных установах МУС СССР.

Раскрыўшы чарговае злачынства, Віктар не, не дый задумаецца: што ж садзейнічае поспеху, у чым галоўная сіла супрацоўнікаў савецкай міліцыі? Шматгадовая практыка работы ў органах унутраных спраў дае адказ: у цеснай, непарыўнай сувязі з народам. Дзеля людзей сваёй радзімы, дзеля іх спакою і шчасця нясе сваю нязменную вахту начальнік аддзялення Упраўлення крымінальнага вышуку МУС БССР камуніст Віктар Пякарскі. Ён ніколі не пашкадаваў, што не стаў філолагам, мастацтвазнаўцам альбо, скажам, радыёмайстрам. Ганарыцца службай сваёй!

**Капітан міліцыі**
**В. ОСЬКІН.**




**Шашачны аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР Аркадзь РАКІТНІЦКІ**

## СТАРАЖЫТНЫ ЭЦЮД,

**складзены вядомым галандскім майстрам Э. ван Эмбдэнам у 1785 годзе, мае практычную каштоўнасць і сёння.**




Выйгрыш.

## ДАКАНАЛІ... СУПАДЗЕННІ, АБО НЕВЕРАГОДНЫЯ ПРЫГОДЫ ЗАГАДЧЫКА ШАШАЧНАГА КУТКА

Новы загадчык шашачнага аддзела лічыўся адным з мацнейшых майстроў рэспублікі. Задачы, эцюды, канцоўкі, якія чытачы дасылалі ў рэдакцыю, ён шчоўкаў як арэшкі. На гэта ў яго быў дакладны разлік, добры густ і памяць.

На пачатку 1983 года ён прапанаваў да друку канцоўку, складзеную маладым мінчанінам Юрыем Марквардэ. У ёй аўтар ажыццявіў цікавую перакідку шашкі з поля c3 на d6 з наступным падрывам дамачнага поля f8 і сакрушальным паграмам чорных.




Выйгрыш.

Рашалася канцоўка вось як: 1. d2—e3 2. g3—f4 3. f4—g5 4. e1—d2 5. a5 : e5 6. e3—d4 7. a7 : e7 8. h6 : g1 і г. д.

Але неўзабаве на адрас рэдакцыі прыйшлі допісы, у якіх паведамлялася, што падобная канцоўка была апублікавана ў часопісе «Шашки» № 1 за 1977 год, прыгадвалася і прозвішча аўтара — В. Дзярабін. А яшчэ раней — у № 9 за 1974 год, як сведчылі новыя пісьмы, у латышскім часопісе «Дамбрэтэ» гэткую ж канцоўку змясціў майстар па шашачнай кампазіцыі з Хабараўска (дарэчы, наш зямляк з пасёлка Рось) У. Матус. Пра тыя публікацыі прыйшлося ў другі раз апавяшчаць чытачоў, а гэта, канечне, не вельмі прыемна для загадчыка кутка. Ды ён і сам пашкадаваў, што даверыўся сваёй памяці, бо супадзенні сапраўды здараюцца і ў задачах, і ў эцюдах.

Менавіта супадзенні і заінтрыгавалі аматараў шашак. Чытач з Украіны прыслаў выразку з украінскага часопіса «Старт» за ліпень 1973 года, дзе гэтая канцоўка значылася за подпісам вядомага шашачнага кампазітара з Сумскай вобласці І. Бурлака.

Гэтае супадзенне канчаткова вывела загадчыка аддзела з раўнавагі. Ён зразумеў, што дарэмна ігнараваў стварэннем уласнай картатэкі па кампазіцыі. Прыйшлося даваць адвод тром папярэднім аўтарам і назваць прозвішча сапраўднага— І. Бурлака і ўжо на гэтым канчаткова паставіць кропку.

Але з пастаўленай кропкай не згадзіўся актыўны складальнік кандыдат у майстры з горада Абаза Краснаярскага краю Валянцін Сцяпанаў. Дзякуючы сваёй картатэцы ён даказаў, што сапраўдным аўтарам канцоўкі трэба лічыць усё-ткі крымскага майстра А. Уварава, які змясціў пазіцыю ў газеце «Радяньский спорт» 1 верасня 1964 года.

Кажуць, што пасля прыгод з «канцоўкай Юрыя Марквардэ» майстар канчаткова і назаўсёды пакінуў рэдагаванне шашачных куткоў.

## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ АДКАЗЫ

(Гл. «Беларусь» № 3)

1. e3—d4 2. h4 : f6 3. f6—g7 4. b2—c3 5. c1 : c5 c7—b6 (калі 5... c7—d6, то 6. c5 : e7 a5—b4 7. e7—f8 b4—c3 8. f8—b4 і г. д.) 6. c5 : a7 a5—b4 7. a7—b8 b4—c3 8. b8—f4! c3—b2 9. f4—e5 b2—c1 10. e5—f4 і г. д., з выйгрышам.

Прысвячаецца ЯКУБУ КОЛАСУ

## ЧАЙНКРАСВОРД

Склаў Мікіта ЦЭДРЫК.



1. Герой верша для дзяцей «У школку». 2. Беларускі часопіс, у якім у 1926 годзе быў надрукаваны пачатак аповесці «У глыбі Палесся». 3. Дзеючая асоба драмы «У пушчах Палесся». 4. Герой верша «Песня на сон у бяссонне». 5. Адно з першых апавяданняў Я. Коласа. 6. Народны артыст БССР, які працаваў у Беларускім тэатры імя Я. Коласа. 7. Персанаж апавядання вершам «Як поп зрабіўся авіятарам». 8. Апавяданне. 9. Персанаж апавядання «Нёманаў дар». 10. Беларускі савецкі пісьменнік, удзельнік нелегальнага настаўніцкага з'езда ў 1906 г. 11. Персанаж апавядання вершам «Дачакаўся». 12. Персанаж апавядання вершам «Прапаў чалавек». 13. Навуковае званне паэта. 14. Прозвішча бальшавіка-камуніста часоў грамадзянскай вайны ў адным з апавяданняў Я. Коласа. 15. Беларуская паэтэса, якая ў гады Вялікай Айчыннай вайны жыла ў Ташкенце. 16. Гераіня апавядання вершам «Паслушная жонка». 17. Герой апавядання вершам «Батрак». 18. Герой паэмы «Новая зямля». 19. Беларускі паэт-дэмакрат, вершы якога Я. Колас яшчэ ў пачатковай школе вывучыў на памяць. 20. Апавяданне, напісанае ў 1926 г. 21. Вершаваны размер. 22. Галоўны герой паэмы «Адплата». 23. Вобраз мастака ў аднайменнай паэме. 24. Рака, хараство краявідаў якой апаэтызаваў у многіх сваіх творах Я. Колас. 25. Невялікі літаратурны твор. 26. Прозвішча героя апавядання «Царскія грошы». 27. Народны паэт БССР, саратнік, сябар і равеснік Я. Коласа. 28. Персанаж апавядання «Туды, на Нёман!» 29. Верш, упершыню надрукаваны ў 1927 г. 30. Украінскі савецкі паэт, перакладчык паэмы «Рыбакова хата» на ўкраінскую мову. 31. Адзін з псеўданімаў, пад якім выступаў Якуб Колас.

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ У № 10

НАПРАВА: 1. Сатурн. 2. Пакрас. 3. Рыдван. 4. Апатыт. 5. Парана. 6. Натрый. 7. Анабас. 8. «Тартак». 9. Баксіт. 10. Сурдас. 11. Корбут. 12. Кліваж. 13. Клімаў. 14. Каркас. 15. Барана.

НАЛЕВА: 1. Сурмак. 2. Патэнт. 3. Рэкорд. 4. Андрас. 5. Плакат. 6. Нарцыс. 7. Антэна. 8. Тратыл. 9. Бархан. 10. Сектар. 11. Корцік. 12. «Карсар». 13. Клімук. 14. Клімат. 15. Баркас.

# ВЯСЁЛЫ КАЛАЎРОТ

гумарэскі · шаржы · пароды · мініяцюры · скетчы · каламбуры · байкі · эпіграмы

Віктар ШАЎЧЭНКА

## ДЭФІЦЫТНЫЯ ЦВІКІ

Гараджане асаджвалі гаспадарчыя магазіны. Завезлі цвікі. Самыя звычайныя. Толькі імпартныя. Хоць па якасці яны былі горшыя за айчынныя, але пакупнікоў вабіла ўпакоўка.

Праз тыдзень чутка аб дзівосных цвіках дайшла да Эдуарда Эдгаравіча Маргарынава. Маргарынаў, што называецца, захварэў заморскімі цвікамі.

Пасля таго, як Эдуард Эдгаравіч пазваніў самому Трафіму Трыфанавічу, а Трафім Трыфанавіч пазваніў Пецьку, аўтаслесару станцыі тэхабслугоўвання, а Пецька пазваніў дырэктару гаспадарчага магазіна, Эдуард Эдгаравіч трапіў у магазін з чорнага ўваходу.

— Мне б цвічкоў. Пачачак дванаццаць,— саромячыся, папрасіў Маргарынаў.

— А хоць сто. Вунь іх на прылаўку, хоць граблямі грабі,— зарагатаў дырэктар.

— Што, ужо ёсць у свабодным продажы? — не паверыў Маргарынаў.— То дзякую. Зайду іншым разам.

Іван АНОШКІН

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ

ГУМАРЭСКА

Начальнік аддзела Тарас Данілавіч зводзіў канцы з канцамі ў квартальнай справаздачы, калі ў ягоны кабінецік з цыгаркай у руцэ ўціснулася машыністка Роза Якаўлеўна. Тарас Данілавіч не так даўно па намаганню жонкі і ўрачоў кінуў курыць, таму апошнім часам тытунёвага дыму не пераносіў. Аднак толькі зморшчыўся: не рабіць жа заўвагу немаладой, паважанай жанчыне!

— Вось... Урэшце-такі дабіла,— паклала тая на стол стос шапаткой паперы.

— Дзякуй, Роза Якаўлеўна,— і Тарас Данілавіч зірнуў на гадзіннік.— Заўтра апошні дзень... Зноў быў бы нам з Гаўрылам Міронавічам прачуханец за затрымку...

— Прабачце, Тарас Данілавіч, што ад пільнай справы адрываю,— працягвала Роза Якаўлеўна.—Але хто ж, калі не вы... Дапамажыце, даражэнькі, выручце...

Тарас Данілавіч прывык ужо, што заўжды кагосьці выручаў, камусьці дапамагаў. І не толькі як старшыня прафкома.

— Вы ж усіх ведаеце,— ліслівіла Роза Якаўлеўна.— І вас усюды...

— Не ўсіх і не ўсюды,— пахмурна азваўся Тарас Данілавіч, хоць яму і прыемная была пахвала.— А што ў вас за справа?

— Сынка прашу ўладкаваць,— і Роза Якаўлеўна са скрухай дзьмухнула ў твар Тарасу Данілавічу струменемванючага дыму.— Жору... На трубаліцейны...

— Сходзіў бы сам у аддзел кадраў,— адмахваючыся ці то ад дыму, ці то ад самой Розы Якаўлеўны, параіў Тарас Данілавіч.— Рабочыя рукі на кожным заводзе патрэбны!

— У Жоры не рабочыя, а залатыя рукі... Другога такога класнага баяніста няхай яшчэ пашукаюць!

— Класнага баяніста... на трубаліцейны? — здзівіўся Тарас Данілавіч.

— Культмасавіком у прафілакторый... Там з учарашняга месца пустуе... Ахвотнікаў жадай божа!



Тарас Данілавіч уздыхнуў, пачухаў патыліцу і, зірнуўшы на свае паперы і настырную Розу Якаўлеўну, пацягнуўся да тэлефона.

— Ало!.. Іван Іванавіч? Добры дзень! Гэта цябе Дружкоў турбуе... Як жыццё-быццё?.. То і добра! Я чуў, што ў вас там вакансія... Не, не ў цэху — у прафілакторыі... Культмасавіка... Дык магу параіць... Такгак, маю добрага хлопца на прыкмеце... На баяне грае... Зенчык Жора...

— Па пашпарту Георгій,— усхвалявана падказала расчуленая мама.

— Словам, Георгій... То падашлю, шкадаваць не будзеце... —Кінуўшы трубку на рычагі апарата, выцер хусцінкай на ружовай лысіне кропелькі поту і, зноў адмахваючыся ад салодкіх слоў і горкага дыму Розы Якаўлеўны, зашамацеў паперамі.

...А назаўтра Тарас Данілавіч асабіста адвёз і ўдачна здаў па прызначэнню справаздачу і ў прыўзнятым настроі вяртаўся ў свой Дняпроўск. Зморany турботамі апошніх дзён і сённяшняй няблізкай дарогай, задрамаў на сваім мяккім сядзенні каля акна. Ды тут яго разбудзіў нейкі шум. Гэта на прыпынку ў аўтобус уваліліся два дзецюкі — адзін рыжы і, як балотная тычка, тонкі і высокі, другі чарнявы, прысадзісты, з вусікамі-кутасікамі пад носамгуляй. Па ўсяму бачна, хлопцы былі на падпітку, бо, не зважаючы на людзей, гучна размаўлялі і лаяліся. Высокі прыладзіўся на заднім сядзенні, рыжая галава ўпала на шчуплыя грудзі, аўтобусны салон скалануў храп. А ягонага сябрука сон не браў, ён соваўся туды і сюды, сіпата выкрыкваў брыдкія частушкі, чапляўся да маладзенькіх дзяўчат.

— Як вам не сорамна? — пачаў ушчуваць яго Тарас Данілавіч.— Хіба можна паводзіць сябе так у грамадскім месцы?!

— А табе, авечы плеш, што за справа? — гнеўна затрэсліся вусікі-кутасікі. — Пафіласофствуй яшчэ, дык пераліч рэбры!

А што, і пералічыць, здрыгануўся Тарас Данілавіч. Вунь які дужэц! Не хлопец — гімалайскі мядзведзь.

Ды тут падала голас бабуля з першага, інвалідскага месца:— А што на хулігана глядзець —здаць у міліцыю!

— Заткніся, старая! — агрызнуўся хуліган, але ж прысмірэў, няйнакш, меў з міліцыяй справу. А міма паплылі ўжо ўскраіны горада. Вось і аўтастанцыя. Як толькі «Ікарус» спыніўся, вусаценькі сігануў у дзверы.

— Жорачка!.. Сыночак!.. Ці шчаслівa даехаў?

Пачуўшы знаёмы жаночы голас, уражаны Тарас Данілавіч зірнуў у акно: расчуленая Роза Якаўлеўна ціскала ў абдымках сваю нашчадзь.

Пакуль Тарас Данілавіч услед за іншымі пасажырамі ступіў на асфальт, маці са сваім сыночкам былі ўжо далёка.

— Вось табе і добры хлопец,— з дакорам паківаў услед галавой Тарас Данілавіч.— Ну, Зенчык, пачакай!

## З-ПАД КАПЫТА ПЕГАСА

Сцяпан КРЫВАЛЬ

### ШУКАЮ... ЧАЛАВЕКА

...Няма на свеце бога,
з табою мы—багі.

Юрась СВІРКА.

**Я думаў доўга, многа,
Калі ўплятаў пірог:
Няма на свеце бога,
Ды і не было, дальбог!
З другога боку, мілы!,
Ну, чым жа не багі,
Хто мые рукі з мылам
І косіць хто лугі!
Яшчэ — хто шые боты
Суседу і сабе,
Шукае вішні ўпотай
Зімою... на вярбе!
Хто мые і хто вяжа,
Ля мора хто ляжыць,
Хто зрэдку ў лужу ляжа,
Каб Бахусу ўслужыць!
К чынам я вельмі строгі,—
Ад іх бягу ў сто ног!
Багоў на свеце многа...
Дык буду я — не бог!
Бо для паэта лекі —
Адкрыцці зноў і зноў:
Шукаць я... Чалавека
Пачну сярод багоў!**

Кінааператар Ю. МАРУХІН.



Кампазітар Л. ЗАХЛЕУНЫ.



Сяброўскія шаржы К. КУКСО.

## У ПАЛАТЫ САКРАТА

- **Сціпласць пісьменніка відавочная: яго творы мала аб чым гавораць.**
- **Ганарар — таксама ўклад, але не ў літаратуру.**
- **Калі не адкласці пытанне на заўтра, дык заўтра не будзе чаго вырашаць.**
- **Эгаісту мала любіць сябе, ён яшчэ не церпіць іншых.**

Давід НАХАМКЕС.

